ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 4 (2530)
ПЯТНІЦА
22
студзеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:









## СВЕЦЯЦЬ АГНІ БЕЛАРУСКАЙ АПЕРЭТЫ

*ПРЭМ'ЕРА... Хваляванне артыстаў, натоўп каля тэатральнага параднага, прадчуванне свята. 17 студзеня такі настрой панаваў у Мінску на Камсамольскай вуліцы. Тут, у памяшканні клуба імя Ф. Дзяржынскага, упершыню ў пасляваенныя гады адкрываў заслону Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР.*

*На адкрыцці тэатра прысутнічалі таварышы П. М. Машэраў, Ц. Я. Кісялёў, У. Ф. Міцкевіч, С. А. Пілатовіч, Г. М. Жабіцкі, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР Ю. Б. Колакалаў, П. Л. Коханаў, Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў.*

*Падрабязна пра адкрыццё наша газета расказвае на стар. 3. А побач вы бачыце тры здымкі з фотамазаікі, зробленай нашым фотакарэспандэнтам Ул. Крукам у першы дзень творчага жыцця беларускай аперэты.*

# З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!

## 17 СТУДЗЕНЯ АДКРЫЎСЯ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТР МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БССР

У гэты дзень вялікі натоўп цясніўся ля дзвярэй клуба імя Дзяржынскага. Яшчэ на праспекце чуліся пытанні:

— Няма лішняга білецікa?

Лішніх не было. Тыя, каму пашанцавала дастаць білеты, спяшаліся да ярка асветленага ўваходу ў радасным настроі, бо прэм'ера—заўсёды свята, а такая—удвая: першы спектакль новага тэатра.

І канечне ж, у такі ўрачысты вечар калектыў тэатра паказаў гледачам не толькі абяцаную прэм'еру. Пасля прывітальнага слова міністра культуры БССР М. Мінковіча адбыўся парадпралог, у якім была прадстаўлена ўся трупа тэатра. Прадстаўлена з гумарам і выдумкай, з песнямі і танцамі, як і патрабуецца ў тэатры аперэты. Гэта быў яшчэ адзін маленькі спектакль, у якім дружна ігралі мастакі, артысты і паэты з «Фіялкі Манмартра» І. Кальмана, хвацкія маракі з «Вольнага ветру» І. Дунаеўскага і персанажы гераічнай камедыі Ю. Семянякі «Спявае «Жаваранак».

Нарэшце пачаўся спектакль. На сцэне—зеленавата-сіні паўзмрок летняга вечара.

Задушэўна спяваюць дзяўчаты. Яны яшчэ не ведаюць, што гэта іх апошні мірны вечар... Потым будзе вайна, і ў ціхі гарадок над Бярэзінай прыйдуць фашысты, будуць забіваць, гвалціць, рабаваць, а ў вольны час піраваць і забаўляцца.

Чароўная спявачка казіно фройляйн Ірэн родам з тутэйшых мясцін. Яна па-нямецку пунктуальная. Кожны свой канцэрт пачынае роўна ў восем гадзін песняй пра жаваранка. Нямецкія афіцэры, якія апладзіруюць ёй, не здагадваюцца, што гэтая песня перадаецца ў эфір як пазыўныя адважнай падпольшчыцы...

Уважліва сочыць публіка за першымі крокамі акцёраў (для многіх з іх гэта сапраўды першыя крокі на сцэне), апладысментамі праводзіць кожны ўдалы нумар. У антрактах ідзе ажыўлены абмен думкамі.

Сярод гледачоў—многа дзеячоў культуры, мастацтва, літаратуры. Мы папрасілі некаторых з іх падзяліцца сваімі ўражаннямі з чытачамі «Літаратуры і мастацтва».

**Ларыса АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ,**
народная артыстка СССР.

— *З'яўленне новага тэатра—гэта падзея сапраўды хвалюючая і значная ў нашым жыцці. Прыемна, што тэатр адкрыў свой першы сезон гераічнай камедыяй з нацыянальнага рэпертуару.*

*Ад сённяшняга спектакля я атрымала вялікую асалоду. Добрая музыка, добрая пастаноўка, ёсць нямала здольных акцёраў. Пакуль цяжка меркаваць аб усіх, але ўжо можна вылучыць Наталлю Гайду (Ірына), Віла Бурцава (Дзмітрый), Уладзіміра Дзёгцева (штурмбанфюрэр Гофман), Уладзіміра Цітэнку (Віктор дэ Моль).*

*Мяне асабліва ўразіў узрост пераважнай большасці артыстаў. Выходзяць на сцэну зусім маладзенькія хлопцы і дзяўчаты, іграюць, танцуюць і спяваюць так шчыра, з такім захапленнем... Я хачу пажадаць маім юным калегам, каб, набываючы вопыт, яны не гублялі гэтага запалу, гэтай шчырасці.*

**Мікола ТКАЧОЎ,**
пісьменнік.

— *Я вялікі прыхільнік музыкі Юрыя Семянякі—кампазітара яркага меладычнага дараваання. Зусім нядаўна я з задавальненнем пазнаёміўся з яго новай операй «Зорка Венера». І вось—зноў прэм'ера. Зноў бяруць нас у палон яго цудоўныя напеўныя мелодыі...*

*Музычная камедыя—жанр у беларускім мастацтве амаль не распрацаваны. Будзем спадзявацца, што адкрыццё тэатра дасць штуршок для паспяховага развіцця гэтага жанру.*

**Віктар ВУЯЧЫЧ,**
лаўрэат Міжнароднага і Усесаюзнага конкурсаў артыстаў эстрады.

— *Я так хвалююся сёння, нібы сам выступаю на сцэне. Таму што ўяўляю, колькі працы, нерваў, натхнення ўкладаюць артысты ў такі спектакль—першы ў жыцці тэатра. Мне здаецца, сёння яны дабіліся кантакту з глядзельнай залай, яе шчырай сімпатыі.*

*Хоць у спектаклі яшчэ далёка не ўсё бездакорна, першае знаёмства з тэатрам радуе. Ёсць добрыя галасы, ёсць цікавыя акцёры камедыйнага плана. Магутнае гучанне хору нават здзіўляе — у ім зусім нямнога ўдзельнікаў. Адразу адчуваецца рука здольнага хормайстра Нэлы Андросавай.*

*Удала, мне здаецца, выбрана выканаўца галоўнай ролі Наталля Гайда. Яна сцэнічная, абаяльная, ну, і галоўнае, добра спявае. Па-мойму, публіка паспела ўжо яе палюбіць.*

*Мінск зараз мае і сваю аперэту. А горад наш славіцца сваімі мастацкімі калектывамі. Думаю, гэта да многага абавязвае і новы тэатр.*

**Юрый ЛОГІНАЎ,**
саліст аркестра тэатра оперы і балета БССР.

— *Мне вельмі прыемна адзначыць, што аркестр гучаў сёння добра. Адчуваецца, што многа і настойліва працаваў з маладым калектывам дырыжор Пётр Кірыльчанка. Асабліва ўдаліся аркестру сольныя эпізоды—«Полька», «Пасадобль», «Танга». Віншую калег з першым поспехам!*

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК,**
пісьменнік.

— *Мае добрыя словы—у адрас мастака Аляксандра Крайчука і балетмайстра Эдмунда Піно. Спектакль афармлены з густам, па-сучаснаму лаканічна, на добрым прафесійным узроўні. А Эдмунд Піно парадаваў гледача цікавай пастаноўкай харэаграфічных нумароў. Адчуваецца, што балетмайстар ведае і любіць аперэту.*

*Добрая рэжысёрская работа (пастаноўшчык Уладзімір Ажарэльеў). Работа нялёгкая, бо, на мой погляд, да лібрэта можна прад'явіць сур'ёзныя прэтэнзіі. Але пра гэта хай скажуць сваё слова рэцэнзенты. Мне ж сёння хочацца вітаць малады калектыў. Чакаем новых сустрэч.*

□

...Партызаны вызваляюць з рук ворагаў асуджаную на смерць Ірыну. Гучыць урачысты фінал—у гарадок над Бярэзінай уступаюць савецкія часці.

Доўга не сціхаюць апладысменты, яшчэ і яшчэ раз выклікаюць гледачы артыстаў і стваральнікаў спектакля. І раптам за заслонай — гучнае «Ура!». Артысты, не стрымаўшы радасці, кідаюцца ў абдымкі адзін да аднаго, вітаюць рэжысёра, аўтараў...

З днём нараджэння, юны тэатр!

Шчаслівай дарогі!

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**

---

**насустрач XXIV з'езду КПСС**

**Віктар ДАЙЛІДА**

# ВОСЬ ТАК МЫ І ЖЫВЁМ...

...Я ЛЮБЛЮ вёску ў любую пару года. Не толькі тады, калі цвітуць сады і ў белай квецені тонуць хаты. Не толькі тады, калі «зялёны шум» высокімі хвалямі ідзе па зямлі. Я люблю вёску яшчэ і тады, калі падмерзне зямля і скуе мароз лужыны; калі на першым лядку, уткнуўшы дзюбы ў пер'е, сядзяць тлустыя гусі і качкі; калі раніцой з камінoў хат высока ў неба роўна і прама валіць дым; калі вясёлай гурбой, грукаючы ботамі па мёрзлай зямлі, ідуць у школу дзеці; калі на дварах вішчаць вепрукі і гудуць паяльныя лямпы... А вепрукі вішчаць цяпер кожны дзень. Спачатку, яшчэ сцямна, чуецца прарэзлівы голас то ў адным, то ў другім канцы сяла, а потым, нібы які замежны джаз, гучыць свіная музыка па ўсім сяле. Хораша тады ў вёсцы, неяк весела і бадзёра! Прыемна глядзець, як валакуць мужчыны шырокіх, як лавы, асмаленых жоўтых вепрукоў у хаты свежаваць... Цяпер жывёлы ў рабочых нашага саўгаса шмат. Багатыя сталі хлявы жывёлай як саўгасныя, так і асабістыя. І гэта — выдатна!

...Што і казаць, мы сталі багатымі. Толькі вось культуры ў нас малавата.

У саўгасе ёсць тры прыстасаваныя клубы, але ўсе яны запушчаныя. І бяда ў тым, што няма здольных загадчыкаў клубаў. Ёсць толькі замыкалы і адмыкалы. А Слуцкі аддзел культуры не прымае ніякіх захадаў, каб дапамагчы клубам арганізаваць работу. Горш таго, у апошні час аддзел культуры дайшоў да таго, што нават ліквідаваў у клубах стацыянарныя кінаўстаноўкі, па прычыне, нібыта, недахопу кінамеханікаў. Доўга кіно ў клубах зусім не дэманстравалася. І толькі пасля настойлівых патрабаванняў камуністаў, інтэлігенцыі, рабочых саўгаса ўдалося паказ кінакарцін аднавіць. Але ў Чапліцкі клуб чамусьці не вярнулі стацыянарнай шырокаэкраннай кінаўстаноўкі, а толькі нейкую замухрыжаную перасоўку.

Зімою клубы не апальваюцца. І ў іх сыра, холадна, як у склепах. Тут дарэчы пакрытыкаваць і дырэктара саўгаса. Калі б ён гаспадарскім вокам зірнуў як след на клубы, справы адразу маглі б палепшыцца. Так, сапраўды, я не веру, каб не мог знайсці дырэктар саўгаса паліва для клубаў, каб не мог ён выкраіць сродкі для аплаты загадчыкаў (клубы саўгасныя). Трэба толькі пажадаць, паклапаціцца і не скупіцца, не эканоміць на серніках.

Не думае пакуль што ніхто і пра будаўніцтва новага тыпавога клуба на 400 месц, праект якога ёсць у саўгасе. Будаваць гэты клуб павінны Міністэрства харчовай прамысловасці, якому падпарадкоўваецца саўгас. Але сродкаў ніхто не адпускае, і клуб не будуецца.

І яшчэ пра што хочацца загаварыць на поўны голас, дык гэта пра лазню. Божа мой! Гэта ж у саўгасе да гэтага часу няма лазні! Правільней, у адной вёсцы яна была, але зараз развалілася, і ніхто не думае яе рамантаваць.

І тут, калі я загаварыў пра лазню, мне ўспомніўся артыкул Васіля Бурана «Вялікія праблемы малога жанру», змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» за 28 сакавіка 1969 года. У гэтым артыкуле В. Буран крытыкаваў маё гумарыстычнае апавяданне «Лазня». Вось што ён пісаў: «Часам проста крыўдна за пісьменніка, які траціць час і «порах» на тое, каб пасмяшыць чытача анекдотам пра старшыню калгаса, які вырашыў будаваць лазню пасля таго, як няўдала папарыўся ў хатніх умовах («Лазня» В. Дайліды)». Ну, па-першае, старшыня там не парыўся, а мыўся. Парыцца «ў хатніх умовах» немагчыма. А падругое, мяне страшна здзівіла, што шаноўны крытык не ведае жыцця! Я ж працую ў вёсках Беларусі дзевятнаццаты год. Шмат пабачыў кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, якія выдатна кіруюць гаспадаркамі, панабудоўвалі дамоў, свінарнікаў, кароўнікаў, канюшняў, а вось да лазні ў іх рукі не дайшлі. А ўсё таму, што за лазню ў іх ніхто не «здыме стружкі», ніхто не выкліча на бюро. А для саміх старшынь лазні непатрэбны. Навошта такому старшыні лазня, калі ж у яго ў руках машына? Кожную суботу ён пасадзіць у «казёл» усіх сваіх дамачадцаў і павязе іх у лазню. А калгаснік—дудкі, мыйся ў начоўках. Дык вось мая мэта і была — высмеяць такога кіраўніка, разлажыць яго, як кажуць, на лапаткі, а не пасмяшыць чытача нейкім анекдотам.

Паверце, я не крыўдую, што вы хацелі закрэсліць маё апавяданне. Не, чэснае слова: я ўжо выйшаў з таго ўзросту, каб крыўдзіцца. Я толькі занепакоіўся, што сваімі практыкаваннямі ў крытыцы вы шмат можаце нашкодзіць літаратуры.

Іншая рэч, калі б вы вялі гутарку, скажам, аб тым, як напісана апавяданне, які яго мастацкі ўзровень. Тады, пры наяўнасці грунтоўных доказаў, я павінен быў бы згадзіцца. А вы ж аб гэтым нічога не гаворыце. Паставіўшы за мэту падабраць некалькі апавяданняў тых аўтараў, якіх можна было б без страху расхвастаць, вы напралом пайшлі сваёй дарогай.

А мне думаецца іншае. Хай чытаюць людзі «Лазню», хай смяюцца з адсталых старшынь калгасаў, якія часам, залішне атлусцеўшы, забываюць пра быт калгаснікаў, як кажуць, за дрэвамі лесу не бачаць, за «ма штабнымі» праблемамі не бачаць «дробязных». А вось можа і закране каторага самалюбства, а вось можа і з'явіцца дзе ў вёсцы новая лазня.

І ў хвіліны такога роздуму мне ўспамінаюцца словы Івана Антонавіча Брыля, які на трэцім з'ездзе пісьменнікаў вельмі ж хораша адбрыў аднаго такога рэцэнзента. Вось што ён сказаў:

«...калі табе толькі для хлёсткага слова хочацца ўшчыпнуць мяне, або падставіць ножку і пахіхікаць, калі я скрывлюся ад болю,—дык табе нават і грош не цана, і не блытайся ты, калі ласка, ля ног». Разумныя словы!

●

У сувязі з развагамі аб нашай сучаснай вёсцы і аб літаратуры, звязанай з ёй, хочацца яшчэ сказаць некалькі слоў аб артыкулах А. Кулакоўскага, У. Юрэвіча і А. Вярцінскага, якія ў свой час з'явіліся ў «ЛІМе» і ў якіх аўтары выказвалі свае думкі аб праблемах сучаснай калгаснай вёскі. Шмат цікавага ў гэтых артыкулах, асабліва ў А. Вярцінскага. Мяне А. Вярцінскі проста здзівіў: паездзіўшы некалькі дзён па палях і вёсках следам за старшынёй калгаса, «як цень», ён здолеў глыбока пранікнуць у жыццё адной гаспадаркі і расказаў аб ёй цікава і захапляюча. І ўсё ж з некаторымі выказваннямі аўтараў артыкулаў не хочацца пагаджацца. Таму, кіруючыся прыказкай «з разумнымі людзьмі прыемна і паспрачацца», хачу ў чым-небудзь і запярэчыць.

Вось у артыкуле «Хаўрус з зямлёй» У. Юрэвіч шкадуе, што няма ўжо ў вёсцы хлеба, спечанага на кляновым лісці, і што не чуваць у хатах яго водару. Не ведаю, як хто, а я люблю мысліць канкрэтна, люблю браць прыклады з асабістых перажыванняў, з таго, што бачыў і адчуваў. Дык вось, шмат я паспрабаваў вясковага хлеба ў дзяцінстве і юнацтве. Еў і ацеслівы, і салодкі, і на закальцы, еў і такі, пра які гаварылі «гаспадыньцы хлеб не ўдаўся, пад скарынку кот схаваўся», еў і перапечкі, і праснакі, еў і чорны, і шэры, як зямля, падмешаны бульбай, еў і такі, пра які гаспадыні кажуць, «хоць у сцяну пускай», еў і светлы, як сонца, сеяны на сіта і на пасітак. І прызнацца, тады я не разважаў, які хлеб смачнейшы. Тады мне быў смачны ўсякі. Я тады баяўся толькі аднаго, хаця б ён, не звёўся са стала, не ўцёк з-пад настольніка. А ён часам уцякаў...

А цяпер я таксама часам перабіраю. Таксама ўспамінаю, які смачны хлеб пякла калісьці мая маці і асабліва цешча... Толькі не таму, што цяпер нібыта няма смачнага хлеба. Не, гэта таму, што тады мы былі галодныя, а цяпер наеліся. Я памятаю, як нядаўна адна бабка скардзілася: «Што цяпер... От некалі было: наварыш картоплі ды намакаешся лёку з-пад селядцоў, дык цэлы дзень толькі ваду папіваеш...» А ў той бабкі торт стаіць на стале, як рэшата, у халадзільніку ляжаць карпы, на сонцы румяніцца вешала кілбас. А ёй, бедалазе, бачыце, лёку захацелася...

Прызнацца, быў і ў мяне такі грэх. Некалі ў дзяцінстве я вельмі любіў палавінкі паранай капусты, залітыя агурочным расолам. І аднойчы стаў дакараць жонку. «Ведаеш, дарагая,— кажу, — нешта не тое ты мне ўсё гатуеш на абед. Зрабіла б ты нешта традыцыйна беларускае...» І папрасіў яе напарыць капусты.

— Дык калі ласка... — усміхнулася яна, — гэта можна...

Напарыла яна мне ёмкі саганок, наклала ў місу, заліла агурочным расолам і падае на стол. Ну, думаю, зараз «рубану». Паспрабаваў — спачатку быццам нічога, нават маленства ўспомніў, здалося, нібы памаладзеў. Запрашаю дзяцей. Толькі нешта, гляджу, дзеці мае, паспрабаваўшы, хутка насы паадварочвалі ад гэтай адмысловай стравы. А я ем, ем сілаю. Пасля не вытрымаў. Не, кажу, забяры ты, дарагая, гэтае «традыцыйнае» блюда ды цягні з печы сучаснага індычка... Вось было смеху. Атрымалася, якраз як у таго дзядзькі, што варыў клёцкі з сокам. Ці не так і ў Вас, дарагі Уладзімір Міхайлавіч, з хлебам на кляновым лісці. Праўда, я магу з Вамі нават крыху пагадзіцца: добрыя гаспадыні калісьці на кляновым

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

# ПЕРШАЕ,

## ВЫДАВЕЦТВУ «БЕЛАРУСЬ» — 50 ГАДОЎ

**М**ЕЎ я, пэўна, гадоў пяць, калі трапілася мне ў рукі першая кніжка. Траплялі яны, вядома, і раней, але тыя, ранейшыя, не засталіся ў памяці. Запомнілася от гэта: «Дзед і мядзведзь», казка Якуба Коласа. Кніжка пра тое, як дзед, збіраючыся ў млын, досвіткам асядлаў у расяным аўсе замест сваёй гнедай кабылкі мядзведзя і як гойсаў той мядзведзь з дзедам на спіне па пнях і карэннях, аж пакуль не зваліўся дзед, зачапіўшыся лапцем за нейкі корч... Тая кніжка запомнілася на ўсё жыццё: яна адчыніла акно ў шырокі і дзівосны свет роднай літаратуры.

Чаму я прыгадаў зараз тую першую сваю кніжку! Ды таму, што пад яе стракатай вокладкай я ўпершыню прачытаў словы: «Дзяржаўнае выдавецтва БССР».

Пасля прыходзілі новыя кніжкі — неверагодна-захапляючыя аповесці Я. Маўра, «Хлопчык і лётчык» Я. Купалы, «Дрыгва» Я. Коласа, «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, «Прыгоды цымбал» А. Куляшова... І на кожнай з іх знаходзіў адны і тыя ж словы: «Дзяржаўнае выдавецтва БССР». Я ўжо ведаў: так называецца фабрыка, дзе робяць кніжкі на роднай мове. Што ж тут дзіўнага...

І толькі значна пазней я дазнаўся, якім пакутліва доўгім і цяжкім быў шлях нашай роднай кнігі. Сягнуўшы ў свет «з падстрэшша рук Скарынавых», падараваная ім упершыню «...людем посполитым к доброму научению», яна неўзабаве пасля Скарыны была забаронена — разам з мовай таго народа, якому была адрасавана.

Доўгія стагоддзі яе не было, і доўгія стагоддзі народ наш гібеў у цемры. І хто ведае, калі б была яна, родная кніга, можа б і не вырваліся з грудзей слаўнага песняра зямлі нашай балюча-шкадобныя словы: «Эх, чаго нам ні прыйшлося, брацці мілыя, ужыць! Колькі талентаў звялося, колькі іх і дзе ляжыць невядомых, непрызнаных...» І хто ведае, калі б была яна, родная кніга, можа б не адным вершам дайшоў бы да нас таленавіты паэт-селянін Паўлюк Багрым, можа б не адным «Тарасам на Парнасе» захапляліся б мы сёння — талентамі наш народ не быў пакрыўджаны аніколі...

Пакутліва нараджалася яна на свет другі раз. Як ні стараліся царскія цівуны задушыць яго, друкаванае беларускае слова, яно ўсё ж вырывалася на свет. То пад Слонімам, то пад Беластокам з'яўляліся агністыя лісткі «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага. З чужых земляў вярталіся на бацькаўшчыну, пад саламяныя сялянскія стрэхі кніжачкі Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі з-пад Барысава — кніжачкі нашага народнага паэта Францішка Багушэвіча.

А на хвалях першай рускай рэвалюцыі ўзляцелі кніжкі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Багдановіча і Цёткі, Ядвігіна Ш. і Канстанцыі Буйло...

Ды ўсё ж па-ранейшаму рэдкія былі гэтыя вылеты. Родная кніжка вырывалася на свет з беднай саматужнай друкарні сяброў-прыхільнікаў, да таго ж часам няшчырых і часовых, вырывалася з-пад арышту і з-за кратаў. Памятаем жа: купалаўская «Жалейка» пасля выхаду была канфіскавана, а яе выдаўцы аддадзены пад суд...

Толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі, упершыню ў яе гісторыі, было створана Дзяржаўнае кніжнае выдавецтва. Выданне кніг для народа атрымала законныя правы, стала справай дзяржаўнай важнасці. Мара нашага першадрукара Ф. Скарыны і іншых дзеячоў беларускай культуры аб тым, каб кнігі на роднай мове траплялі ў самую гушчу народа, здзейснілася: пачалі выходзіць масавымі тыражамі кнігі, якія неслі народу веды, мудрасць, святло і вялікую праўду сацыялістычнага жыцця.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР было створана ў студзені 1921 года. Сёлета яму — з 1963 года яно называецца «Беларусь» — спаўняецца 50 гадоў. Гэта — важная падзея ў жыцці нашай рэспублікі, у жыцці нашай культурнай і, у прыватнасці, пісьменніцкай грамадскасці. У прывітанні Саюза пісьменнікаў калектыву супрацоўнікаў выдавецтва «Беларусь», накіраваным у сувязі з юбілеем, гаворыцца: «Гісторыя вашага выдавецтва — гэта гісторыя і нашай роднай літаратуры. Многія кнігі беларускіх пісьменнікаў, выдадзеныя вашым выдавецтвам, увайшлі ў залаты фонд духоўнай культуры народа. З году ў год выдавецтва бласлаўляе ў свет новыя творы вядомых пісьменнікаў і адкрывае новыя, маладыя таленты. Мы, беларускія пісьменнікі, заходзілі і заходзім у ваша выдавецтва, як у свой родны дом. Няхай жа ў гэтым доме заўсёды пануюць добры лад, зычлівасць, сяброўская ўвага да рукапісу і любоў да кнігі».

Напярэдадні юбілею я гутарыў з дырэктарам выдавецтва З. Матузавым.

— Чым, якімі поспехамі вы сустракаеце юбілей!

— У дні юбілеяў,— гаварыў Захар Пятровіч,— прынята азірацца назад — на тое, што зроблена за мінулыя гады. Азірацца назад часам карысна. Гэта дае магчымасць наглядна ўбачыць не толькі тое, чаго мы дасягнулі, але і зазірнуць у будучыню. Гаворка пра выдавецкія справы, пра наш учарашні і сённяшні дзень — гэта, натуральна, гаворка пра кнігі. Дык вось. Што выпускала выдавецтва ў першыя гады свайго існавання! Падручнікі і дапаможнікі для лікбезаў, палітычную, надзённую брашуру, мастацкую кнігу маладой беларускай савецкай літаратуры. На пачатку прадукцыя яго была невялікая. Але з кожным годам яна расла, і ўжо ў 1921 годзе ў рэспубліцы было выпушчана 196 выданняў агульным тыражом звыш 1,5 млн. экземпляраў. Многа гэта ці мала! Па тых маштабах — нямала. Ну, а калі мераць сённяшнімі меркамі! Летась, у юбілейным ленінскім годзе, толькі наша выдавецтва выпусціла 304 назвы кніг тыражом больш сямі мільёнаў экземпляраў і 147 назваў некніжнай прадукцыі тыражом каля шасці мільёнаў экземпляраў.

# ВОСЬ ТАК МЫ І ЖЫВЁМ...

і на дубовым лісці пяклі сапраўды смачны, духмяны хлеб. Але сёння мы маем не горшы, не... Сённяшні хлеб — смачны, таксама духмяны і, галоўнае дзяшовы. Я бываў у мінскіх булачных — якіх гатункаў там няма хлеба! Божа мой! Душа радуецца. Я нават Вас сустрэў, Уладзімір Міхайлавіч, у хлебным магазіне якраз пасля выхаду ў свет Вашага артыкула. Памятаеце, Вы тады трымалі ў руках доўгі, пляскаты белы, як сонца, батон. Паверце, мала якая гаспадыня такі спячэ.

Я таксама парачку такіх батонаў прыхапіў з сабой — цудоўныя!

А наш слуцкі хлеб! Мне здаецца, няма смачнейшага за яго. Можа каму прыйдзецца яго есці, дык ведайце, ён спецыяльна пазначаны зверху. На бохане стаіць літара «С». І нездарма адзін мінскі шафёр, пабываўшы ў Слуцку і пакаштаваўшы нашага хлеба, праслаў у рэдакцыю раённай газеты пісьмо, у якім дзякаваў слуцкім пекарам за іх умельства.

А нядаўна ў адным з магазінаў Слуцка была выстаўка вырабаў слуцкай пякарні. Божа мой! Чаго там толькі не было!

Добры хлеб пякуць яшчэ і ў Чырвонай Слабадзе Салігорскага раёна. У ім і закваска якраз такая, нібы ён спечаны ў дзяжы. А вось у Грэску хлеб няўдалы. Хоць грэх пра яго так казаць, але ён нясмачны, як у нас гавораць, хоць у сцяну пускай. Так што дзяжа тут ні пры чым, галоўнае ўмельства. І, думаю, наўрад ці варта нам, Уладзімір Міхайлавіч, раіць вясковым кабетам зноў даставаць дзяжу з гарышча. Ды, урэшце, яны нас і не паслухаюць. Ім лепей выскачыць у магазін, прыхапіць бохан за шаснаццаць ці васемнаццаць капеек і палажыць адразу на стол, чым рабіць рошчыну, мясіць цеста і пячы хлеб самім. Ды яны ўжо і пазабывалі, як яго пячы.

Ну, а калі каму захочацца паесці «свайго» хлеба, гэтак, як мне паранай капусты, дык калі ласка: хай вязе ў млын збожжа або купляе муку ў магазіне і пячэ. Ніхто, вядома, яму не забароніць...

●

У сваіх артыкулах А. Кулакоўскі, У. Юрэвіч і А. Вярцінскі ўзнімаюць яшчэ адно важнае пытанне — чаму ў апошні час назіраецца «залішняе ўцякацтва вясковай моладзі ў горад». Адказ на гэтае пытанне У. Юрэвіч і А. Кулакоўскі бачаць у тым, што мы не выхоўваем у нашых маладых людзей любові да зямлі. А. Вярцінскі пытанне «любоў да зямлі» ставіць пад сумненне. «Ці існуе яна на сённяшні дзень у сапраўднасці? Калі ж існуе, то што пад гэтым мы маем на ўвазе?» Крыху паразважаўшы, А. Вярцінскі так і не дае яснага адказу на гэтае пытанне. Ён толькі раіць, каб моладзь не ўцякала ў горад, «патрэбны нейкія іншыя, больш істотныя сродкі і меры, якія б маглі ўзбагаціць духоўную атмасферу вёскі».

Мне думаецца, уход моладзі з вёскі ў горад нельга вытлумачыць толькі адсутнасцю ў яе традыцыйнай любві да зямлі, якая ўсё ж, паважаны Анатоль, існуе. Сапраўды, мы мала, вельмі мала займаемся выхаваннем у моладзі гэтага, я таксама сказаў бы, святога пачуцця (я разумею «любоў да зямлі» ў лепшым сэнсе слова). Гэта асабліва заўважаецца ў школе, нягледзячы на наяўнасць вытворчага навучання, існаванне вучнёўскіх вытворчых брыгад, прышкольных доследных участкаў, гурткоў юннатаў і г. д. Прытым, мяне вельмі здзівіла, што ты, Анатоль, ставіш такое пытанне: «Калі ж існуе (любоў да зямлі), то што пад гэтым мы маем на ўвазе?» Ну, брат, тут ты мяне здзівіў з іншага боку. Ты ж сам — сын вёскі, сын зямлі — матухны-карміцелькі. Няўжо ж табе ніколі не хацелася, прыехаўшы дамоў, у родныя мясціны, прайсціся па полі, агледзець палеткі жыта, пшаніцы, парадавацца дружным усходам ярыны, палюбавацца сінім морам лёну? І часам нават засмуціцца, убачыўшы на палетку агрэх або абсеў, заараную дарогу ці глыбока, да глею, вывернутую разору? Я нямала бачыў людзей, пераважна пажылых, якія з вялікім замілаваннем глядзелі на звычайную раллю і радаваліся толькі ад таго, што палетак заараны акуратна і прыгожа. Ды што гаварыць, я і сам люблю поле, і часам, нягледзячы на дырэктарскі чын, маю нейкую ўнутраную патрэбу, асабліва вясной, хоць крыху патрымацца за плуг ці за сошку, няхай сабе хоць на сваіх сотках ці на прышкольным участку.

Я люблю той час, калі возяць на поле гной, садзяць бульбу. І можа каму нават пакажацца смешным, я люблю яшчэ і пах гною на полі. І хоць у час веснавой сяўбы сама цвітуць вішні, яблыні, грушы, хоць наша школа і мая кватэра тонуць у пахучай белай квецені (у нашым школьным садзе каля двухсот пладовых дрэў), мяне ўсё ж не так цягне ў сад, як у поле, дзе разбіваюць гной, аруць, сеюць. І я лічу сябе шчаслівым чалавекам, што жыве ў маёй душы гэтае святое пачуццё — любоў да зямлі. Ого, што значыць любіць зямлю! Любіць зямлю — гэта беражліва, па-гаспадарску яе выкарыстоўваць. Гэта значыць, рана, на золку ўстаць і бегчы на поле глядзець, ці ўзышоў хаця ж той ячмень, які ты сам сеяў, гэта значыць бачыць, як высоўваюцца з глебы зялёныя трубачкі кукурузы, адчуваць асалоду ад таго, што ступаеш босымі нагамі па мяккай раллі. І, напрацаваўшыся за дзень да сёмага поту, стомленаму, але задаволенаму ісці дахаты з надзеяй, што заўтрашні дзень прынясе новую радасць працы.

Ды што гаварыць... І я вельмі салідарны з А. Кулакоўскім, у якога і ў артыкуле ў «Літаратуры і мастацтве» і наогул у творчасці любоў да зямлі стаіць на першым плане.

А вось наша моладзь сапраўды не заўсёды з павагай і клопатам адносіцца да зямлі. Мне кожны год вясной і восенню прыходзіцца з вучнямі працаваць на палях саўгаса, і я заўважыў, як многія маладыя людзі фізічна не пераносяць працы на зямлі. Ёсць такія вучні, якія і вучацца выдатна, і прыкладныя маюць паводзіны, і ўвогуле не гультаі: яны могуць пілаваць і калоць дровы, рамантаваць парты, ахвотна дапамогуць шафёру, калі той рамантуе машыну, а вось на полі не хочуць працаваць.

Любоў да зямлі цесна звязана з гаспадарлівасцю, з беражлівымі адносінамі да тэхнікі, з эканоміяй. А вось такія рысы характару не заўсёды выхаваны ў нашых хлопцаў і дзяўчат. Не раз даводзілася назіраць, як нашы маладыя трактарысты ехалі ў суседнюю вёску на вяселле на трактары. Бачыў я яшчэ таксама, як два трактарысты ехалі па зарплату ў кантору за пяць кіламетраў... на двух трактарах, адзін за адным. Вось у гэтым кірунку ў нас яшчэ шмат работы сапраўды.

І ўсё ж не толькі адсутнасцю любві да зямлі можна вытлумачыць той факт, што моладзь «уцякае!» з вёскі. На мой погляд, галоўная прычына крыецца тут, бадай, у іншым, у тым, аб чым у агульных словах гаворыць А. Вярцінскі. Сапраўды, «патрэбны нейкія іншыя, больш істотныя сродкі і меры, якія б маглі ўзбагаціць духоўную атмасферу вёскі». А калі сказаць канкрэтней, патрэбна ўзнімаць агульную культуру сяла, паляпшаць культурнае і бытавое абслугоўванне. Бо вёска дагнала і перагнала нават гарадскога жыхара эканамічна, а вось у культурных адносінах ад горада яшчэ значна адстае. А вясковая моладзь цягнецца ў горад да навукі, да тэхнікі, да перадавой культуры. І яна не толькі хоча авалодваць навукай і тэхнікай, але і карыстацца яе паслугамі. А што ж атрымліваецца ў вёсцы: работа ў клубе шэрая, вуліца гразкая, аўтобус з горада ходзіць не сістэматычна, ён падуладны надвор'ю, лазня не пабудавана. Акрамя таго, у бытавым абслугоўванні насельніцтва кожны дзень здараецца які-небудзь прарэх. То прападзе святло па невядомай прычыне, то радыё перастане гаварыць, то тэлефон сапсуецца, то пошту прывязуць са спазненнем. А ў многіх вёсках тэлефонаў няма зусім. У вёсках Перавоз і Саўкова Капыльскага раёна, якія маюць прыкладна па 250 двароў, няма ніводнага тэлефона! І людзі з Перавоза ходзяць званіць у вёску Пуцяты Слуцкага раёна. А гэтыя ж вёскі вельмі багаты эканамічна.

Дрэнна абслугоўваюцца і вясковыя магазіны таварамі — і дэфіцытнымі і нават дробязнымі. Летам у вясковых магазінах не ўбачыш піва, марожанага, сітра, квасу.

Праўда, з цягам часу гэтая праблема вырашыцца. А цяпер пакуль што без моладзі нам абыходзіцца цяжкавата. Добра таму Шчарбаку, пра якога расказаў нам А. Вярцінскі. У Шчарбака нават у сенакос маецца лішак рабочай сілы. А ў нас наадварот, не хапае, вельмі не хапае, хоць тэхнікі таксама багата. І я ад дырэктара свайго саўгаса чуў можа сотню разоў: «Эх, няма людзей...» Вось таму, каб «затрымаць» моладзь у вёсцы, нам трэба, з аднаго боку, уздымаць культуру сяла, а з другога, сапраўды выхоўваць у моладзі любоў да зямлі і яшчэ — пачуццё грамадзянскага абавязку.

Праўда, невялікі страх, калі моладзь ідзе ў горад працаваць на заводы, на фабрыкі. Там таксама патрэбны рабочыя рукі. Але калі яна ўцякае ў горад, каб толькі схавацца ад сапраўднай працы, гэта ўжо небяспечна.

Не магу цалкам я пагадзіцца з А. Кулакоўскім, які ў сваім артыкуле «Зямля-матухна» разважае аб дамах, што пастаўлены для калгаснікаў у Слуцкім раёне. Відаць, Аляксей Мікалаевіч, Вы маеце на ўвазе домікі ў вёсцы Казловічы калгаса імя Кірава. Калі так, то я таксама бачыў іх. Сапраўды, хлеўшкі пры гэтых доміках малаватыя. І на сённяшні дзень зручней было б, каб яны былі хоць крыху прастарнейшыя. Але зразумейце і другое. Гэтыя домікі з малымі хлеўшкамі пабудаваны ў эканамічна багатым калгасе, дзе ўжо бярэцца цвёрды курс не на асабістую жывёлу і птушку, а ў першую чаргу, іменна на інтэнсіўнае развіццё грамадскай жывёлагадоўлі. Багаты працадзень у гэтым калгасе дазваляе многім сем'ям добраахвотна да мінімуму скарачаць асабістую гаспадарку. І калі Вы пішаце: «Цяпер, наадварот, ставіцца **заданне** інтэнсіўней развіваць жывёлагадоўлю і птушкагадоўлю **на прысядзібных участках калгаснікаў»**, то тут таксама не з усім можна згадзіцца. Цяпер ставіцца пытанне інтэнсіўней развіваць грамадскую жывёлагадоўлю і птушкагадоўлю, а што датычыцца асабістых гаспадарак, то на адным з Пленумаў ЦК КПСС з іх зняты тыя абмежаванні, якія былі на іх ускладзены некалькі гадоў таму назад. Акрамя таго, той курс, які быў узяты на механічнае скарачэнне і ліквідацыю асабістых гаспадарак, асуджаны нашай партыяй, як памылковы. Калгаснікам, рабочым саўгасаў

# БУЙНЕЙШАЕ...

Так, сёння наша выдавецтва — гэта магутнае прадпрыемства, якое выпускае ў свет масавымі тыражамі сацыяльна-эканамічную, палітычную, вытворчую, медыцынскую, мастацкую, дзіцячую, музычную літаратуру, а таксама паштоўкі, альбомы і іншую выяўленчую прадукцыю. Расказаць пра яе цяжка. Таму коратка спынюся толькі на выданні палітычнай кнігі і мастацкай літаратуры.

Назаву некалькі абагульняючых лічбаў. За гады Савецкай улады творы Маркса і Энгельса выдаваліся ў Беларусі 103 разы тыражом 823 400 экземпляраў, з іх на беларускай мове — 93 разы агульным тыражом 773 400 экземпляраў. Творы Уладзіміра Ільіча Леніна выдаваліся 386 разоў агульным тыражом 4 мільёны 285 тысяч экземпляраў, з іх на беларускай мове — 365 тыражом 4 мільёны 156 тысяч экземпляраў.

Адначасова з выданнем твораў Маркса, Энгельса, Леніна выдавецтва выпускае ў свет фундаментальныя навуковыя даследаванні па розных праблемах грамадскіх навук, манаграфіі вучоных, зборнікі дакументаў, папулярныя нарысы і брашуры, у якіх абагульняецца арганізацыйная, палітычная і ідэалагічная дзейнасць Кампартыі Беларусі, камсамола рэспублікі, работа Саветаў і прафсаюзных органаў.

У 1957 годзе выдавецтва пачало выпуск ваенных мемуараў актыўных удзельнікаў партызанскай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Зараз штогод выпускаецца 15—20 кніг былых камандзіраў партызанскіх атрадаў, злучэнняў, сакратароў падпольных партыйных камітэтаў.

— Якое месца займае ў выдавецтве выпуск кніг мастацкай літаратуры!

— Гэта — важнейшая задача выдавецтва. Пералічыць усё, што выпушчана намі, немагчыма — для гэтага патрэбна было б пералічыць усе здабыткі беларускай літаратуры за многія гады. Таму зноў звярнуся да лічбаў. Толькі за пасляваенны час выпушчана ў свет 3 423 кнігі беларускіх пісьменнікаў, твораў рускай класікі, пісьменнікаў братніх савецкіх рэспублік і кніг для дзяцей агульным тыражом 72 мільёны экземпляраў.

Якія галоўныя напрамкі нашай работы сёння!

Выходзіць — ужо некалькі гадоў — беларускі «Дзень паэзіі». Ён стаў не толькі творчай трыбунай нашых паэтаў, але і прапагандыстам лепшых здабыткаў нашай сучаснай паэзіі.

Чацвёрты год выдаецца серыя «Першая кніга паэта». За гэты час чытачы змаглі пазнаёміцца з творчасцю 33 маладых паэтаў. Штогод на першую сустрэчу з чытачом мы выводзім каля дзесяці маладых празаікаў і пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей.

Не так даўно ў нас была створана новая рэдакцыя мастацкай літаратуры — па выпуску збораў твораў, выбраных твораў і перакладаў. Часу прайшло не так і шмат, а ўжо выпушчаны зборы твораў Я. Коласа, К. Крапівы, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, І. Шамякіна, М. Лынькова, Я. Брыля, М. Лужаніна, пачата і працягваецца выданне збораў твораў П. Глебкі, П. Пестрака, І. Мележа, А. Кулакоўскага.

Нямала цікавых кніг выйшла ў серыях «Беларускі раман» (выдаецца на беларускай і рускай мовах), «Бібліятэка беларускай прозы», «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Бібліятэка беларускай драматургіі».

Штогод выходзяць на беларускай мове творы літаратур братніх народаў і замежных краін. На беларускай мове загучалі Пушкін і Лермантаў, Талстой і Тургенеў, Крылоў і Грыбаедаў, Горкі і Маякоўскі, Шаўчэнка і Руставелі, Фадзееў і Твардоўскі, Катлярэўскі і Лангфэла, Рыльскі і Судрабкалн і дзесяткі іншых паэтаў і празаікаў.

— Які ўдзел у рабоце выдавецтва прымаюць беларускія пісьменнікі!

— Самы непасрэдны. Па-першае, яны з'яўляюцца аўтарамі кніг, якія мы выпускаем. Па-другое, яны рэдагуюць, даводзяць да кандыцыі многія нашы кнігі. І, па-трэцяе, многія пісьменнікі працуюць у выдавецтве. Гэта — даўняя традыцыя. На пачатку ў ім працавалі Я. Купала і Ц. Гартны, пазней — М. Лынькоў. У 1942 годзе, калі пасля некаторага перапынку дзейнасць выдавецтва аднавілася, на працу да нас прыйшлі К. Крапіва, П. Глебка, І. Гурскі. Асабліва шмат пісьменнікаў працавала ў нас у пасляваенныя гады. Сярод іх — Я. Маўр, А. Якімовіч, Я. Брыль, І. Шамякін, Я. Скрыган, А. Кучар, Р. Няхай. Галоўнымі рэдактарамі нашага выдавецтва ў свой час былі М. Клімковіч, Я. Шарахоўскі, Я. Казека. Цяпер у выдавецтве працуе 10 членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Усе тры рэдакцыі, якія выпускаюць мастацкую літаратуру, узначальваюць пісьменнікі.

Ёсць у нас рэдакцыйныя саветы па мастацкай і дзіцячай літаратуры, асноўнае ядро якіх складаюць пісьменнікі. І яшчэ адно. Пісьменнікі аказалі нам вялікую дапамогу ў выпуску кніг успамінаў бывалых людзей. Сярод імён літаратараў, якія ахвотней за ўсё прыходзяць на дапамогу бывалым людзям, хачу назваць такія імёны — Аляксей Кулакоўскі, Рыгор Няхай, Аляксандр Міронаў, Алесь Асіпенка і інш.

У заключэнне нашай гутаркі прашу Захара Пятровіча расказаць аб тым, што ў самы бліжэйшы час з'явіцца на прылаўках кнігарань.

— Чытачоў «Літаратуры і мастацтва»,— гаворыць Захар Пятровіч,— у першую чаргу, вядома, цікавяць навінкі мастацкай літаратуры. Рады паведаміць, што ўжо выйшла некалькі кніг, памечаных гэтым, для нас юбілейным годам. Гэта — зборнікі прозы «Аксана» Б. Сачанкі, і «Вернасць» І. Сіняўскага, кніга паэзіі А. Куляшова «Сасна і бяроза» і кніга літаратурных партрэтаў пісьменнікаў, паэтаў і мастакоў А. Бялевіча пад назвай «Чарадзеі». У самы бліжэйшы час чытачы атрымаюць выбранае А. Лойкі, «Лясную песню» Л. Украінкі ў перакладзе Хв. Жычкі, зборнік «Паэты Парыжскай камуны» і томік паэзіі Ш. Петэфі на беларускай мове. Дарэчы, апошняя кніга адкрывае нашу новую серыю — «Паэты народаў свету».

**Мікола ГІЛЬ.**

---

і служачым створаны спрыяльныя ўмовы гадаваць жывёлу для асабістых патрэб і на продаж у сваіх гаспадарках. Але трэба разумець, што ў развіцці асабістай гаспадаркі ўсё ж ёсць граніца, і ніколі ніхто не ставіў пытання, тым больш, задання, аб інтэнсіфікацыі асабістай гаспадаркі калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Бо калі ісці на шляху інтэнсіфікацыі, то трэба сістэматычна пашыраць асабістую гаспадарку, павялічваць прысядзібныя участкі (а чым жа пракорміш сваю ферму?), што, безумоўна, прынясе толькі шкоду грамадскай гаспадарцы, а значыць, ужо з другога боку, і шкоду нашым агульным інтарэсам.

Давайце паразважаем, колькі жывёлы можа трымаць калгаснік, паспяхова працуючы ў калгасе? Карову, вепрука (можна два), куры (штук дзесяць). А калі дадаць яшчэ цялушку, свінню (інтэнсіфікацыя!), гусі, качкі, індыкі, то гаспадыні трэба сядзець дома і зусім не вылазіць на работу. Толькі для таго, каб адпасвіць чаргу за каровы, трэба тры дні. А мы ж забылі пра авечак. Чатыры авечкі — чатыры дні. Так што тыдзень будзе гібець «прыватнік» каля сваёй жывёлы. За гэты час ён можа нават забыцца, як калгас называецца. А хлапчука адпасвіць чаргу не знойдзеш і днём з агнём. За пяць рублёў ніхто не згаджаецца і пугай ляснуць. Нават саўгасныя каровы і то пастухі пасуць на конях (іх часам называюць «всадниками без головы»). А гусей ці качак таксама трэба пасвіць. Ды бачыце, вунь прапануюць жанчыне яшчэ і хлеб пячы дома на кляновым лісці... А хто ж будзе выбіраць калгасныя ці саўгасныя буракі, бульбу, слаць і падбіраць лён? Гэта ж не сакрэт, што ў пачатку восені ў многіх калгасах і саўгасах, у тым ліку і ў нашым, вучні працуюць на бульбе, зрываючы заняткі, а вясковыя жанчыны сядзяць на сваіх сотках па два тыдні.

Як відаць, пры вялікай асабістай гаспадарцы калгаснік ці рабочы саўгаса будзе перагружаны. І ў дзве сілі ён макаць не зможа. Значыць, сваю гаспадарку ён павінен «інтэнсіўна» развіваць за кошт грамадскай, сістэматычна змяншаючы ў ёй свой удзел. Ён бы рады справіцца і тут і там. Ды і часу ў яго не хопіць. Я ведаў аднаго такога «інтэлігента», нават не рабочага саўгаса і не калгасніка, а настаўніка, які быў заняты на рабоце ў школе каля чатырох гадзін. Астатні час ён быў дома, усё пыніў сваю гаспадарку. А гаспадарка ў яго была вялікая і развіваў ён яе даволі інтэнсіўна. І з цягам часу гэты «інтэлігент» так заегліўся, што лысіна яго была вечна ў сажы, а на брывах вісела аўсяная мякіна.

●

Няправільна Вы, Аляксей Мікалаевіч, разважаеце і аб сотках. Калгаснікі ж і рабочыя саўгасаў на сваіх сотках год за годам сеюць бульбу. А як вядома, бульбачка, каб не быць дробнай, патрабуе адпаведнага севазвароту. Вось чаму выгадна браць частку сотак у полі. Каб атрымаць большы ўраджай, гэты казалак зямлі можна перыядычна мяняць. Выгадна такая замена і калгасу. На ўгноенай зямлі пасля бульбы добра расце ячмень, авёс, пшаніца, кукуруза. А калі Вы кажаце, што пад агарод і сад мала пятнаццаці сотак, якія пакінуты пры кватэры, то тут я здзіўляюся зусім. Хопіць, дальбог хопіць! Прадаць будзе і гародніну і садавіну.

...Не, Аляксей Мікалаевіч, правільны курс узялі казловіцкія таварышы. Добрыя яны пабудавалі кватэры. А што датычыцца асабістай гаспадаркі, то, я думаю, яны таксама не праявяць паспешлівасці ў яе скарачэнні. Там працуюць разумныя людзі, спрактыкаваныя кіраўнікі. І ў будучым іх работа стане добрым прыкладам для многіх калгасаў і саўгасаў.

●

І яшчэ хацелася б пару слоў сказаць аб рэцэнзіі У. Юрэвіча на нарыс Я. Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму» («Літаратура і мастацтва» за 18 верасня 1970 г.) І жаданне гэтае ўзнікла таму, што вельмі ж, прачытаўшы нарыс, стала смешна і дзіўна, як разважаюць пра вёску некаторыя нашы таварышы пісьменнікі. Адразу агаваруся, не маю намеру даваць ацэнку ні нарысу, ні рэцэнзіі. Толькі мяне вельмі здзівіла думка аўтара нарыса, якая назойліва адчуваецца ў падтэксце і прабіваецца на паверхню ў самым канцы твора. Апісваючы свае Зубрэвічы, аўтар нарыса нібы хоча нам сказаць: жылі без хлеба, без дроў, хадзілі ў лахманах, самі былі нейкімі дзівакамі, і было так добра! А ў канцы робіць заключэнне ўжо больш ясна: «Няхай даруюць мне чытачы, калі тут адчуюць нейкі сум па ранейшых маіх Зубрэвічах. Гэта, мне здаецца, натуральна». Чаму — «натуральна»? І чаго па тых Зубрэвічах зачуханых сумаваць?

А яшчэ больш дзіўна, калі, расхвальваючы нарыс на ўсе лады, У. Юрэвіч піша ў рэцэнзіі: «Аўтар з публіцыстычным запалам адстойвае свае перакананні ў тым, што і сёння мы павінны пакланяцца і «закінутай некуды на гарышча старэнькай сяўні», і «забытаму, пачарнеламу, з'едзенаму шашалем цэпу», і «патрэсканым ступе і жорнам», і дзяжы, і печы, і калаўротам, і кроснам... Не пасылаць ім праклёны, а пакланяцца! Бо гэта — першааснова сялянскага ўкладу, сімвал яго гаспадарлівасці, працавітасці, неўтаймавання энергіі. Менавіта на гэтых падвалінах і вырасла сённяшняя ява вёскі — калектыўнасць працы, грамадскі характар узаемаадносін між людзьмі». Ну, што на гэтых «падвалінах» вырасла сённяшняя ява вёскі, нічога дзіўнага няма. У нетрах старога вырастаюць парасткі новага. А вось што на гэтых «падвалінах» выраслі «калектыўнасць працы» і «грамадскі характар узаемаадносін паміж людзьмі» — трэба падумаць... А калі і паверыць аўтару, то навошта ж у такім выпадку ўсё ж пакланяцца ступе і жорнам? Бо калі ісці па такім шляху, то трэба кіўнуць і каменнаму малатку, і стрэлам, і першабытнай дубіне.

Вы, Уладзімір Міхайлавіч, самі адчуваеце неабгрунтаванасць сваёй думкі. («Чую дакоры некаторых занадта ўвішных «перабудоўшчыкаў»). Прабачце, я не адношу сябе да іх ліку. Я цаню Вашу чыстую і святую любоў да старой вёскі, але ніяк не магу зразумець, навошта раптам Вам з аўтарам нарыса спатрэбілася пакланенне цэпу і жорнам, дзяжы (ах гэтая дзяжа!) і калаўроту? Добра, што хаця не прасніцы, калаўрот усё ж механізацыя.

Я разумею Ваша шкадаванне маладосці, звязанай з вёскай той пары, калі мужчыны круцілі жорны, таўклі куццю, жанчыны ткалі зрэб'е, а падлеткі сукалі цэўкі. Усё, што перажыта ў дзяцінстве, у юнацтве, вядома, дорага і люба нам. Толькі, даруйце, як чалавек, які трымаў у дзяцінстве ў руках плуг, і млён, і таўкач, і цэп, я ніколі не буду пакланяцца гэтым прыладам працы. Я буду рад, Уладзімір Міхайлавіч, бачыць гэтыя прылады ў Вашым музеі, з прыемнасцю пакажу іх дзецям, а пакланяцца буду машынам. Вось чаму заўсёды, заходзячы ў бацькоўскую хату, я з задавальненнем ступаю на камень, які мой стары незадоўга да смерці, нібы на памяць, выкінуў з жорнаў і ўкапаў ля парога замест прыступкі. Паверце, век не забуду таго горкага хлеба, які даваў гэты саматужны млын! Вось чаму цяпер, калі гляджу ў жніва на густы палетак збажыны, па якім адзін за другім кружаць шэсць-сем камбайнаў, а магутныя самазвалы не паспяваюць адвозіць пшаніцу ў засекі, у мяне падкочваецца да горла нейкі камяк, і я тады гатоў сапраўды пакланіцца гэтым цудоўным машынам! Я гатоў пакланіцца і таму млыну, што пабудаваны ў суседнім калгасе імя Чкалава, які за гадзіну прапускае праз свае камяні каля тоны збожжа. А якая цудоўная карціна тады, калі кружыць над полем самалёт, калі гудзе электрадойка, калі загараюцца агні Салігорска! Выйдзеш за вёску — не налюбавацца новым горадам. Гэта — гарніла будучых ураджаяў. Вось чаму хочацца пакланіцца! Вось чаму хочацца сказаць сардэчнае «дзякуй»!

●

...Мы жывём у цудоўны, багаты падзеямі час. Мы жывём з радасным хваляваннем, чакаючы грандыёзнай падзеі — гістарычнага XXIV з'езда КПСС. Мы ведаем, што там, на гэтым высокім форуме камуністаў, будуць падведзены вынікі нашай напружанай працы. І мы зноў будзем радавацца і ганарыцца тым, што дасягнулі.

Мы ведаем, XXIV з'езд КПСС дапаможа нам пераадолець цяжкасці. Ён павядзе нас да новых рэкордаў і перамог.

Нам, пісьменнікам, застаецца толькі ўслаўляць гэтыя перамогі і поспехі.

---

**ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ**





**Мы паведамлялі ўжо, што ў памяшканні Саюза мастакоў БССР экспануюцца работы М. Блішча. На нашых рэпрадукцыях — работы з гэтай выстаўкі: «На птушкаферме», «Дарога».**

*Паэтычная паверка*

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ



## ВАЛАЧОБНІКІ

Блукалі валачобнікі пад ранак за сялом,
За хмарамі падранымі ўжо зоркі не было,
Між імі, гарлапанамі, крычаў старэнькі дзед:
— Вясна прыйшла жаданая, прыйшла на цэлы свет.



Мяне між імі, юнага, тады там не было,
Аб гэтым і не ведала вясновае сяло,
І так яно праходзіла нямала зім і лет.
— Вясна прыйшла жаданая, — крычаў ахрыплы дзед.

Ах, дзе ж вы, валачобнікі!
І я ужо стары,
Чакаю вас ад раніцы да позняе пары.
Ах, дзе ж вы, валачобнікі,
і я гадамі дзед...
Вясна прыйшла жаданая, вясна-красна на свет.

●

Кілімы снежныя развесіла зіма,
Іх хараство не выказаць мне прозай...
Падняўся чуб на ёлачцы стырчма,
З-пад хусткі белай прыглядаецца бяроза.



Я западаю ў снег. І праз глыбокі след,
Як гномік, выглянуў стары пянёк адразу.
Маленькі дзяцел здабывае свой абед,
І срэбра сыплецца з галін амшэлых вязу.

Сініца ціўкнула: «Куды ідзеш, куды?..»
І ў сівізну кустоў нырнула нечакана.
Радзеюць сосен стройныя рады,
І вось яна, мая далёкая паляна...

Я да яе ішоў не дзень, а цэлы век,
Аж стомленае сонца глянула праз хмары.
Сціраю льдзінкі дробныя з павек.
Дзень добры, родныя сняжыстыя абшары.

●

Цяпло успомніў рук тваіх,
Адчуў вачэй святло.
Калісь дзялілі на дваіх
Усё, што ў нас было.

І час настаў, людское зло
Адзін я ў свет панёс,
Цябе са мною не было,
Такі нам выпаў лёс.

Мы ўсё дзялілі папалам.
Цяжар ліхіх хвілін
Табе ніколі не аддам,
Н[illegible] яго адзін.

●

Я абыходзіў чорных змей,
А гэтую бяду,
Якая злосці зласлівей,
Ніяк не абыду.
Яна гатова сорак джал
Пусціць у кроў маю.
Я да грудзей руку прыклаў
Як скованы стаю.
Ну што ж чакаць? Вазьмі і джаль,
Даткніся да мяне.
Хіба ў цябе з'явіўся жаль?
Ты можа не кранеш?

У зрэнках выспелых вачэй
Агонь вастрэй ляза.
Хачу ўцячы, ісці хутчэй.
Стаю, як хто звязаў.

## БУДУ КВЕТКАЮ-ШЫПШЫНАЮ



Назбіраю я ў бярэзнічку
Маладзенькага любезнічку,
Завару пітво над кручаю —
Ненасытнае, пякучае.

Чараўніцаю-вядзьмаркаю
Пашапчу над поўнай чаркаю.
Напаю цябе... Без памяці
Пахіснешся, як ад замеці.

Ахіне цябе бяссонніца,
І маё жаданне споўніцца:
Буду я тваёй адзінаю
Дзікай кветкаю-шыпшынаю.

. . . . . . . . . . .

Не знаходжу я ў бярэзнічку
Чараўнічага любезнічку,
Бо вядзьмарка маладзейшая
Тут хадзіла, пэўна, першаю,
І парвала ўсё да каліва
На ліхое тое варыва.

## СТАРЫ МАТЫЎ

Шаблю бацька вышчарбіў,
Сыне, адтачы.
Крумкаюць уводдалі
Сонна крумкачы.

Прасушы будзёнаўку,
Накармі каня.
За лясамі соўгае
Злосная гайня.

Сей зярно адборнае,
Поле заары,
Наша сонца ўзыйдзе
З-за гары.



Мал. А. САПЕТКІ.



ПЕРШ ЧЫМ ПАЧАЦЬ трэці артыкул, хочацца зрабіць невялічкае адступленне. Некаторыя супрацоўнікі студыі «Беларусьфільм», чые імёны мы, дарэчы, даволі часта называем, выказалі нам меркаванне, што ў нашых артыкулах нібыта «перакрэсліваецца» плён працы вялікага калектыву. Дык вось для іх скажам: мы далёкія ад таго, каб сцвярджаць, быццам студыя не мела і не мае пэўных поспехаў, што яна зусім не дае добрай творчай прадукцыі. Свой першы артыкул мы і пачыналі з пераліку гэтых поспехаў.

Але ж ні для каго не сакрэт, што гледачы слушна наракаюць на якасць большасці беларускіх фільмаў апошніх гадоў. І паток пасрэдных экранных твораў не спыняецца. Чаму? У прычынах гэтага мы і спрабуем разабрацца.

Другі артыкул наш абарваўся на тэме—рэжысёрскія кадры «Беларусьфільма».

У свой час на студыі было створана маладзёжнае творчае аб'яднанне на чале з прафесарам С. Скварцовым. Амаль кожны з тых, хто тады пачынаў і лічыўся маладым, шматабяцаючым, стварыў нешта такое, па чым можна меркаваць аб яго здольнасцях, творчай індывідуальнасці, асаблівасці бачання свету. Вось і пойдзем па імёнах, канкрэтных прозвішчах.

Пра В. Турава многа і добразычліва пісала крытыка. Спачатку—асобныя навелы ў зборніках «Расказы пра юнацтва» і «Маленькія летуценнікі». Фільмы, у якіх выявіліся лепшыя рысы творчага почырку і аднačасова пэўныя драматургічныя пралікі,—«Праз могілкі» і «Я родам з дзяцінства». Карціны «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой». Гэтыя апошнія работы В. Турава яшчэ не ўбачылі экрана, але, мяркуючы па паказах іх мастацкай грамадскасці, яны значна слабейшыя за папярэднія творы. У іх ёсць пэўнае самапаўтарэнне, слабасць у абмалёўцы вобразаў. Мо творчасць патрабуе няспыннага прытоку новых творчых ідэй, абнаўлення арсенала выяўленчых сродкаў? Мо Тураву варта было б падумаць аб новых тэмах, новых героях?

Б. Сцяпанаў стварыў навелу ў альманаху «Расказы пра юнацтва» (1961). Яго «Апошні хлеб» (1963) быў даволі стрымана прыняты прэсай. «Альпійская балада» (1966)—удалы ў цэлым фільм, у якім праявіліся значныя творчыя магчымасці рэжысёра. «Я, Францыск Скарына» (1969)—фільм, які мае і прыхільнікаў, і апанентаў.

Калі сочыш за датамі выхаду ў свет карцін Б. Сцяпанава, кідаюцца ў вочы яго працяглыя прастоі (па 3—4 гады). Гэта крыўдна, бо ўзрост Б. Сцяпанава—самы плённы, калі можна зрабіць галоўныя творы жыцця. Да таго ж Б. Сцяпанаў так і не здолеў пакуль што раскрыць сваю творчую адметнасць, у поўнай меры праявіць творчыя імкненні. Хочацца пажадаць яму большай актыўнасці, працы над тэмамі, якія сапраўды яго хвалююць.

Паказальны лёс на кінастудыі В. Вінаградава. Успомнім створаныя ім на «Беларусьфільме» поўнаметражныя карціны. У першай з іх—«Дзень, калі спаўняецца 30 год»—адчуваліся пошукі формы, імкненне да выяўленчай адметнасці. Пры абмеркаванні твора прысутныя з пафасам віталі нараджэнне таленавітага рэжысёра. Між тым, ацэнкі, мяркуючы па далейшых водгуках прэсы, маглі быць больш стрыманымі. «Пісьмы да жывых»—твор, у якім ужо больш адчувальныя былі адмоўныя рысы творчага стылю рэжысёра, такія, напрыклад, як непатрэбная ўскладнёнасць, вытанчанасць формы. Тым не менш крытычныя заўвагі ў адрас фільма на пленуме праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР літаральна заглушыў хор хвалебных галасоў. Толькі пазней, калі выйшаў наступны фільм Вінаградава—«Усходні калідор», дзе яшчэ больш праявіліся заганы, уласцівыя почырку рэжысёра, і фільм атрымаў рэзка адмоўныя водгукі прэсы, пачалі ўспамінаць, што нешта падобнае чулі і раней. А потым з'явілася карціна «Чакай мяне, Ганна!», пасля якой Вінаградаў паехаў са студыі з адмоўнай характарыстыкай Саюза кінематаграфістаў БССР.

А цяпер нагадаем цвярозыя галасы, якія гучалі раней, толькі да іх не надта прыслухоўваліся. Прынамсі, калі на пасяджэнні мастацкага савета 22 снежня 1962 года абмяркоўваўся рэжысёрскі сцэнарый «Шар распалены» (у будучым «Пісьмы да жывых»), удзельнікі абмеркавання адзначалі ўласцівую яму тэндэнцыю ахвярнасці замест паказу сапраўднага гераізму, імкненне аўтараў ссунуць акцэнты ў вобразе гераіні, іх цягу да меладрамы. У пратаколе таго пасяджэння між іншым чытаем:

С. СКВАРЦОЎ. Карціна можа быць так ці інакш раскадравана, але мяне цікавіць генеральная думка, рэжысёрская тэндэнцыя... Узнікае пытанне аб ахвярнасці за тое, у што «верую». Гэта няправільна. Ахвярнасць не ўваходзіць у марксісцкае разуменне рэвалюцыйнай барацьбы.

І. ШУЛЬМАН. З гэтага сцэнарыя атрымаецца цікавы фільм. Але ў многіх месцах таварышы стаяць на няправільных пазіцыях... Занадта ўсё ў сцэнарыі засімвалізавана, і губляецца таму жывая Вера.

А. МАКАЁНАК. Занадта многа сімволікі: і пачатак, і жанчына ў чорным, і ўнутраны маналог, многія дыялогі таксама напісаны не ў рэалістычным плане...

А. КУЛЯШОЎ. Спешка, у якой усё ў нас робіцца, адбілася на выніках. Работа праароблена вялікая. Але, пэўна, вялікая і глыбокая думка не знойдзена...

Аднак член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі М. Фрайман лічыў інакш.

— Рэнэ Клер гаварыў,—зазначыў ён,—што калі зроблены рэжысёрскі сцэнарый, то фільм гатовы, застаецца яго толькі зняць. У нас, на жаль, такіх сцэнарыяў няма. Аднак сцэнарый Кучара і Вінаградава—не простая раскадроўка. Матэрыял эмацыянальны і хвалюючы.

Але аўтары былі катэгарычныя.

В. ВІНАГРАДАЎ. Са многім згодзен, але са многім і не згодзен. Калі патрабаваць ад аўтара стварыць чалавека ідэальнага, мару, то страшна брацца за гэта.

А. КУЧАР. Я працаваў са многімі рэжысёрамі. У Вінаградаве я знайшоў рэжысёра, якому я бясконца давяраю.

Цвёрдасць аўтарскай пазіцыі, безумоўна, заслугоўвае павагі. Але ў тым выпадку, калі яна дыктуецца мастакоўскай прынцыповасцю. Калі ж яна саступае месца звычайнай упартасці, гэта ідзе на шкоду твору. Так атрымалася і з фільмам «Пісьмы да жывых».

Цяпер прасочым лёс яшчэ двух рэжысёраў, на якіх таксама ўскладалі ў пачатку 60-х гадоў вялікія надзеі — Р. Віктарава і Ул. Бычкова.

Р. Віктараў паставіў на беларускай студыі тры фільмы. Па карціне «Наперадзе круты паварот», пастаўленай па сцэнарыі А. Маўзона, яшчэ цяжка было меркаваць аб творчых магчымасцях пастаноўшчыка. Фільм «Трэцяя ракета» Р. Віктараў зняў нядрэнна, але ніжэй агульнага ўзроўню літаратурнай першакрыніцы. Потым былі пошукі новага сцэнарыя—і рэжысёр, не дачакаўшыся нічога добрага, згадзіўся прыступіць да работы над слабым сцэнарыем, які заляжаўся на «Масфільме»—«Каханая». Гэта была памылка. Як і можна было чакаць, фільм атрымаўся дрэнны, рэпутацыя Віктарава як рэжысёра рэзка знізілася. Урэшце рэжысёр таксама паехаў на новае месца работы.

Не працуе сёння на «Беларусьфільме» і Ул. Бычкоў, якому прадказвалі шчаслівы лёс у галіне прыгодніцкага дзіцячага фільма. У свой час Бычкоў, штатны рэжысёр студыі імя Горкага, не маючы дастатковай «загрузкі», папрасіў творчы адпачынак і прыехаў на «Беларусьфільм». Ён спадзяваўся атрымаць тут цікавую работу і, можа, застацца. Першы яго фільм «Увага, у горадзе чараўнік!», амаль не дэманстраваўся на экранах. Пасля з'явіўся «Горад майстроў»,—удалая, арыгінальная работа, у якой добрая драматургія садзейнічала выяўленню адметных рыс творчага почырку рэжысёра. Нарэшце—«Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», фільм, які бясконца перарабляўся яшчэ ў часе здымак, бо не была выяўлена асноўная жанравая накіраванасць сцэнарыя і абмалёўка вобразаў. У выніку—фільм лёг на паліцу. Рэжысёр пасля гэтай творчай няўдачы пакінуў студыю.

А мо яго лёс склаўся б і інакш, калі б у яго рукі трапіў сцэнарый, які б больш адпавядаў яго рэжысёрскай індывідуальнасці?

Такі сёння, праз дзесяць год, творчы лёс тых, хто шматабяцаюча пачынаў у пачатку 60-х. Над ім варта задумацца, каб тое ж самае не паўтарылася ў жыцці кінематаграфістаў, якія пачынаюць на «Беларусьфільме» свой шлях сёння ці пачнуць яго заўтра.

НЕ ЗАЎСЁДЫ гладка складаўся на студыі лёс не толькі рэжысёраў, але і асобных аўтараў, таленавітых беларускіх пісьменнікаў. Калі больш «пашанцавала» ў кінематаграфіі, напрыклад, А. Куляшову, М. Лужаніну, К. Губарэвічу, то шэраг іншых пісьменнікаў так і не знайшоў «агульнай мовы» са студыяй. А. Макаёнак, п'есы якога з вялікім поспехам ідуць па ўсёй краіне, так і не дачакаўся, каб на экраны выйшаў фільм па яго п'есе—«Рагаты бастыён». Прычына гэтага—у слабай кінарэжысуры.

Цяжка складаліся адносіны з кіно Ул. Караткевіча, два сцэнарыі якога, прайшоўшы бясконцы шлях перапрацовак і даробак, так і не ўбачылі экрана (па першым карціна не была знята, фільм па другім сцэнарыі накладзены на паліцу). «Не пашанцавала» ў кіно Я. Брылю, І. Мележу. Слабей літаратурных першакрыніц

Аскар ГАНТМАН,

Вольга НЯЧАЙ

# «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»— УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА...

АРТЫКУЛ ТРЭЦІ

аказаліся экранізацыі твораў І. Шамякіна, В. Быкава, А. Адамовіча.

Характэрны прыклад, які прывёў А. Карпюк у выступленні на сумесным пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў і прэзідыума праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР («Літаратура і мастацтва», 4 сакавіка 1968 г.). А. Карпюка запрасілі на студыю і прапанавалі напісаць сцэнарый па яго аповесці «Данута». Сцэнарый быў напісаны. Аўтару зрабілі заўвагі, ён іх улічыў, напісаў другі варыянт. Ды на тым усё і скончылася. Прайшло шмат гадоў, а студыя маўчыць.

Пра бясконцы шлях праходжання сцэнарыя па розных інстанцыях гаварыў і А. Асіпенка, які заўважыў, што «значна лягчэй напісаць аповесць і аддаць яе ў часопіс».

На абмеркаванні гаварылася аб неабходнасці больш цеснай садружнасці пісьменнікаў і кінематаграфістаў. Але пакуль што не створаны такія ўмовы, пры якіх пісьменнікі ахвотна неслі б свае задумы, свае новыя творы на студыю.

ВЕЛЬМІ востра сёння стаіць і пытанне кадраў работнікаў студыі на самых розных ступенях.

Сярод дырэктараў карцін былі 2—3 вопытныя кіраўнікі, але больш было зусім выпадковых людзей. Нават сярод лепшых дырэктараў не было ніводнага з вышэйшай спецыяльнай адукацыяй. Таму, вядома, і ўплыву на творчы лёс фільма яны не мелі. Па сутнасці, яны былі намеснікамі рэжысёраў-пастаноўшчыкаў па забеспячэнні.

Звычайна рэжысёры падбіралі сабе «зручных» дырэктараў, якія б не лезлі «не ў сваю справу». І таму роля дырэктараў на студыі была прыніжана. Калі дырэктар імкнуўся прымусіць рэжысёра ўкласціся ў намечаныя тэрміны здымак і каштарыс, рэжысёр адразу ж накіроўваў на яго скаргу ў дырэкцыю студыі. Вядома, пры такой сістэме работы зрываліся тэрміны выпуску фільмаў, і з-за якой-небудзь пастановачнай групы ў пяць чалавек цярпеў увесь калектыў.

Вельмі важная фігура на студыі— другі рэжысёр, які павінен быць «правай рукой» пастаноўшчыка. Акрамя двух чалавек—Ю. Рыбчонка і Ю. Філіна—усе астатнія другія рэжысёры бясконца мяняліся. Часта іх бралі з асістэнцкай групы без дастатковай падрыхтоўкі і ведання справы.

Што датычыць асістэнтаў, на якіх ляжаць адказныя абавязкі на здымачнай пляцоўцы, то яны настолькі часта мяняліся, што цяжка было нават запомніць іх прозвішчы.

За гэты перыяд змянілася многа рэжысёраў, аператараў, намеснікаў дырэктараў і адміністратараў карцін, і, вядома, такая цякучасць кадраў не магла не адбіцца на якасці выпускаемых фільмаў.

У 1968 ГОДЗЕ адбылося аб'яднанне студый. На «Беларусьфільме» здымаюцца цяпер мастацкія, тэлевізійныя, навукова-папулярныя і хранікальна-дакументальныя фільмы. У адпаведнасці з гэтым створаны тры творчыя аб'яднанні. На чале кожнага стаіць свой дырэктар.

Пасля розных перамен, якія адбыліся за апошнія гады, у аб'яднанні мастацкіх фільмаў працуюць наступныя кінарэжысёры: Ул. Корш-Саблін, Л. Голуб, А. Спешнеў, І. Шульман, В. Тураў, Б. Сцяпанаў, І. Дабралюбаў, Ю. Дубровін, М. Калінін, Л. Мартынюк, В. Рубінчык.

Аднак з усёй колькасці рэжысёраў, якія сёння ставяць фільмы, на нашу думку, толькі некаторыя падаюць сапраўды плённыя надзеі.

А між тым кінарэжысёр—асноўная творчая фігура на студыі, ад якой у першую чаргу залежыць якасць выпускаемых фільмаў.

Калі выпускнікі тэатральных інстытутаў у залежнасці ад іх здольнасцей трапляюць пасля скапчэння вучобы ў саюзныя, рэспубліканскія альбо абласныя тэатры, у самадзейнасць, то кінарэжысёры, куды б яны ні трапілі, здымаюць фільмы для саюзнага экрана. Таму маральная адказнасць на іх ляжыць значна вышэйшая.

Зыходзячы з гэтага, магчыма, карысна для справы было б, каб рэжысёра, які не праявіў сябе належным чынам на самастойнай рабоце, пераводзілі ў другія рэжысёры альбо знаходзілі яму іншую работу. Успомнім, якія матэрыяльныя страты могуць нанесці рэжысёры, калі яны не адпавядаюць свайму прызначэнню. Напрыклад, П. Васілеўскі паставіў на нашай студыі два фільмы, якія былі пакладзены на паліцу. Гэта абышлося дзяржаве ў 500—600 тысяч рублёў.

Таму важнай задачай студыі, на нашу думку, з'яўляецца ўзмацненне рэжысёрскіх кадраў. Але вядома—не за лік выпадковых людзей, якія сядзяць на чамаданах, чакаючы першага выпадку, каб перайсці на новае месца...

Мэтазгодна было б на працягу некалькіх гадоў адбіраць з ліку студэнтаў нашага тэатральна-мастацкага інстытута найбольш здольных студэнтаў трэцяга курса, якія імкнуцца да працы ў кінарэжысуры, і пасылаць іх для завяршэння адукацыі ў інстытут кінематаграфіі, як гэта было зроблена з В. Рубінчыкам.

З тэатральна-мастацкага інстытута таксама карысна было б штогод папаўняць групу другіх рэжысёраў—з ліку тых, хто мае арганізацыйныя здольнасці. Пакуль на студыі ёсць толькі 2—3 сапраўды добра падрыхтаваныя другія рэжысёры.

Абнавілася сцэнарна-рэдакцыйная калегія студыі. Галоўным рэдактарам стаў М. Лужанін, членамі сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі — Г. Таран, М. Фрайман, Ф. Конеў, С. Палякоў, А. Дзялендзік, пазаштатнымі членамі калегіі — А. Куляшоў, А. Макаёнак, І. Шамякін.

Цяпер студыя выпускае штогод 5—6 мастацкіх фільмаў. Калі б кожны член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі штогод знаходзіў аднаго аўтара і разам з ім ствараў паўнацэнную літаратурную аснову будучага фільма,— студыя была б забяспечана новымі сцэнарыямі. Магчыма, варта было б увесці прынцып матэрыяльнай зацікаўленасці, каб за новы сцэнарый, створаны аўтарам з удзелам рэдактара, апошні атрымліваў адпаведную прэмію. Гэта магло б стымуляваць работу рэдактараў, накіроўваць іх большую ўвагу на пошукі новых імён і талентаў.

Для таго, каб студыя стварала самабытны рэпертуар і сапраўды мела адметнае творчае аблічча, па меншай меры палова сцэнарыяў павінна штогод ствараецца беларускімі аўтарамі. У Саюзе пісьменнікаў БССР ёсць многа таленавітай моладзі. На карысць і беларускай літаратуры, і кінематаграфіі пайшло б, калі б яна была прыцягнута да творчасці ў галіне кінадраматургіі.

Аднак нават таленавіты пісьменнік, які не ведае спецыфікі кіно, не зможа адразу напісаць добры кінасцэнарый. Праводзімыя студыяй за апошнія гады двухтыднёвыя семінары не могуць даць дастатковых ведаў. Мабыць варта было б стварыць для 10—15 маладых пісьменнікаў гадавыя сцэнарныя курсы. Пэўныя дысцыпліны яны маглі б вывучаць завочна з дапамогай педагогаў Інстытута кінематаграфіі. У правядзенні заняткаў з імі маглі б удзельнічаць члены сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, кіназнаўцы і рэжысёры студыі.

Акрамя гэтага, каб не паўтаралася практыка падбору на іншых студыях сцэнарыяў, якія там «заляжаліся», варта было б заказваць сцэнарыі на 2—3 гады наперад па пэўным плане лепшым кінасцэнарыстам краіны.

Зараз на студыі ёсць добрыя кадры аператараў—А. Булінскі, А. Забалоцкі, Ул. Акуліч, А. Аўдзееў, Ю. Марухін і іншыя. Добра праявілі сябе мастакі Я. Ганкін, Ул. Белавусаў, Ю. Альбіцкі, Ул. Ігнацьеў, Я. Дзяменцьеў. Ёсць прафесійна добра падрыхтаваныя гукааператары.

Не будзем пералічваць прозвішчы аператараў, мастакоў, гукааператараў, дырэктараў, другіх рэжысёраў, асістэнтаў і іншага персаналу, які ўваходзіць у лік здымачных груп.

Больш складаная акцёрская праблема. На працягу 60-х гадоў наша студыя вельмі мала здымала беларускіх акцёраў. У свой час этапам для студыі стаў фільм «Двойчы народжаны», у якім здымаўся Ул. Крыловіч. Неацэнным укладам у летапіс беларускага кіно ўвайшлі фільмы-спектаклі 50-х гадоў, якія захавалі на плёнцы аблічча і сцэнічнае майстэрства славутых майстроў тэатра. Нельга недаацэньваць вопыт тэлевізійных спектакляў «Крах» і «Людзі на балоце», у якіх зняліся з вялікім поспехам беларускія артысты, даказаўшы сваю тэле- кінагенічнасць.

Неаднаразова пытанне выкарыстання ў кіно нацыянальных акцёрскіх кадраў востра ўзнімалася ў друку і на розных пасяджэннях. Але калі паглядзець цітры тых фільмаў, што выпускаюцца на «Беларусьфільме» сёння, па-ранейшаму кідаецца ў вочы стракатасць прозвішчаў акцёраў, набраных з усіх канцоў краіны. Беларускіх артыстаў у асноўным бяруць на нязначныя эпізоды.

Вельмі добра, што зараз у Інстытут кінематаграфіі прынята «дзевяць шчаслівых»—дзевяць маладых беларусаў з розных абласцей рэспублікі. Але гэта яшчэ не вырашэнне праблемы. Наш тэатральна-мастацкі інстытут па палажэнні выпускае артыстаў тэатра і кіно, але ў галіне кіно яны ніякай падрыхтоўкі не атрымоўваюць. Вельмі мэтазгодна было б увесці лекцыі і практычныя заняткі па кінамастацтву, якія б праводзілі кінарэжысёры «Беларусьфільма», кіназнаўцы.

На студыі павінен быць акцёрскі аддзел, а не толькі інспектар пры аддзеле кадраў. Такое становішча апраўдана ў Прыбалтыцы, дзе на студыях у год выпускаюцца 1—2 фільмы.

Вырашэння патрабуе і «дырэктарская праблема». Рыхтаваць дырэктараў карцін, на нашу думку, добра было б з ліку студэнтаў інстытута народнай гаспадаркі (прыблізна з 3-га курса). Трэба падбіраць здольных людзей, пасылаць іх спачатку на практыку на студыю, а потым яны прыходзілі б сюды на сталую працу...

«БЕЛАРУСЬФІЛЬМ» сёння — складаны комплекс праблем, творчых і вытворчых.

Ужо дзесяць год студыя працуе ў новым памяшканні. Ёсць сучасная тэхніка, ёсць усе магчымасці для стварэння добрых і выдатных фільмаў. Шчырае жаданне ўсіх, каго хвалюе стан нацыянальнага мастацкага кіно,—каб гэтыя магчымасці рэалізаваліся. Каб наступнае дзесяцігоддзе было творча больш плённым, чым папярэдняе.

**АД РЭДАКЦЫІ. Прымаючы да друку артыкулы А. Гантмана і В. Нячай «Беларусьфільм» — учора, сёння, заўтра», рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» кіравалася тым, што і сапраўды наша мастацкае кіно ў апошнія гады побач з асобнымі цікавымі па ідэйна-мастацкіх якасцях стужкамі выпускае многа фільмаў пасрэдных, з аблегчанай праблематыкай, схематычнымі сюжэтамі, без паглыблення ў жыццёвыя канфлікты сучаснасці, у чалавечыя характары.**

**З клопатам пра заўтрашні дзень мастацкага кінематографа рэспублікі — а ўсе мы хочам бачыць яго вартым часу і патрабаванняў, якія прад'яўляюць да мастацтва партыя і народ,—і напісаны гэтыя артыкулы. Зразумела, тэма аўтарамі не вычарпана, а некаторыя ацэнкі фільмаў і некаторыя думкі могуць выклікаць спрэчкі.**

**Рэдакцыя спадзяецца, што творчыя работнікі кіно, пісьменнікі, дзеячы мастацтва, нашы чытачы адгукнуцца на артыкулы А. Гантмана і В. Нячай і на старонках газеты працягнуць гаворку пра «Беларусьфільм» у імя памнажэння тых здабыткаў, якія дасягнуты былі ў лепшых стужках беларускім мастацкім кінематографам.**

ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ

## МАЙСТАР «ЛЕКАРСКІХ» НАВУК

**Зімовая Нарач няўтульная. Дзьме з возера маразяны вецер, хіба толькі на лясных сцяжынках зацішна. Глухавата, маркотна, нібы за летнюю перанаселенасць і тлумнасць Нарач бярэ на зіму адгул.**

**Толькі ў двух прыбярэжных гмахах няма цішыні. Сюды круглы год прыязджаюць адпачываць людзі, а то і падлячыцца, паспраўнець.**

**Яшчэ не ўстаеш з пасцелі, сон яшчэ напалову трымае цябе ў сваіх абдымках. А тут...**

**— Добрай раніцы, дарагія таварышы. Сёння панядзелак... Паслухайце план культурна-масавай работы на сёння...**

**Гэта гаворыць Мікола Клімовіч, культмасавік санаторыя, наш любімец. А перад яго бадзёрымі словамі з рэпрадуктара чулася неназойлівае, трохразовае: «Ку-ка-рэ-ку-у-у!..» Хітры Мікола на выдумкі, заўсёды нешта прыдумае. Гэтае «выступленне» пеўня з наднарачанскай вёскі Купы— таксама яго рук справа. З самай раніцы ўмудраецца Клімовіч паддаць санаторнікам дыхту, падняць іх тонус.**

**...Працэдуры скончыліся. Наступае час, які пазначаны ў распарадку санаторнага дня, як час «культурна-масавых мерапрыемстваў». Гэта за іх і адказвае Мікола Аркадзьевіч. Ды хто яго так называе-ўзвялічвае! Проста Коля ды ўсё... Наш добры майстар смеху Міколка — яму ж усяго дваццаць два гады. Сярод зімовага народу на Нарачы ён, бадай, самы маладзейшы.**

**Вядомы мне барысаўчанін, інвалід Айчыннай вайны, такую гаворку вядзе з навічком:**

**— Ну, што такі хмуры?**

**— Ат... Дарэмна, мабыць, прыехаў зімою. Сумна тут у вас, горад далёка, дзецца няма дзе.**

**— У нас не сумна. Ты быў на другім паверсе? Не? Тады хадзем хутчэй месца займаць, сам пабачыш...**

**Іду і я за імі. Перад уваходам у залу адпачынку вісіць вялікая аб'ява: «Сёння прэм'ера вадэвіля Леапольда Родзевіча «Збянтэжаны Саўка».**

**Сцэна яшчэ занавешана. Па дынаміку аб'яўляюць дзеючых асоб і выканаўцаў. Кожны праходзіць перад гледачамі «ў вобразе», кідае смешныя рэплікі і хаваецца за заслонай. І вось пачынаецца спектакль, зала адпачынку раз-пораз узрываецца смехам. Ролі выконваюць медсёстры санаторныя, кухаркі, па-сапраўднаму пераўвасабляюцца . Але лепш за ўсіх іграе, зразумела, наш Мікола. Яго Саўка жывы і каларытны. Дэкарацыі—таксама справа рук Клімовіча, зроблены яны проста і па-мастацку.**

**Потым яшчэ адна вясёлая аднаактоўка, потым яшчэ адна... Вялікі вечар беларускай аднаактовай камедыі. Цудоўны вечар!**

**— Вой, жывот забалеў... — падштурхоўвае мяне локцем трактарыст з Брэстчыны.**

**Санаторый кладзецца спаць. Чуваць з дынамікаў апошнія развітальныя словы Міколы: «Спакойнай ночы!» А заўтра зноў то з вясёлымі песнямі, то з лектарам-міжнароднікам ці вучоным-біёлагам, што не адзін год вывучаў флору і фауну Нарачы, то з дасціпнымі вершамі-байкамі пачнецца «час культурна-масавых мерапрыемстваў». Умее абмаладзіць санаторнікаў Клімовіч, у яго гуляюць у гульні ўсе, забываючы на ўзрост. У яго і штрафы своеасаблівыя — то беларуская полька са «смаргонскім выхадам», то народная песня, то дэкламацыя. Часам цэлы вечар ён вядзе сам, адзін — байкі, народныя жарты, прымаўкі, песні, гумар нашых пісьменнікаў. Любіць ён гумарыстычныя вершы, асабліва Гілевічавы са зборніка «Ці грэх, ці 2», байкі Крапівы, сатырычныя творы украінскіх паэтаў і пісьменнікаў Сцяпана Алейніка і Астапа Вішні, «звышмастацкія» творы Яўгенія Сазонава з «Клуба 12 крэслаў», «Литературной газеты», мудрасці Казьмы Пруткова.**

**Найлепш яму ўдаюцца вечары гумару, розныя КВЗ, «У коле сваёй сям'і», «Адпачынак — справа рук саміх адпачываючых». У кожным ён ухітраецца заняць як мага больш санаторнікаў.**

**— Весяліць, дзякуй яму... Я ўжо трэці год тут адпачываю, — гаворыць мне суседка па стале Алена Аляксандраўна, — і кожны год ён такі — ні канца, ні краю яго выдумцы. Весяліць, прымушае забывацца на хваробу, а ён жа і сам не вельмі здароўчаны. Нядаўна ў Мядзельскай бальніцы са страўнікам ляжаў... Каб яму яшчэ ўмовы для жыцця і працы стварылі, то было б яшчэ лепш. А то жыве ў палаце, харчуецца невядома дзе. А чалавек жа нядаўна ажаніўся...**

**Я потым гаварыў з з самім Клімовічам. Працуе ён у санаторыі чацвёрты год, скончыў Гродзенскае культасветвучылішча. Скардзіцца, што не вельмі паважае і цэніць яго работу адміністрацыя санаторыя, не цэняць тэрапію смеху. Вучыцца ён цяпер завочна на юрыдычным факультэце універсітэта, прыцэл такі—змяніць з часам сваю спецыяльнасць.**

**— Мікола, такі паварот? А як жа з мастацтвам? — шчыра шкадую я.**

**— Мастацтва пастараюся не нідаць, — адказвае ён.**

**Г. ДАМАШОВЕЦ.**

Надрукавана ў «Маладосці»

Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ПЕРШАПАЧАТАК НАРОДНАГА ПОДЗВІГУ

## АБ РАМАНЕ Івана ЧЫГРЫНАВА «ПЛАЧ ПЕРАПЁЛКІ»

ПРАЧЫТАЎШЫ ў рамане Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі» першы абзац: «Ціша стаяла незвычайная — у наваколлі больш не чулася таго грукату і гулу матораў, што прынесла ў забесяддзе вайна», — некаторыя прамовяць скептычнае: «Зноў пра вайну». І памыляцца. Моцна памыляцца. Бо пісьменнік не толькі дэбютаваў у новым для яго жанры, але і паспрабаваў заглыбіцца ў самыя карані і вытокі той гістарычнай з'явы, якая атрымала назву ўсенароднага змагання з фашызмам. Заглыбіцца з адчуваннем павышанай зацікаўленасці маральным станам асобы і грамадства, асэнсоўваючы ў новым адзінстве жыццё чалавека і жыццё народа ў пару моцнага сацыяльнага ўзрушэння. І. Чыгрынаў спрабуе адшукаць абагулены мастацкі вобраз часу. У гэтым шмат памагла папярэдняя яго практыка як навеліста, якая выглядае цяпер добра арганізаванай і мэтанакіраванай разведкай тэмы, што ляжыць у аснове рамана — тэмы народа ў змаганні за сваё права быць вольным і шчаслівым, быць самім сабой, «людзьмі звацца», тэма народнага подзвігу.

Традыцыйная для нашай літаратуры тэндэнцыя ўслаўлення гераічнага ў жыцці народа, з кожным новым творам выяўляе і новыя складанасці, пераадольваць якія становіцца цяжэй і цяжэй. Цяпер ужо не надта лёгка разлічваць на поспех мастацкага твора, абмежаваўшы сваю задачу дакладным узнаўленнем хронікі падзей Вялікай Айчыннай вайны, бо гэта зрабіла і робіць даволі паспяхова мемуарная літаратура. Цяпер у мастацкім творы хочацца бачыць сінтэз народнага жыцця, паказаны праз вопыт нацыі, узяты ў шырокай па часе перспектыве.

Справіцца з гэтай задачай цяжэй для таго аўтара, які не вынасіў тэму ўнутрана. Пра І. Чыгрынава гэтага не скажаш. Ужо ў першай кнізе «Птушкі ляцяць на волю» (1965) мы сустрэліся з былым партызанам Вацурам, які наведвае брацкую магілу, дзе яго сябры, дзе яго каханне — Наста, і моцна перажывае: «Надта доўга ён збіраўся на яе магілу». Ужо тады дэбютаваў пісьменнік, схільны да аналізу ўнутранага стану чалавека, да драматызацыі апавядальнай плыні.

Праз якіх гады два была новая сустрэча з І. Чыгрынавым, з яго апавяданнямі, сабранымі ў кнігу. «Самы шчаслівы чалавек». Выявіліся новыя рысы пісьменніцкага таленту — імкненне да раскрыцця псіхалагічнага зместу факту, як правіла, здабытага з уласнага жыццёвага вопыту, схільнасць да глыбокага і шматзначнага падтэксту.

Вайна застала І. Чыгрынава, калі яму не было яшчэ і сямі. Цяжкі лёс абяздоленых дзяцей (у апавяданнях «За сто кіламетраў на абед», «Плывун»), як і змаганне аднавяскоўцаў за жыццё капітана Кажанава («У баку ад дарогі»), як і ўслаўленне мужнасці савецкіх патрыётаў («Самы шчаслівы чалавек»), як і выяўленне глыбокіх душэўных зрухаў селяніна Ігната, што паправіўся ад ран і спяшаецца на фронт («Ішоў на вайну чалавек») — усё гэта вынашаныя, выпакутаваныя вобразы, убачаныя ўвачавідкі ці апасрэдавана. Пасля прачытання рамана «Плач перапёлкі» яны ўспрымаюцца як грунтоўная падрыхтоўка да больш рашучага пранікнення ў праблемы, канфлікты, супярэчнасці жыцця, зрушанага неспадзяванай навалай—фашысцкім нашэсцем на Радзіму.

«Плач перапёлкі» — пачатак шырокай панарамы ўсенароднай вайны праўды з маной, прагрэсу з рэакцыяй, святла з цемраю.

Першыя дні Вялікай Айчыннай вайны траплялі ўжо ў поле зроку многіх пісьменнікаў нашай краіны. Адны, замоўчваючы сапраўдныя абставіны, імкнуліся абмінаць няўдачы і паражэнні, а поспехі на невялікім участку выдаваць за перамогу ледзь не цэлага фронту. Іншыя ж, заплюшчваючы вочы на праявы сапраўднага гераізму, якіх у першыя месяцы было не менш, чым на заключным этапе вайны, паказвалі часовае наша адступленне ледзь не як дэмаралізацыю ўсёй арміі. І тое і другое ў літаратуры аднолькава непрымальна, нават злачынна, бо абмінае аб'ектыўную праўду жыцця, на якой толькі і можа вырасці вялікая праўда мастацтва. Але ж мы чыталі і такія творы, дзе гэтая праўда грунтуецца на паказе самага істотнага з рэчаіснасці тых, першых дзён вайны, на паказе гераізму 1941 года, спецыфічнага па сваіх праявах і непаўторнасці.

Іван Чыгрынаў у сваім рамане «Плач перапёлкі» выявіў сябе аўтарам рэалістычна цвярозым, гатовым на тое, каб паказаць народ у момант найвышэйшага духоўнага і фізічнага высілку, выкліканага вераломным нападам ворага на свяшчэнную зямлю. Задача гэтая, аднак, вырашаецца не столькі інфармацыйна-пазнавальна, як тое мы мелі ўжо ў многіх творах беларускай прозы, а з заглыбленым у сацыяльны змест кожнага факта, кожнай з'явы, што трапляюць у поле зроку аўтара.

Людзі, пакліканыя на старонкі рамана, жывуць жывым напружаным жыццём. Яны — у руху, увесь час мяняюцца, то паступова, нават марудна, то дынамічна, угрунь. А побач з імі— аўтар, які думае, думае патрабавальна, дзейсна, дасціпна. І гэта ад індывідуальнасці пісьменніка, якая ў рамане акрэслілася ўжо выразна — вытанчанае даследаванне характараў, тонкі псіхалагізм, выяўленне поглядаў і адносін людзей у заўсёднай змене, у вібрацыі пачуццяў.

Чубар і Зазыба — два асноватворныя характары. Праз іх найперш аўтар паказвае ўспрыманне вайны як з'явы катастрафічнай і разам з тым пераадольнай. Чубар — старшыня калгаса, Зазыба — былы старшыня, цяпер яго намеснік. Клопат у абодвух як бы адзін: «нешта патрэбна было рабіць ці ў калгасе, ці з калгасам». Але адносіны да гэтага клопату розныя. Калі Зазыба, выканаўшы найпершую задачу — адагнаўшы на ўсход статак калгасных кароў, вяртаецца назад, да сваіх аднавяскоўцаў, дзе большасць — яго аднадумцы, дык Чубар, дбае найперш пра асабісты лёс.

Чубар, намечаны з самага пачатку рамана бяздумным выканаўцам дырэктыўнай волі, выглядае мітуслівым, у абставінах неспадзяваных, непрадугледжаных інструкцыяй і астаецца пакуль не прасветленым да канца. І тое, што ён задуман аўтарам іменна так, прымушае чытача сачыць за ўсімі паводзінамі і душэўнымі зрухамі гэтага чалавека, можа, часам, залішне зададзенымі.

Зазыба — антыпод Чубара. Гэта— самабытны земляроб, урослы ўсімі карэннямі сваёй душы ў родную мясціну і гатовы за яе стаяць да канца, скарыстоўваючы дзеля гэтага і кемнасць, і мудрасць, і ўвішнасць, не шкадуючы фізічных сіл. Прасталінейнасці думак, катэгарычнасці дзеянняў Чубара ён супрацьстаўляе сваю сялянскую выкрутлівасць, унутраную шчырасць думак і спасцярожлівую прынцыповасць у дзеяннях. Ён можа сказаць горкую праўду проста ў вочы. На Чубарава афіцыйнае — «Той, хто па-сапраўднаму любіў Савецкую ўладу, не будзе сядзець. Той ужо даўно зняўся з месца і паехаў» — Зазыба мае свой, праверaны народным вопытам і па-народнаму сфармуляваны адказ: «Хто з роднае зямлі ўцякае, той ворага не перамагае».

Уласна кажучы, так на дзіва проста, натуральна завязваецца адна з асноўных ліній рамана, лінія паводзін чалавека ва ўмовах варожай акупацыі. Сутыкнуўшыся на самым пачатку, гэтыя два характары спрачаюцца ўвесь час, спрачаюцца цішком і ўголас, з вока на вока і на людзях, думкамі і дзеяннямі. Пакуль што больш у развагах аб тым, што здарылася, аб тым, што трэба рабіць. І гэта адпавядае часу, абставінам, у якіх апынулася на першым часе ваеннага ліхалецця вёска Верамейкі, што на самым усходзе Беларусі.

І Чубар, і Зазыба нагружаны аўтарам удосталь, адпаведна асаблівасцям кожнай натуры. Няпэўнасць Чубара, яго мітуслівасць крыху вытлумачваецца, калі даведваешся, што ён ніколі надта не сядзеў на месцы, «усё спрабаваў свае здольнасці кіраўніка на розных пасадах, пераязджаючы з раёна ў раён», што «на трэцім годзе яго старшынства (хочацца сказаць — старшынёўства!—**У. Ю.**) пачалася гэтая вайна...» Два гады — мала, каб па-сапраўднаму зрадніцца з новай мясцінай, зблізіцца з новымі людзьмі. Зазыбу лягчэй — ён тут нарадзіўся, тут «дзве рэвалюцыі перабыў», не толькі перабыў, а «нібы прыкіпеў да рэвалюцыі — праз усю грамадзянскую пранёс ён сваю веру ў яе, пазнаваў спакваля, затое моцна і назаўсёды». Такое прадстаўленне аўтарам Зазыбы — не дэкларацыя, яно ў адкрытых выказваннях, роздумах, якія—адлюстровак патаемных зрухаў душы чалавека. Як жыва, натуральна і поўна раскрываецца ўнутраны змест Зазыбы ў эпізодзе, дзе паказана яго размова з Драніцай, якога нямецкі прыслужнік Брава-Жыватоўскі прысылае забраць у героя грамадзянскай вайны ордэн Чырвонага Сцяга.

Увёўшы ў раман Чубара і Зазыбу, пісьменнік стварыў не толькі сацыяльны тып як носьбіта агульнага, але і пайшоў далей, сфармаваў тыповыя характары як эстэтычны сплаў агульнага і адзінкавага, як індывідуальную непаўторнасць. І. Чыгрынаў выявіў у рамане ўменне выразна абмалёўваць псіхалагічныя, маральныя, фізіялагічныя і іншыя адрозненні асобы, паказваць характар у яго гранічным напаўненні, у шматбаковасці, мнагастайнасці сувязей. Пра сталасць мастацкага бачання І. Чыгрынава сведчыць і такая немалаважная акалічнасць, што грамадская актыўнасць, духоўнае багацце чалавека выяўляецца ў змаганні з вонкавымі абставінамі, у якіх ён апынуўся. Гэтыя абставіны рэальныя і жыццёвыя ў рамане таму, што яны тыповыя для адлюстраванага часу, а тыповыя, бо ўзнікаюць як узаемадзеянне характараў.

Здавалася б, маючы два асноватворныя характары, можна было б імі і абмежавацца. Чыгрынаў, кіруючыся законамі жанру рамана, абірае больш складаны і больш плённы шлях — уводзіць у апавяданне шырокае кола персанажаў, у дачыненні з якімі якраз і раскрываюцца найбольш поўна Чубар і Зазыба. Часам, як у Чубара, такія сустрэчы эпізадычныя, але яны, як і часцейшыя сутыкненні Зазыбы з аднавяскоўцамі, памагаюць гэтым характарам выявіць свае магчымасці так шырока і глыбока, што праз іх мы выразна, фізічна адчувальна ўспрымаем сацыяльныя абставіны, асяроддзе, у якім разгортваецца дзеянне, успрымаем канкрэтна-гістарычна і лакальна-нацыянальна ва ўсіх праявах дабра і зла.

Што вылучае раман І. Чыгрынава з шэрагу твораў аб вайне, у якіх дзеянне лакалізуецца першымі яе месяцамі ці тыднямі? Пафас упэўненасці ў перамозе над ворагам. Ім, гэтым пафасам, повен твор ад першай да апошняй старонкі. Праўда, мы сустракаем у рамане і дэталі, што раскрываюць трывогу, смутак, нават адчай.

«Раз дальнабойную цягнуць з фронту, значыць, адступаюць», — ківаюць галовамі мужыкі. Акружэнцы, дэзерціры. Збіты савецкі бамбавоз. Было ўсялякае — благое і добрае, сумнае і радаснае. Усё ў рамане — на відавоку, не схавана, не прытоена, выразна размежавана, як дзень і ноч, як святло і морак. Толькі не спрошчана, не выстраена ў простую лінію схемы, а мае складаную, жыццём падказаную, натуральную для незвычайных абставін траекторыю.

Чубар збянтэжыўся ад нечаканага павароту падзей. Чубара не разумее нават сакратар райкома партыі, які выказвае адкрыта сваё нездавальненне: «Калі яго клікалі на важную справу, ён, па даваеннай звычцы, недзе хаваўся, а цяпер...» А цяпер старшыня калгаса, кінуўшы ўсё, тыцкаецца, як упоцемках, спрабуючы знайсці тое месца, дзе збіраецца апалчэнне. Ён як бы і не дэзерцір, але паводзіць сябе пакуль не як кіраўнік, не як важак мас. Аўтар не спяшаецца высвеліць усё ў яго паводзінах, бо праз Чубара, праз яго бадзянне паказвае тыя складаныя абставіны, у якіх апынулася не адно забесяддзе, а ўся Беларусь.

Першыя дні вайны адлюстраваны ў рамане без аніякай панікі ці разгубленасці. Гэта перш за ўсё цяжкая, невымерна складаная работа, якой наогул з'яўляецца вайна, а тым больш яе пачатковы перыяд. Танкетка засталася без гаручага, і мы бачым шчырыя захады воінаў, скіраваныя на тое, каб не пакінуць зброю ворагу. Сапёры павінны ўзарваць пасля адыходу часці мост, але адмовіла падрыўная машынка. І салдаты з дапамогай мясцовага насельніцтва знаходзяць выйсце, падпальваюць мост саломай.

Штабная група на чале з камісарам выносіць з акружэння дакументы стралковай дывізіі. На гэтую групу натрапіў Чубар і ноч, праведзеная ў будане з параненым, але мужным і стойкім камісарам, становіцца рашучым, паваротным момантам у лёсе не зусім зарыентаванага ў падзеях камуніста. Камісар вяртае Чубара з часовай бяздзейнасці ў строй тых, каму партыя даручыла ўзнімаць народ на змаганне з ворагам. Чубар кіруецца назад, у Верамейкі. Трывожная дарога па занятай фашыстамі зямлі, але Чубар, што далей, то ўсё ямчэй ступае па ёй.

Упартай верай у тое, што вораг будзе выгнаны з савецкай зямлі, поўняцца і тыя старонкі рамана, дзе мы бачым, і чуем Зазыбу, ахопленага трывогай за людзей свае вёскі, якую вось-вось павінны захапіць немцы. Даследаванне Чыгрынавым народнага жыцця праведзена так тонка, так усебакова, з той ступенню псіхалагічнай выверанасці кожнага ўчынку, кожнага вымаўленага слова, калі не ўзнікае аніякага сумнення ў праўдзівасці адлюстраванага.

Можа толькі крыху насцярожвае залішне вольнае абыходжанне з вялікімі праблемамі даваеннай рэчаіснасці, вольнае ў тым сэнсе, што аўтар, даючы волю розным крыватолкам, сам застаецца ўбаку, а гэта, як вядома, шлях малаплённы. Насцярожвае, выглядае штучна і неўразуменне такім умудроным чалавекам, як Зазыба, таго, што немцам нявыгадна адразу, пакуль стаіць на полі няўбраны ўраджай, раскідаць калгасы.

Жыццесцвярджальны пафас рамана і ў самой будове яго, у стылявой скіраванасці да нетаропкага, разважлівага разгортвання дзеяння. Гэта яшчэ раз пацвярджае вядомае палажэнне аб тым, што і форма змястоўная. Як пацвярджае і непрыхільнасць аўтара да паказнога аптымізму, да дэкларацыйнасці. Праз шматгалоссе вясковага жыцця ў перыяд нявызначанасці яго перспектывы, выяўляецца натуральная, сфармаваная праз гады Савецкай улады ўпэўненасць людзей у становішчы гаспадароў свайго лёсу, на які робяць замах фашысцкія прыблуды і іх прыхвасні, што павылазілі з затхлых нор і агалілі сваё нікчэмнае нутро.

Варта паслухаць старога Кузьму Прыбыткова («Германія, яна не тое, што мы — мале-е-енькая!.. Ёй з намі, як па-разумнаму, дык і брацца не варта б... Я нават дзіўлюся, як ён саўсім пасмеліўся напасць») або Парфёна Вяршкова («Да й баба мая ўчора на патэльні варажыла — выходзіла, што нашы вернуцца»), каб лішні раз пераканацца ў глыбіннай жыццесцвярджальнасці, якой прасякнут раман.

Рознагалосая гаворка сялян схоплена аўтарам скрупулёзна дакладна, з заглыбленнем у адстаялыя пласты дыялектнай стыхіі, якая аднак у аўтарскай мове не заўсёды мае права прэтэндаваць на трывалае ўсталяванне, як літаратурная норма. Пісьменнік выявіў тонкае веданне душы селяніна, дакладна перадаў манеру гаварыць і нават манеру маўчаць верамейкаўскіх мужыкоў, адкрыўшы тым самым у жыцці новую, да Чыгрынава нечапаную самабытнасць. Каларыт сялянскага побыту надае раману натуральнасць гучання, хоць аўтар часам і пераступае мяжу, за якой пачынаецца звычайны этнаграфізм (адведзены ў парадзіхі).

Калі мець на ўвазе зрашчэнне публіцыстыкі і вобраза, знітаванасць лірычнага і аналітычнага, дык тут аўтару не заўсёды ўдаецца дасягнуць той ступені, калі можна гаварыць аб паліфанічным гучанні ўсяго твора. Некаторыя інфармацыйна-пазнавальныя адступленні пра падзеі на фронце выглядаюць як бы напісаныя другой рукой і тут яшчэ ёсць над чым аўтару папрацаваць, каб дамагчыся гарманічнасці частак і цэлага, глыбейшай матываванасці кожнага эпізода. Калі, напрыклад, апісанне плачу перапёлкі пададзена на высокай хвалі паэтычнага ўзрушэння, і гэты плач гучыць як пераасэнсаванне народнай сімволікі ў новых абставінах, дык эпізоды з забітай ласіхай і яшчэ раз (пад канец рамана) з забітым сахатым выглядаюць мала арыгінальнымі і больш таго — аўтаномнымі ў тканіне ўсяго рамана. Гэтыя сцэны лёгка «вымаюцца», як і тэатралізаваны эпізод з краўцом Сыркіным, што раскідвае, трыбушыць свае пярыны і падушкі...

Іван Чыгрынаў дэбютаваў у новым для яго жанры. Дэбютаваў удала, заявіўшы пра сваю прафесійную сталасць, пра сваю творчую адметнасць, як майстар аналітычнай прозы.

Часопіс «Маладосць», № 10, 11, 12, 1970 г.

# ГУЧЫЦЬ АРМЕЙСКАЯ МЕДЗЬ

## РОЗДУМ ПАСЛЯ КОНКУРСУ



ЯРКАЙ падзеяй мінулага года ў музычным жыцці нашай арміі з'явіўся творчы і выканаўчы конкурс штатных ваенных аркестраў, абвешчаны Міністэрствам абароны СССР і Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту сумесна з Саюзам кампазітараў СССР у гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-годдзя перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Творчае спаборніцтва праходзіла пад дэвізам «Музыка на службе абаронцаў Радзімы». Першы тур яго праводзіўся ў ваенных акругах, групах войск і на флотах. Другі — у Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Растове-на-Доне, Новасібірску і Хабараўску.

Падрыхтоўка да конкурсу пачалася яшчэ ў студзені, а заключны, трэці, тур адбыўся ў Маскве толькі 19 снежня 1970 года. Такая доўгая падрыхтоўка звязана з маштабам праведзенага мерапрыемства: у адрозненне ад усіх мінулых усеармейскіх аглядаў аркестраў, да якіх прыцягваліся толькі лепшыя калектывы, у гэтым конкурсе прынялі ўдзел усе аркестры Узброеных Сіл. Кожны з іх падрыхтаваў спецыяльную праграму, у якую увайшлі творы службова-страявога і канцэртнага рэпертуару. Абавязковым было выкананне Гімна Савецкага Саюза і Гімна саюзнай рэспублікі, аднаго сустрэчнага маршу і двух-трох страявых або паходных маршаў. Апрача таго, аркестрам, дапушчаным да трэцяга, заключнага, туру (а аркестраў было дваццаць два) было прызначана па адным абавязковым канцэртным музычным творы. Напрыклад, для аркестра вялікага складу была уверцюра Бетховена з музыкі да трагедыі Гётэ «Эгмант».

Калектывы выступалі з разнастайнымі і цікавымі канцэртнымі праграмамі. У іх выкананні гучалі складаныя творы рускіх класікаў, савецкіх і зарубежных кампазітараў — Баха, Чайкоўскага, Шастаковіча, Пракоф'ева, Хачатурана, Брытэна...

Барацьба на конкурсе была вельмі напружанай. Усе аркестры пасля больш чым дзесяцігадовага перапынку паміж конкурсамі, як ніколі раней, вельмі добра падрыхтаваліся і прадэманстравалі высокую тэхнічную выканаўчую культуру.

Ад Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі на заключны тур былі прадстаўлены два калектывы: аркестр штаба ЧБВА і аркестр Мінскага суворaўскага ваеннага вучылішча.

Абодва аркестры на заключным туры паказалі высокае майстэрства і сталі лаўрэатамі конкурсу, заваяваўшы трэцяе прызавое месца, якое падзялілі з Рыжскім аркестрам штаба Прыбалтыйскай ваеннай акругі. Першае месца заняў заслужаны калектыў УССР—аркестр штаба Чырванасцяжнай Кіеўскай ваеннай акругі, другое месца падзялілі аркестры штабаў ордэна Леніна Ленінградскай і ордэна Леніна Маскоўскай ваенных акруг.

Што ж паказаў конкурс? Перш-наперш усіх нас радуе шырыня армейскага канцэртнага рэпертуару. Гэта — яркая прыкмета часу. На конкурсе было прадстаўлена нацыянальнае музычнае мастацтва, у прыватнасці, рад твораў беларускіх аўтараў: сімфанічная паэма «Партызанская быль» У. Алоўнікава, Сюіта з трох частак з музыкі да балета «Мара» Я. Глебава — «Бульба», «Танец касманаўтаў» і «Апафеоз», «Абеліскі» Д. Смольскага, Беларускі марш Б. Пенчука і песня «Памяць сэрца» І. Лучанка. Гэтыя творы былі высока ацэнены журы конкурсу і цёпла прымаліся сталічнымі слухачамі.

Конкурс паказаў і значны рост ваенна-аркестравай службы. Выканаўчая культура, магчымасці ваенных аркестраў так узраслі і ўзняліся ў якасці, што, напрыклад, і аркестры малога складу (у 21—31 аркестранты) выконвалі той жа рэпертуар, што і аркестры вялікага складу мінулага конкурсу 1960 года.

Гучалі творы, якія патрабуюць высокай тэхнікі і высокага выканаўчага майстэрства, вялікай фізічнай вытрымкі, прымянення поўнага дыяпазону духавых інструментаў, якія супернічаюць са струннай групай сімфанічнага аркестра. Каб даць уяўленне аб гэтым, назаву некаторыя з твораў конкурснага рэпертуару: Святочная уверцюра Шастаковіча, «Гарэзлівыя частушкі» Шчадрына, Пятая сімфонія Бетховена, уверцюра да трагедыі Шэкспіра «Гамлет» і Канцэрт № 1 для фартэпіяна з аркестрам Чайкоўскага, уверцюра да оперы «Вяселле Фігара» Моцарта, Сёмая сімфонія Пракоф'ева, Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам Рахманінава — наўрад ці трэба тлумачыць, што кожны з гэтых твораў можа ўпрыгожыць праграму самага выдатнага аркестра сучаснасці.

Армейскія аркестры сярэдняга і вялікага складаў (42—56 чалавек) выконвалі «Чакону» Баха, «Варыяцыі і фугу на тэму Персела» Брытэна, творы Чайкоўскага, Мусаргскага, Рымскага-Корсакава, Дворжака і іншых аўтараў, дадзеныя ў пералажэнні для духавых інструментаў.

Між іншым, у асяроддзі армейскіх музыкантаў часта ўзнікаюць творчыя спрэчкі адносна правамернасці такога пашырэння нашага рэпертуару. Ці ёсць сэнс, напрыклад, рабіць пералажэнні сімфанічных твораў? Гэта вельмі працаёмкая работа, ды часам і яна праходзіць амаль дарэмна, бо выконваюцца такія партытуры рэдка. Або абмежавацца сваім спецыфічным рэпертуарам?

Пасля снежаньскага конкурсу, праслухаўшы ўсе вядучыя, лепшыя аркестры Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, заслужаны дзеяч мастацтваў УССР дырыжор Аляксандр Жданаў сказаў: «Спаборніцтва з сімфанічным аркестрам — гэта зусім недарэчы. Навошта з ім спаборнічаць? Гэты ж аркестр пры дапамозе радыё і тэлебачання ў кожнага ў кватэры, а вось духавога аркестра, сучаснага, з добрым агітацыйным рэпертуарам, няма ні на радыё, ні на тэлебачанні»...

Такую думку падзяляюць многія ваенныя дырыжоры. Я ж пагадзіцца цалкам з гэтым пунктам гледжання не магу. Вось чаму. Некаторыя духавыя аркестры братніх армій у сацыялістычных краінах, скажам, вялікія па складзе музыкантаў. Кожны музыкант-духавік у большасці выпадкаў валодае некалькімі інструментамі і амаль у абавязковым парадку валодае якім-небудзь струнным інструментам. Таму ў аснове ў іх заўсёды поўны сярэдні склад сімфанічнага аркестра са сваім, гадамі накопленым разнастайным сімфанічным рэпертуарам. Для ігры на воінскіх цырыманіялах, парадах, усялякіх спартыўных выступленнях, шэсцях і ўрачыстасцях на паветры неадкладна арганізуецца духавы аркестр са складу ўсіх музыкантаў са спецыфічным, цалкам духавым рэпертуарам — паходныя маршы, песні, гімны. І, нарэшце, з таго ж асноўнага складу ствараюцца, калі гэта патрабуецца, або салонны аркестр са струнных і духавых драўляных інструментаў, або эстрадна-танцавальны джаз-аркестр, або эстрадныя квартэты, квінтэты і секстэты. Кожны з гэтых аркестраў мае свой сталы рэпертуар.

Такое сумяшчэнне функцый музыкантаў розных спецыяльнасцей мы пакуль што не практыкуем. Праўда, цяпер на танцавальных вечарах моладзі духавы аркестр не суправаджае танцы, а іграе эстрадны джаз-аркестр са складу музыкантаў духавога аркестра. Але і гэта бывае не так часта. Для нашых аркестраў стала добрай традыцыяй выкананне страявых і патрыятычных песень на страявых аглядах, парадах і дэманстрацыях працоўных. Адначасова іграць на духавым інструменце і спяваць — гэта складаная і даволі цяжкая задача. На конкурсе ўпершыню прагучаў незвычайны для духавога аркестра твор В. Мурадэлі — хор «Камушка» з оперы «Кастрычнік». Вакальную партыю У. І. Леніна выканаў на высокім мастацкім узроўні прапагандыст воінскай часці Леў Зарубін, а чатырохгалосы хор а- капэла выканалі інструменталісты аркестра штаба ЧБВА. Гэта выступленне зрабіла вялікае ўражанне. Упартую карпатлівую працу духавікоў, якія спявалі з чыстай інтанацыяй складаны харавы твор, па вартасці ацанілі патрабавальныя слухачы. Такім чынам, жыццё ўсё ж падказвае шляхі пашырэння рэпертуару і творчых магчымасцей армейскіх аркестраў.

Набліжаецца кампазітарскі з'езд, дзе беларускія музыканты будуць абмяркоўваць актуальныя праблемы. Трэба спадзявацца, што на з'ездзе не абыдуць увагай і тое, што хвалюе нас, армейскіх музыкантаў. Без кампазітарскай актыўнасці нам не абысціся, тут патрэбна моцная і творчая сувязь паміж аўтарамі і выканаўцамі, патрэбны не выпадковыя кантакты. Конкурс, аб якім я расказваю, сведчыць, што плён ад такой садружнасці можа быць вельмі багаты і цікавы не толькі для прафесіяналаў, а і для шматлікіх слухачоў.

**Барыс ПЯНЧУК,**
начальнік ваенна-аркестравай службы—галоўны дырыжор аркестра Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, народны артыст Беларускай ССР.

# СЛУХАЮЧЫ МАЛАДЫХ КАЛЕГ...

## ЧАРГОВАЯ «СЕРАДА» Ў САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ

**Хоць цымбалы даўно ўжо выйшлі з вясковых хацін на вялікую канцэртную эстраду, усё ж, слухаючы іх падкрэслена вытанчанае, арыстакратычнае гучанне ў Сюіце ў старадаўнім стылі Віктара Войціка, яшчэ раз пераконваешся, што магчымасці гэтага інструмента далёка не вычарпаны...**

**Ідзе чарговая «музычная серада» ў Саюзе кампазітараў БССР. Праслухоўваюцца творы студэнтаў кампазітарскага класа кансерваторыі. Выдатнае выкананне гэтых твораў старшакурснікамі і прафесійнымі музыкантамі, добразычлівая зацікаўленасць аўдыторыі ствараюць самую спрыяльную атмасферу для таго, каб кожны аўтар змог адчуць вартасці сваіх твораў, памылкі і пралікі.**

**На шчасце, удач значна больш. Гэта аднадушна падкрэслілі кампазітары і музыказнаўцы, якія выступілі на абмеркаванні канцэрта.**

**— Сённяшні канцэрт, — сказала педагог кансерваторыі Т. Шчарбакова, — дае нам падставу меркаваць аб аўтарах як аб сур'ёзных, здольных, удумлівых музыкантах. Яны даказалі, што ўмеюць пісаць змястоўныя творы, карыстацца сучаснымі прыёмамі музычнай мовы, добра валодаюць формай.**

**Як аб бясспрэчнай удачы аўтара гаварылі прысутныя і аб названай вышэй сюіце В. Войціка (клас прафесара А. Багатырова), якую выконвалі выкладчыкі кансерваторыі Я. Гладкоў і Л. Жукава.**

**— Твор зроблены таленавіта, цікава, разумна, — адзначыў кампазітар Г. Вагнер, — ён вызначаецца стылістычнай акрэсленасцю і смелай гарманічнай мовай. Прыемнае ўражанне пакідае і другі твор Войціка — Струнны квартэт у дзвюх частках. Аўтар добра адчувае інструменты. Аднак, мне здаецца, Войціку не ўдалося знайсці арыгінальнага, уражлівага рашэння першай часткі, якую ён назваў «Драма». Затое другая частка — «Вадэвіль» — вылучаецца лёгкасцю, свабодай, іскрыцца гумарам. А раскрыццё гумару ў музыцы — нялёгкая справа, такім уменнем валодае далёка не кожны кампазітар.**

**На суд слухачоў былі прадстаўлены дзве віяланчэльныя санаты — Вячаслава Іванова, вучня А. Багатырова (выканаўцы — саліст камернага аркестра А. Алоўнікаў і студэнт Ю. Гільдзюк) і Міхаіла Васючкова, вучня Д. Смольскага (выканаўцы — педагогі кансерваторыі Я. Ксавер'еў і С. Члаідзе). Абодва творы радуюць свежымі фарбамі, добрым густам, хоць адчуваецца яшчэ няроўнасць стылю ў В. Іванова, празмерна захапляецца экспрэсіўнымі сродкамі М. Васючкоў.**

**Многа добрых слоў было сказана ў адрас Леаніда Захлеўнага (клас А. Багатырова), які напісаў вакальны цыкл на тэксты Максіма Багдановіча «Вершы народнага складу». Яго выконвала студэнтка Н. Казлова, акампаніраваў студэнт Ул. Кандрусевіч. Прысутныя адзначылі арыгінальнасць і завершанасць твора, які можна смела прапаноўваць прафесійнаму выканаўцу.**

**— Ад душы віншую і студэнтаў, і іх педагогаў, — сказаў кампазітар К. Цесакоў. — Я лічу, што мы з поўнай падставай можам гаварыць аб аўтарах праслуханых твораў як аб сваіх калегах-кампазітарах, бо сёння мы чулі не вучнёўскія, а спелыя прафесійныя работы...**

**Праслухоўванне твораў маладых кампазітараў, якое праводзіцца па ініцыятыве Саюза кампазітараў і кансерваторыі, стала традыцыйным. Такія сустрэчы, безумоўна, прыносяць вялікую карысць аўтарам і, па выразу Рыгора Рамановіча Шырмы, адкрываюць ім акно ў шырокі свет.**

**Прысутныя аднадушна падтрымалі прапанову Г. Вагнера аб тым, каб у дні кампазітарскага з'езда наладзіць такі ж канцэрт для нашых гасцей з іншых саюзных рэспублік.**

ведае, што ўяўлялі з сябе народныя паэты, нібы яму, Ул. Карызне, выпаў гонар упершыню і першаму пазнаёміць радыёслухачоў з іх творчасцю: «Паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа заўсёды радуе і хвалюе сваёй незвычайнасцю, пастаянствам колераў, яна ніколі не блякне і ў любую пару года свежая і яркая. У яе пошуме і песні салаўя, што прынёс паводку веснавога хараства, і светлая, як спелае жыта, песня жаўрука. А ў гэтых песнях—радасць і шчасце, сум і роздум чалавека, вечны, як сама прырода...» І гэтак далей, і да таго падобнае. Не сказаўшы яшчэ ні слова па сутнасці, Ул. Карызна здолеў нагрувасціць столькі банальнасцей, што яны проста зніжаюць уражанне слухача ад самай добрай музыкі на цудоўныя словы народных паэтаў.

Яшчэ горш, калі ўступ не адпавядае вершам, уключаным у перадачу. Творчасці маладога паэта Алега Салтука дадзена такая характарыстыка, што ёй мог бы пазайздросціць сам Пятрусь Броўка: «Вершы Алега Салтука вызначаюцца трапнасцю паэтычных дэталей, жыццёвай назіральнасцю і свежасцю вобразаў». Можа, так яно фактычна і ёсць, ды вершы, прачытаныя ўслед за ўступам, ніяк не адпавядаюць такой пахвальнай рэкламе:

Апусціўся вечар-чараўнік
На зямлю, бярозы і таполі.
Да крыніцы месячык прынік,
П'е ўзахлёб, бы лось на вадапоі.
Знічка пакацілася ўгары,
Асвяціла трапяткую хмару,
Заірдзеўся захад і гарыць
Чырванню далёкага пажару.

Дзе ж тут «трапнасць паэтычных дэталей», «жыццёвая назіральнасць», «свежасць вобразаў»? Калі рэдакцыя палічыла неабходным прачытаць іх па радыё, дык, можа, варта было б сказаць, што вершы А. Салтука пакуль яшчэ ў вельмі вялікай ступені пераймальныя, злёгку шаблонныя, але ў іх ёсць меладычнасць, якая дазваляе спадзявацца на творчы рост паэта, і г. д. Гэта значыць, трэба было сказаць пра іх тое, чым яны з'яўляюцца на справе, сказаць праўду. У даным выпадку слухач проста ўведзены ў зман.

**Не абавязкова з усіх сіл хваліць вершы, якія выконваюцца па радыё. Як усё, што робіць чалавек, яны могуць—і маюць права—быць слабымі, недастаткова выразнымі, незавершанымі. Рэдакцыя радыёчасопіса ўнясе свой уклад у справу выхавання ў слухачоў добрага густу, калі будзе прама гаварыць аб недахопах тых або іншых вершаў і аб сутнасці гэтых недахопаў. Зусім справядліва У. Юрэвіч, гаворачы аб вершах П. Марціновіча, не забывае сказаць: «Ёсць у хлопца паэтычнае бачанне таго, што вакол яго. Хоць залішне яшчэ гульні ў слова, залішне шмат кніжнага, архаічнага ў лексіцы. І недакладнага ў строі думак. Прачытаўшы, скажам, радок: «Лес, як лешч; па цемрадзі галёкае...» міжволі задумаешся—дзе гэта Паўлу ўдалося пачуць, як рыба галёкае...» Дзельна, слушна, а галоўнае—дарэчы. Толькі так і трэба ставіцца да сур'ёзнай справы. Маладому паэту гэта не пашкодзіць, а слухач набудзе частачку сапраўдных ведаў пра паэзію, што і складае адну з мэт існавання радыёчасопіса.**

Многае залежыць ад патрабавальнасці рэдакцыі, ад стараннасці рэдагавання празаічных тэкстаў. У апошнім сэнсе рэдакцыя не заўсёды знаходзіцца, як кажуць, на «ўзроўні», прапускае неахайнасці стылістычнага, фактычнага і сэнсавага характару. Так, у вершы А. Астрэйкі, прысвечаным памяці грузінскага паэта Мірзы Гелавані, не дапасуюцца займеннікі «ты» і «ён» у розных строфах; у байцы «Навухаданосар» Э. Валасевіча неабгрунтавана абыгрываецца імя вавілонскага (а не халдзейскага) цара для абазначэння даносчыка; французскі паэт Рэмон Кено чамусьці названы «Раймонам», больш таго—верш С. Грахоўскага «Аснова» прадстаўлены як напісаны «паводле» верша гэтага паэта, тады як ён уяўляе сабой літаральны пераклад з рускага перакладу М. Кудзінава верша Рэмона Кено «Мастацтва паэзіі («Сучасныя французскія паэты», выдавецтва замежнай літаратуры, М., 1963, стар. 48).

Такія дасягненні і такія промахі параўнаўча маладога «выдання»—радыёчасопіса «Паэзія».

**Што хацелася б пачуць нам у радыёчасопісе сёлета?**

**Пачаць з таго, што падбор арыгінальных і перакладных вершаў павінен быць падначалены нейкай сістэме. Пакуль што ён, па-мойму, у значнай меры выпадковы: бярэцца тое, што пад рукамі, вершы таго паэта, які першым пастукаўся ў дзверы рэдакцыі. Відаць, павінна быць наадварот—патрабуецца пошук.**

**Вось успамінае Я. Брыль у свах заметках «Рэха заўсёды са мной» аб запісаных на плёнку вершах Ул. Бранеўскага ў выкананні аўтара—папрасіць бы ў Я. Брыля плёнку, паслаўшы супрацоўніка радыёчасопіса на кватэру, пасадзіць лепшага паэта за пераклад. Аўтарскае выкананне Ул. Бранеўскага на роднай мове, затым—пераклад гэтага верша на беларускай мове ў выкананні чытальніка—гэта ж цудоўна! Гэта тое, што трэба радыёчасопісу, чаго чытач ніколі не атрымае. У дванаццатай кніжцы «Полымя»—выдатныя вершы С. Дзяргая. Паслаць бы да яго рэпарцёра з партатыўным магнітафонам, запісаць на плёнку чытанне аўтарам двух-трох-чатырох лепшых вершаў з апублікаванага цыклу! І т. д. і да т. п.**

**Я лічыў бы дарэчы ў часопісе і тэарэтыка-пазнавальныя перадачы аб паэзіі, накшталт тых, якія вучаць слухаць і разумець музыку. Хіба ў паэзіі разбіраюцца ўсе? Не, тут таксама патрэбна падрыхтоўка.**

«Паэзія» выходзіць дванаццаць разоў у год—па сутнасці, гэта яшчэ адзін «тонкі» часопіс у рэспубліцы. Мне здаецца, у яго ёсць усе магчымасці быць вельмі цікавай з'явай у нашым паэтычным жыцці.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**

---

канаце, убачаць групу велафігурыстаў, клоунаў, якімі выступяць самадзейныя артысты Яўген Нікіфараў і Марат Брук.

Цыркавое мастацтва вабіць мужнасцю. І мо таму многія выхаванцы народнага цырка з Гомеля звязалі свой лёс з прафесіяльнымі калектывамі. Пасля заканчэння Маскоўскага цыркавога вучылішча Аляксандр Валчок і Уладзімір Разанаў працуюць на арэнах прафесійных цыркаў іншых гарадоў. Артыстам Беларускай дзяржаўнай філармоніі стаў былы выхаванец народнага цырка Аляксандр Максіменка. У далёкай Нарвегіі ў гэтыя дні дэманструе сваё мастацтва разам з сябрамі — артыстамі прафесіянальнага цырка — Віктар Радзянка. Раней ён, як і Вера Клімянок, Ларыса Філіновіч, Алег Лакутка займаўся ў народным цырку.

Цікава, што амаль увесь рэквізіт — матацыклы, шасты-бамбукі, канаты, касцюмы — самадзейныя артысты робяць самі. Згадзіцеся — нялёгка. Але хіба не пераадолеюць людзі перашкоды, цяжкасці, калі самааддана любяць цудоўнае цыркавое мастацтва?



На арэне цырка—клоуны Яўген Нікіфараў і Леў Фрадкін.

Фота Ул. БУРАКОВА.

Прыемна бачыць, як кожныя аўторак, чацвер і суботу ў Гомельскі Палац культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна прыходзяць рабочыя, служачыя, студэнты, вучні, пераступаюць парог трэніровачнай залы і становяцца паветранымі гімнастамі, велафігурыстамі, акрабатамі — артыстамі народнага цырка. Трэніруюцца да самазабыцця: і самы юны дзесяцігадовы Раман Лінкоў (чэмпіён рэспубліканскай школьнай спартакіяды па акрабатыцы), і Вера Клімянок, і Алег Лакутка, якім трохі няёмка насіць гучныя тытулы лаўрэатаў. У кожнага з іх мара: трапіць некалі на арэну прафесіянальнага цырка. І нярэдка ў вольныя ад работы, заняткаў і рэпетыцый дні гэтых людзей можна сустрэць на Савецкай вуліцы ў Гомелі, каля Піянерскага парку. Тут будуецца новы цырк.

— Я абавязкова буду выступаць на яго арэне, у сваім горадзе, — гаворыць дзесяцікласніца Вера Клімянок.

**М. ДАНІЛЕНКА.**

---

# ВЯХА Ў ГІСТОРЫІ МОВАЗНАЎСТВА

*Да 100-годдзя з дня выхаду ў свет «Слоўніка» І. І. Насовіча*

Сярод плеяды выдатных дзеячоў беларускай культуры XIX стагоддзя І. І. Насовіч займае пачэснае месца. Тонкі знаўца вуснай народнай творчасці, нястомны збіральнік жывога народнага слова, І. Насовіч усё сваё слаўнае жыццё прысвяціў беларускай філалогіі, фалькларыстыцы і этнаграфіі.

Споўнілася сто гадоў з дня выхаду ў свет яго «Слоўніка беларускай мовы» — буйнейшага даследавання, якое і па сённяшні дзень не страціла свайго навуковага і практычнага значэння. Выданне ў 1870 годзе «Слоўніка беларускай мовы» стала вялікай падзеяй у культурным жыцці беларускага народа, з'явай выключна знамянальнай, якая заклала асновы сапраўды глыбокага, грунтоўнага і ўсебаковага вывучэння беларускай мовы.

І. Насовіч нарадзіўся ў 1788 годзе ў сям'і свяшчэннаслужыцеля на Магілёўшчыне. Пасля заканчэння ў 1812 годзе Магілёўскай семінарыі ён працуе выкладчыкам, пазней інспектарам і загадчыкам народных вучылішчаў у розных кутках Беларусі — на Магілёўшчыне, Віленшчыне і Міншчыне. Частыя пераезды з месца на месца, зблізэнне з жыццём простага люду ўзбагачалі веды дапытлівага даследчыка фактамі жыцця, народных звычаяў, садзейнічалі рознабаковаму вывучэнню жывой мовы беларускага народа.

У 1844 годзе І. Насовіч пераехаў на сталае жыхарства ў горад Мсціслаў, што на Магілёўшчыне, і пачаў займацца там актыўнай навуковай дзейнасцю. Неўзабаве ў «Весцях Аддзялення рускай мовы і славеснасці» Акадэміі навук пачалі друкавацца працы І. Насовіча па народнай беларускай паэзіі і беларускай мове. У 1850 годзе І. Насовіч прадставіў у Акадэмію навук этнаграфічныя працы «Зборнік беларускіх прымавак», «Кароткі зборнік беларускіх слоў» і навуковы нарыс «Кароткае філалагічнае назіранне над беларускай мовай». У 1852 годзе на імя акадэміка І. І. Сразнеўскага І. Насовіч адаслаў «Зборнік беларускіх народных баек, аповесцей і былін» і «Зборнік беларускіх былін», якія, на жаль, бясследна дзесьці загінулі. Да І. Насовіча прыходзіць слава фалькларыста і этнографа. Рускае Геаграфічнае таварыства абрала І. Насовіча сваім членам па Аддзяленні этнаграфіі (1865 г.), а Аддзяленне рускай мовы даручыла яму скласці тлумачальны алфавітны слоўнік-даведнік старажытных беларускіх слоў для тлумачэння старабеларускіх пісьмовых помнікаў. З гэтым апошнім заданнем І. Насовіч бліскуча справіўся. Першы слоўнік стражытнай беларускай мовы, падрыхтаваны І. Насовічам, захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук СССР у Ленінградзе.

Да ліку найбольш буйных даследаванняў І. Насовіча-этнографа, якія неаднаразова адзначаліся медалямі і ўзнагародамі, адносяцца «Беларускія прыказкі і прымаўкі» (1852 г.), «Беларускія песні, сабраныя І. І. Насовічам» (1874 г.), «Зборнік беларускіх прыказак і прымавак» (1867 г.) і іншыя фальклорныя і этнаграфічныя публікацыі.

Вяршыняй збіральніцкай і навуковай дзейнасці І. Насовіча з'явіўся «Слоўнік беларускай мовы», у якім сабрана і растлумачана 30 тысяч слоў жывой беларускай мовы. Гэты тлумачальны слоўнік беларускай мовы XIX стагоддзя быў першым і грунтоўным даследаваннем у галіне беларускай лексікаграфіі, які адлюстраваў багацце лексічных рэсурсаў гутарковай беларускай мовы. Укладанню слоўніка І. Насовіч прысвяціў каля 20 гадоў жыцця. У 1863 годзе «Слоўнік беларускай мовы» быў канчаткова падрыхтаваны да друку і прадстаўлены ў Акадэмію навук на конкрус для атрымання Дзямідаўскай прэміі.

Фактычна матэрыялам для складання слоўніка І. Насовічу служылі яго ўласныя запісы, якія ён рабіў у час паездак па Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губернях, яго фальклорныя і этнаграфічныя зборнікі, алфавітны ўказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з помнікаў старабеларускай пісьменнасці, а таксама шматлікія філалагічныя зборнікі і публікацыі.

«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча здзівіў навуковую грамадскасць таго часу маштабнасцю і глыбінёй даследавання лексічнага матэрыялу. Як адзначае акадэмік І. Сразнеўскі, у гэтым слоўніку дадзена месца ўсякаму слову, якое ўжываецца ў беларускай мове. Побач з агульнаўжывальнай лексікай у ім разглядаюцца і тыя словы, якія вядомы толькі ў асобных мясцовых гаворках або абмежаваны сферай іх выкарыстання.

Асабліва каштоўным у слоўніку з'яўляецца надзвычай багаты лексічны матэрыял, які, нароўні з фанетычнымі, марфалагічнымі і сінтаксічнымі асаблівасцямі, надаваў беларускай мове асаблівы нацыянальны каларыт. Гэта перш за ўсё каранёвыя назвы і ўзнікшыя на іх аснове афіксальныя ўтварэнні, пашыраныя ў народнай гутарковай мове, стылістычна нейтральныя і семантычна ўстойлівыя. Побач з гэтай агульнавядомай лексікай у слоўніку І. Насовіча значнае месца займаюць словы, якія ў далейшым развіцці беларускай мовы не сталі літаратурнымі, а ўжываюцца ў некаторых сучасных гаворках як дыялектныя.

У слоўніку ўсе словы размешчаны ў строгім алфавітным парадку, словаўтваральна-гнездавым спосабам. Такі метад дае даследчыку магчымасць адразу вызначыць усе лінгвістычныя аспекты слова, яго генетычныя, семантычныя і стылістычныя магчымасці, паказаць шляхі папаўнення і ўзбагачэння слоўнікавага саставу мовы.

Арыгінальна і цікава падае ўкладальнік у слоўнікавым артыкуле семантычную расшыфроўку шматзначных слоў.

Аднак у слоўнікавым артыкуле каштоўным з'яўляецца не толькі апісанне семантычнай структуры мнагазначнага слова. Доўгія гады творчых пошукаў дапамаглі аўтару выбраць з вялікай масы ілюстрацыйнага матэрыялу такія прыклады-цытаты, якія найбольш поўна і дакладна раскрываюць сэнс таго ці іншага слова. Сам слоўнікавы артыкул не перагружан ілюстрацыйнымі прыкладамі, але ў той жа час іх дастаткова, каб падмацаваць вывады і тэарэтычныя палажэнні даследчыка.

Заслугоўвае ўвагі таксама фанетыка-арфаграфічная падача беларускай часткі слоўніка. Выхаваны на рускай арфаграфічнай традыцыі, І. Насовіч падае словы згодна з прынцыпамі тагачаснага рускага правапісу. Аднак глыбокае веданне жывой беларускай моўнай стыхіі схіляла яго ўсякі раз рабіць адступленні ад традыцыйных прыёмаў пісьма. Таму ў слоўніку знайшлі адлюстраванне некаторыя важнейшыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы — дзеканне і цэканне, фанетычнае падаўжэнне зычных і іншыя з'явы, якія ўпершыню былі зафіксаваны ім у беларускай навуковай літаратуры і ў далейшым сталі нормай літаратурнай мовы.

«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча — выключная з'ява не толькі ў беларускім, але ўвогуле ў славянскім мовазнаўстве. На ўсіх этапах развіцця беларускай лексікаграфіі ён служыў і служыць выдатным узорам, на які арыентаваліся многія ўкладальнікі перакладных двухмоўных і дыялектных слоўнікаў беларускай мовы.

За сто гадоў, якія прайшлі пасля выхаду слоўніка І. Насовіча, адбыліся карэнныя змены ў жыцці нашага грамадства. У краіне ўсталяваўся новы сацыяльна-палітычны лад. Далёка наперад пайшлі наша культура і навука. А гэта выклікала і штодзённа выклікае да жыцця новыя лексічныя пласты, тэматычныя групы слоў. Велізарнае багацце лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы асабліва яскрава выяўляецца ў супастаўленні са слоўнікам І. Насовіча, у якім, як у люстры, праз лексіку адбілася сацыяльна-эканамічнае, грамадска-палітычнае і культурнае жыццё тагачаснага грамадства. Таму каштоўнасць слоўніка заключаецца яшчэ і ў тым, што ён дае магчымасць прасачыць эвалюцыю лексічных значэнняў слоў, адміранне адных слоў і з'яўленне новых, якія адлюстравалі паняцці новага часу.

**Я. КАМАРОЎСКІ,**
**І. ШАДУРСКІ,**
кандыдаты філалагічных навук.

**РАЗДЗЕЛ ДРУГІ**

**1.**

І вось, як лясны пажар, прынёманскія вёскі агарнула ашаламляльная вестка:

— У Грыбоўшчыне на святым узгорку ўзнікла царква з цудатворнай іконай мацеры боскай!

— За адну ноч вырасла з зямлі, як грыбочак!

— Раніцой грыбоўшчынскія людзі паўставалі, глядзь у вокны, а там—цуд!..

— І прыгожая, кажуць, бы лялька!

— А правіць у ёй—прарок Альяш, свой чалавек!

Іншай адзінокай цётцы трэба было паміраць, а за ўсё жыццё яе ніхто ні разу не пашкадаваў, не сказаў добрага слова, не падаў рукі. Прадстаўнікі ўлады ўсе былі паны, гутарылі на незразумелай мове, хацелі і яе прымусіць маліцца і думаць па-чужому.

Далёкі быў для сялян і свяшчэннік. Бацюшка не хаваў сваёй гідлівасці да іх. Каб памыцца ў нейкай там лазні, кожную суботу ездзіў у далёкі горад, а покуль сесці снедаць, кожны раз дзівак, спецыяльнай шчотачкай чысціў зубы...

Кабеціна такая, як за саломінку, хапалася за вестку і ўмомант верыла ўжо сама таму, што казалі:

— Ага!.. І прарок гэты — не з паноў, і не надта вучаны,—свой мужык. Ён цябе выслухае, дапаможа, зразумее, нават вылечыць, а беднаму яшчэ і грошык дасць на дарогу.

Разыходзіліся такія весткі месяц, год, покуль не прасякліся імі наскрозь людзі, покуль на вёсках і не стварылася адпаведная псіхалагічная атмасфера, не падрыхтавала ўмовы для выбуху.

І момант той настаў.

Польнымі, пясчанымі дарогамі, узнімаючы хмары пылу, у Грыбоўшчыну хлынулі людзі. Чалавечая маса ў дзве, у тры, а то і пяць тысяч з іконамі, крыжамі, харугвямі, са спевам малітваў толькі набліжалася да нейкага сяла, як падымаліся багамолы і ў ім. Мясцовыя фанатыкі, склаўшы ў экстазе рукі, падалі ніц перад працэсіяй і, распластаныя, заміралі. І новыя вандроўнікі, яны, падняўшыся, абтрасалі з сябе пясок, закідвалі за плечы клумкі, пакідалі дзяцей і працу — пляліся за ўсімі.

Людскія патокі потым зліваліся ў цэлыя рэкі люду і валілі, валілі, валілі ў Грыбава, як яны цяпер скарочана называлі вёсачку. Брылі з адной мэтай — пабываць у святым месцы, пабачыць прарока Альяша, пазбавіцца ад грахоў, аблегчыць душу ў малітвах на богам адзначаным узгорку, вярнуць здароўе, вымаліць шчасце сабе і дзецям. А каб бог звярнуў на іх увагу, выслухаў іх маленні, некаторыя давалі зарок пасціцца ў дарозе.

У фурманках за сабой валаклі божаму чалавеку Альяшу мяшкі аўса і пшаніцы, ручнікі і дываны...

З часоў паганства вялася традыцыя — у такую ахвяру аддаваць самае лепшае і дарагое.

Людзі везлі не проста ручнікі. Былі гэта з душой і сэрцам адмыслова вышытыя маленькія шэдэўры, ваўняныя дываны, вытканыя на восем, дванаццаць, а то і на дваццаць чатыры ніцельніцы.

Самі яны мяса каштавалі адно на каляды і вялікдзень, а ў палукашках перлі Альяшу яшчэ і вэнджаныя кілбасы, звязаных бараноў і авечак. На вяроўках вялі кароў.

Вялі таксама хворых, калек, і па натоўпе, як удар току, раз-пораз праносілася вестка:

— Сляпы стаў бачыць!.. Хлапец з Бельска ад нараджэння меў бельмы, прывялі яго ў Грыбава, і вочы адразу пасталі чыстыя, чыстыя, бы расінкі!

— Нямко з-пад Навагрудка загаварыў!

— Маладзіца з Кобрына не мела дзяцей. Ілья над ёй памаліўся, і яна зацяжарыла!

— Да калекі з Дзярэчына святы Ілья толькі дакрануўся, калека адкінуў кульбу і пайшоў!..

— Каб ты бачыў, што там робіцца!.. Бы дроў, кульбаў усялякіх ля царквы валяецца!.. А сляпыя, што сталі бачыць, з сініх акуляраў цэлую горку ўтварылі!..

Легенды пра цудадзействы Альяша разыходзіліся па ўсёй Прынёманшчыне, ляцелі далей. Даходзілі яны і ў далёкае Палессе, за Вілейку і Нарач, нават —аж у Заходнюю Украіну, на Валынь.

Насталі дні, калі адных грошай пачало Альяшу паступаць па некалькі тысяч злотых у дзень. Раз у суткі Альяш запіхваў выручку ў конскую торбу і вёз яе ў Крынкі для падліку, а тады хаваў у гумно.

Вартаўнікі, якія ноччу берaглі Грыбоўшчыну ад пажару, аднойчы ў дождж схаваліся ў Альяшоў будынак. Адзін з іх адкінуў пару снапоў, а там — банкноты. Чалавек нагроб сабе ў кішэні сем тысяч злотых (новую хату за іх потым пабудаваў!), і святы прапажы нават не заўважыў.

Жулікаваты пляменнік пацягнуў у Альяша тысяч з дзесяць.

Крынкаўскія гандляры аж біліся за права лічыць яму штодзённы збор.

З усяе Польшчы хлынулі ў Грыбоўшчыну зладзеі і жулікі.

Грашовыя ахвяры складалі ў кучкі перад адзінаццаццю святымі іконамі, якія звалаклі з навакольных вёсак. Які-небудзь студэнт на каленях дапаўзаў да мацеры боскай, старанна біў паклоны, а вуснамі стараўся захапіць як найбольш залатовак ды запіхнуць сабе за шчаку. Тады хлопец выбіраўся на двор, перакладваў грошы ў кішэню і рабіў другі заход.

**2.**

Аднак у распараджэнні «прарока» і пасля пакраж заставаліся немалыя сумы. На добры лад з такімі сродкамі Клімовіч і праўда мог бы што-небудзь зрабіць карыснае — пабудаваць школы, бальніцы...

Альяш быў чалавек не такі.

Калі хто з вяскоўцаў прыходзіў да Клімовіча пазычыць на карову, бо дзеці былі без малака, дзядзька не даваў нікому. Аднойчы яго зяця завезлі ў беластоцкую бальніцу выразаць «сляпую кішку», і да Альяша прыбегла ўсхваляваная дачка:

— Здрасце, тату!.. Ну, як вы тут жывеце?!. — акінула яна позіркам бедную хаціну. — Столькі гадоў у сваім доме не была!.. Ой, якое ў вас усё чо-орнае!.. Не мыеце нічога, не падмята-веце нават, чаму-у?!. Ладна, потым зайду і навяду парадак, цяпер я да вас па справе!—дачка суцішыла голас і папрасіла:—Тату, дайце грошай. Дахтары патрабуюць дзвесце злотых за аперацыю і гавораць, калі не заплачу напярод, да Волеся і падступацца не стануць. А дзе ж мне ўзяць гэткі маёнтак?..

Бацька адмоўна заматляў галавой. Дачка пасунулася да яго бліжэй.

— Каб жа быў хваравіты, а то гэткі здаровы мужчына!.. Ніколі не хварэў!.. Богам малю — да-айце, тату!.. У вас жа і так раскрадваюць іх, хто толькі хоча!.. Не скупіцеся, не шкадуйце для такой справы!.. —горача пераконвала яна.—Дахтарам што?.. Памятаеце Балейку з Гарадка?.. Ён не заплаціў, так жонка і памерла ў калідоры бальніцы!.. Загіне Волесь, застануцца сіроты, што ж я з імі рабі-і-ціму, у-гу-гу-у!.. —паспрабавала яна і заплакаць.—Вы мяне замуж аддалі без ніякага пасагу, дык пашкадуйце хоць цяпер!..

— Не мае яны, Вольга, царкоўныя, — застаўся няўмольны стары.—Грэх вялікі мне іх раздаваць, — уздыхнуў ён цяжка і хвіліну маўчаў.—Дасць бог — не памрэ... Валасіна з нашай галавы не спадае без волі госпада...

Ашалелая маладзіца нейкі час неўразумна глядзела на бацьку.

— А-а, то вы ўсё такі са-амы?!. — раптам яе прарвала. — Не змяніліся?!. Так слухайце, цяпер я вам скажу праўду!.. Вартаўнік ваш, Фэлюсь Станкевіч, — злодзей!.. Ён вас абакраў!.. Ніякага чорта ў царкве тады не было!.. Ён упусціў вам чорнага пеўня!.. Вы з царквы пабеглі, а ён забраў грошы і перадаў швагру!.. А швагер адразу купіў малатарню і развэрак, астатнія паклаў на кніжку... Што каля вас робіцца— не бачыце-е!..

— Як са мной гаворыш?! — сумеўся бацька. — Павучаць мяне ўздумала?!

— Слухайце, слухайце, я не скончыла яшчэ!.. Праз царкву вы і маму загналі ў магілу. І Толік праз яе на вайну пайшоў. З-за яе часамі і я пачынаю ў бога не верыць!.. Каб быў ён, так даўно паслаў бы перуны на гэтую вашу царкву!..

— Яшчэ і багаху-уліш?!

— Кажэце сабе, што хочаце, я сказала, што думала!

— Як гаворыш з родным бацькам, пытаю?!.

— Які вы мне бацька?!. Ці вы мяне хоць адну зіму ў школу з іншымі дзецьмі паслалі?.. Ці вы мяне, як была я малой, хоць раз з сабой на воз куды ўзялі?..

Разлютаваны Альяш усхапіўся з лавы:

— Не аб душы думаеш, а вунь пра што ўспомніла!.. Плявузгаць на роднага бацьку прыйшла?!. Мала я цябе, малую, дзяжыў!.. Марш, вылюдак, з маёй хаты!.. Марш адгэтуль, багахульніца!..

Ля парога дачка прыпынілася і сказала з пагрозай:

— І пайду. Пайду да чужых людзей, наймуся служанкай, наймуся да найгоршай работы, а Волеся выратую!.. Адно запамятайце, тату: нават унукам закажу, каб вас не прызнавалі!... Каб нават не глядзелі ў ваш бок!.. Цьфу на вас, — за Волеся, за Толіка, за маму, і будзьце вы праклятыя!

Вольга бразнула дзвярыма.

Людзі з Грыбоўшчыны памятаюць толькі адзіны выпадак, калі ён парушыў сваё правіла.

Ехаў неяк Альяш у лясніцтва. Мікалай Чарнецкі, які пры дарозе араў, заўважыў — з Альяшовага возіка штосьці выпала. Араты крыкнуў фурману. Тады выйшаў на дарогу ды падняў конскую торбу.

— Але і цяжкая яна ў вас! — здзівіўся Чарнецкі, узважваючы на руках Клімовічаву згубу. — Вы свайго буланчыка, дзядзьку Альяш, мабыць, чыстым аўсом корміце ды яшчэ солі сыплеце?!.

— Згубі-іў?!. — замітусіўся «прарок». — Ты глядзі!.. Як жа гэта яна ў мяне выпала?!.

Альяш развязаў вузел, і Чарнецкі ледзь не абамлеў, убачыўшы столькі грошай.

— Бяры сабе тры жмені за гэта! — запрапанаваў Альяш.

Чарнецкі сумеўся.

— Бяры, бяры!.. — таксама разгублена ўгаварваў Мікалая фурман. — Хату сабе пакрыеш гонтай!.. Або дахоўкай!.. У Стоках цяпер вырабляюць надта добрую — ніякі вецер не паб'е...

Але гэты выпадак здарыўся пасля, калі Альяша вынесла на вяршыню славы, і ён быў падабрэў да таго, што пачаў мяняць натуру.

Альяшова багацце разыходзілася абы як. За грошы, якіх не раскралі, дзядзька закупляў з пазалочанымі ланцужкамі вялізныя крыжы з Ісусам Хрыстом, тоны свечак, сярэбраныя кадзілы. Аж у Пачаева пасылаў людзей купіць ікону ў аправе з чыстага золата...

Аляксей КАРПЮК




**3.**

Першы раз давялося мне пабачыць «прарока» ў дзяцінстве.

Пра тое, што святы Альяш будзе ехаць праз нашу вёску, стала вядома страшаўцам за тыдзень.

На святога Альяша мы з братам надышлі, калі вярталіся са школы, і, як загіпнатызаваныя, доўга глядзелі на яго квадратовымі ад здзіўлення вачыма, і было чаго дзівіцца.

На фурманцы сядзеў такі сухенькі дзядок з даўжэзнай барадой ды цьмянымі вочкамі, якія патаналі ў шчаціні. На ім была саматканая світка, кужэльныя нагавіцы ды звычайныя сялянскія, ніколі не чышчаныя боты.

Успамінаючы цяпер тое, даводзіцца пацiскаць плячыма. Неверагодна дзіўных ідалаў выбірае сабе цёмная маса. Незразумелы часам яе густы.

Яшчэ больш нас з братам здзівіла Альяшова фурманка, якой святы сам і правіў.

Згодна са сваёй «навукай» Альяш у возе не меў ні кавалачка жалеза. Маленькі буланы конік цягнуў вазок з дзераўлянымі восямі. Нас уразіла, што замест атос ад колаў да аглабель пружынілася пара лазовых жгутоў. Хамут да аглабель прымацаваны быў вяровачкамі. Замест набедрыкаў — адзін падхвоснік...

Якія ўжо страшаўцы былі бязбожнікі, як яны злавалі на грыбаўца, а перад нечаканай беднасцю і дзівацтвам разгубіліся і яны. Нашыя мужыкі збіраліся яму напомніць, як разам разганялі музыкаў, завязвалі на галовы дзяўчатам спадніцы, складалі байкі пра святых і грэшнікаў, пра мацер боскую, але толькі зводдаль стаялі, панылa маўчалі ды пляваліся.

Затое страшаўскія бабы шалелі. З енкам і віскам жанчыны кідаліся перад возікам на калені, білі паклоны, лезлі цалаваць «прароку» рукі, крыссе світкі, боты,—нарабілі ляманту на ўсю вёску.

А падвечар таго самага дня новая хваля вандроўнікаў да Грыбоўшчыны затапіла наша Страшава. Солтыс (стараста) развёў іх па хатах начаваць. Нашаму дому прыпала мо з пятнаццаць бабак і мужыкоў з-пад Бельска. Бацька прывалок гарошмін і выслаў імі падлогу ў вялікай хаце. Мама назбірала трэсачак, распаліла ў пліце. Госці паставілі на яе гаршчок з кашай, а самі апусціліся ў гарошміны на калені. пачалі маліцца.

Праз нейкі час мама заглянула ў гаршчок і ўбачыла, што каша — пустая. Пашкадаваўшы людзей, прынесла збанок ды пырснула ў страву малака. Убачылі гэта багамолы, і іх нібы ўджаліла. Як па камандзе, людзі ўсе ўсхапіліся. Старэйшая жанчына з украінскім акцэнтам сказала:

— Яко ісчазает дым да ісчэзнет, яко тает воск ат лыца вогня, тако да пагыбнут бэсы ад лыца любяшчэга бога! Фу, фу, сатана, фу, згынь!..

Дзьмухнуўшы колькі разоў варожа на маму, бяльчане з гідлівасцю вывалілі кашу ў цабэрак і з абурэннем пакінулі хату.

**4.**

У Грыбоўшчыне Альяш мусіў выходзіць да народа па некалькі разоў на дзень.

— Ідзе! Ідзе!—чуўся паўсюль шэпт.

Цёткі і дзядзькі дружна падалі на калені і перапалохана ўзіраліся ў прыгорбленую фігуру «святога».

І вось Альяш спыніўся, сумным позіркам абвёў пляцоўку з падарункамі, чалавечыя целы, застылыя каля яго кален, паўзіраўся на здзіўленых дзяцей...

Некалькі хвілін яны так адны адных разглядалі. У мёртвай і напружанай цішыні сіратліва і трывожна прабляялі ахвярныя авечкі, з кузні ў Плянтах даляцелі рытмічныя пераборы кавалёў, а над усім гэтым недзе ў бязбрэжнай высі, так жа бесклапотна і ба-



На грудзях «прарока» — ордэны буржуазнай Польшчы...

---

Працяг. Пачатак гл. у нумары ад 15 студзеня г.г.

дзёра, як тысячу, дзве тысячы гадоў назад, званілі раўнадушныя да чалавечых клопатаў і бед невідочныя жаўрукі.

Альяш уздыхнуў зноў. Са спачуваннем ён паківаў галавой і ціха праказаў:

— Мае вы бабы!.. Мае вы мужчынкі!.. Мае вы людзі!.. Маё вы чада!.. Туліцеся, як авечкі, не ведаеце, якога бога шукаці!.. Папы, кудлы, не любяць нас, не лю-убяць!.. Я ведаю, ім—абы малебень адправіць і грошы вырваць!.. Няма ў іх веры, няма-а!.. Прапілі яны веру, прапілі, прабалявалі і панам яе прадалі!..

Людзі адразу асмялелі, заварушыліся. Трапнасць слоў прарока іх ужо зблізіла і аб'яднала. Яго думку дружна падхапіў тысячагалосы хор:

— І праўда, Альяшку!—крычалі ўжо некаторыя са слязьмі ўміленага захаплення на вачах.

— Ратуй нас, няшчасных!

У старога заблішчалі вочы, ён зрабіўся порсткі, павысіў голас да віску:

— Яны вас палохаюць, што калі не будзеце слухаць, то звёзды з неба паспадаюць!.. Няпраўда!.. Кожная звязда загарыцца ў вашых сэрцах!.. І агонь яе напоўніць вашы душы! Вы мне толькі верце!..Я кіем удару па моры, вада расступіцца, і я вас павяду па сушы!.. І павяду, пабачыце!..

— Вядзі нас, Альяшку, у зямлю абетаваную!

— Саваофе Ілья, злітуйся з нас!..

— Толькі ты можаш уратаваць нас!..

Чытаў Альяш святое пісанне, але гэта было ўжо надта даўно, а царкоўныя кніжкі побач з закарэлым посудам ляжалі на яго стале ўжо каторы год не раскрыванымі. Бедны інтэлект амаль непісьменнага мужыка больш не знаходзіў патрэбных слоў, каб растлумачыць людзям, куды іх збіраецца ён весці, што паказаць. Выпаліўшы завучаныя, як малітва, фразы, якія ён паўтараў кожны дзень па некалькі разоў, Альяш запнуўся. Усталявалася няёмкае маўчанне, але ненадоўга. Альяш стаў апавядаць пра званы і пачаў жаліцца на майстроў.

— Думаю так: трэба нам такія павесіць, каб іх у абедню не забівалі крынкаўскія, калі пачнуць званіць там... Каб нават у Гарадку нашыя было чуваць, і ў Бераставіцы, у Саколцы... Ды майстры, халеры, вельмі ж многа грошай хочуць. Па шэсць тысяч злотых за штуку!.. Я ім і кажу: з усяе Грыбоўшчыны згані вам кароў і то не хопіць на адзін звон!.. Не згаджаюцца!.. А што ім?.. Гарадскія жулікі абодва, хіба ім нашага мужыка зразумець?!.

— О-го-го!.. — здзівіўся нехта. — Па шэсць тысяч за штуку!

— Заламалі ца-ану!

— Нічога, на званы збярэм!

Людзі адчулі сябе свабодна — нібы на вясковым сходзе.

— Ты не шкадуй, Ілья, грошай на такую справу, не шкаду-уй! — крыкнулі яму з тлуму.

— Факт, шкадаваць не трэба!..

Нейкі дзядзька не вытрываў і аж усхапіўся на ногі, замахаў рукамі.

— А я скажу — от што!.. Эканоміць на званах — грэх! — адчайна віскнуў ён дыскантам і зноў упаў на мурог.

Супакоены Альяш адразу перайшоў да справы:

— Цяпер вы мне скажыце — чаго хочаце?

Разгубленыя людзі хвіліну памаўчалі. Усім было так добра, што яны забыліся, чаго сюды прыйшлі.

І ў гэты якраз момант шасцігадовая дзяўчынка, якая сядзела наперадзе з маладзіцай, з дзіцячай непасрэднасцю раптам спыталася:

— Дзядзя-а!.. А праўда... А праўда, што гэтая царква з зямлі вырасла?..

Праз натоўп пракаціўся стрыманы смяшок — такі, каб не парушыць урачыстасць хвіліны. Старыя ж бабулькі зашыкалі на маладую маці:

— Прывяла ў святое месца бахура свайго — дык сачы!..

— Усялякую распу-усту сюды вало-очаць!..

— І бо-ога не баяцца!..

— Звіні, Альяшку, чалавек божы, звіні!.. — спалохана ўзмалілася маладзіца і торапка стала апраўдвацца: — Малая яна яшчэ ў мяне, ды надта ж дасціпная!.. От, усё ёй, дурненькай, трэба ве-едаць, перапыта-аць!.. Манечка, што табе я казала дома?!.

Тым часам Альяш і не збіраўся бянтэжыцца. Ён на хвіліну задумаўся, як бы зазірнуў у сябе. Тады яшчэ раз уздыхнуў і не надта голасна сцвердзіў:

— Вядома, з зямлі!.. Цэгла ж і дзерава — з зямлі выходзяць, а як жа!..

Па натоўпе прабег магутны ўздых захаплення мудрасцю «прарока».

Калі ўсе супакоіліся, Альяш паўтарыў пытанне.

— Хворыя мы, Альяшку! — нарэшце, азвалася якаясьці цётка з перавязаным вокам.

— Слабыя і нешчаслівыя! — падхапіла другая.

— Няма долі!..

— Жыцця не маем!..

— І прыйшлі да цябе скардзіцца, вось!..

— Прымі ты нас і выслухай!

Падабрэлы дзядзька запрасіў:

— То пойдзем у цэркаўку ды памолімся!

Прапанову людзі ўспрынялі як міласціну. Усе ўдзячна загулі, заварушыліся. Зачараваныя Альяшовай прастатой і даступнасцю, пілігрымы пачціва расступіліся, каб прапусціць «прарока».

Праз шчыльны шпалер целаў Альяш накіраваўся да вялізных дубовых дзвярэй. Тых людзей, што стаялі з краю, раптам апанавала нейкая шалёная аддансць да Альяша. Бабы адна перад адной кінуліся цалаваць яго ногі.

Нарэшце, Альяш апынуўся перад царквой. Дзядзька з-за халявы вывалак даўжэзны ключ, адамкнуў вялізны замок і не спяшаючыся, са старэчай няўклюднасцю расчыніў масіўныя, цяжкія дзверы і ўвайшоў у сярэдзіну.

Праз вакенцы ў купале пранікала ў царкву крыху святла. Зіхацелі падсвечнікі з тоўстымі, у залатых абадках, васковымі свечкамі. Пад святымі абразамі з вышытымі ручнікамі аранжавымі агеньчыкамі гарэлі лямпады. Свежа памытую падлогу бабы для паху густа пасыпалі аерам і сітнікам.

Альяш патэпаў да алтара, апусціўся на адно калена і пачаў шаптаць малітву.

На душы ў яго было моташна.

Дзядзька не мог забыцца, як з падворкаў глядзелі на яго грыбоўшчынцы. Жонка з-за дзяцей усё жыццё ваявала з ім і надарвалася на рабоце. Сын яму не дараваў, напрасіўся на вайну і загінуў пад Пярэмышлем на аўстрыйскім фронце. Абедзве замужнія дочкі таксама не хацелі яго прызнаваць...

Гэтым часам памочнікі ўваліліся за прарокам першыя і разбегліся па царкве запальваць свечкі. Запальвалі іх шчодра — усе, колькі было ў падсвечніках.

Паступова губляючы стрыманасць і прыстойнасць, пачалі набівацца ў царкву і пілігрымы. Закаркавалі яны ўжо ўваход, некага здушылі, пачуліся енкі і крык:

— Ну куды, куды прэце, як быдла?!.

— Свінні, а не людзі!.. Чалавек да вас па-харошаму, а вы?!.

— Дай волю нашаму народу!..

Да «прарока» падпаўзла першая цётка.

— Што табе баліць? — прамалінейна і не надта ветліва спытаўся ў яе Альяш.

— Галава, Альяшку!.. Спасу няма, так мэнчыць!..

Клімовіч сціснуў далонямі скроні, прамармытаў колькі фраз з малітвы і аб'явіў:

— Ідзі, выздараўлівай, ды маліся богаві!.. І я буду маліцца за цябе!.. У цябе там, мабыць, паганая кроў застыла!..

— Дзякуй, божы чалавек!.. Каб гасподзь даў табе сілы і здароўя!.. І дзеткі мае будуць маліцца за цябе!.. І ўсім, усім я... Дай залатую сваю ручаньку, а яе — о!..

— Ну, добра, добра! — Альяш адарваў ад яе вуснаў далонь і, адпіхваючы цётку, закрычаў: — Ну, ідзі, ідзі ўжо, ідзі!.. А табе што?

— Сляпы я, Ілья-прарок!.. Сляпы ад нараджэння!.. Так хочацца ўбачыць сваіх!.. Зрабі цуд, божы чалавек!..

Памочнік падставіў паднос. «Прарок» плюнуў у яго, абмачыў палец і памазаў вейкі калеку:

— Калі ўсявышні злітуецца — празрэеш!.. Ідзі, прымай пост і маліся!..

У тую пару Альяша яшчэ не збіла з тропу слава. Ну, калі застыла кепская кроў у галаве чалавека, дапамагчы ён можа — хіба ён горшы за знахара ў Плянтах? Нават можа хапіць яго сілы, каб прапалі бельмы ці выйшла з дурнога нячыстая сіла. Але ж ці можа ён адрасціць руку, нагу? Такое моцы не было нават у Іаана Кранштацкага, дарма яму людзі яе прыпісваюць. Меў яе адзін толькі Хрыстос, які мог нават яшчэ і мёртвага ажывіць, і смакаўніцу засушыць, і буру суцішыць. Хіба ж дурным бабам гэта ўталкуеш?!

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1.

Цяпер мы ўжо сталі шмат разумнейшыя і да рэлігіі ставімся болей асцярожна.

Успышка рэлігійнага псіхозу ў выпадку з Альяшом узнікла як нейкая «духоўная патрэба», выкліканая ўмовамі жыцця ў былой Заходняй Беларусі. Не будзем высмейваць маіх землякоў — яны вартыя таго, каб іх пашкадаваць. Час быў не той.

Наш сусед, Клемусаў Міхал, імкнуўся ў царкву ад страху перад «няведамай сілай». Дзядзька Міхал разважаў перад намі, падлеткамі, так:

— А хто гэта ўсё стварыў?.. Адкуль узялося поле, лес, балота, расліны?. Вось сусед Трахім — такі здаровы і малады — памёр, а я — нядошлы і слабы — жыву. Чаму так бывае? Думаеце, так? Ён штосьці натварыў, толькі людзі не ведаюць. Але е такая сіла, якую не ашукаеш!.. Што ж, павінен там сядзець нехта галоўны і кіраваць, камандаваць усім гэтым!.. Вядома, аднаму на зямлі не справіцца, бог вымушаны заводзіць сабе памочнікаў, розных херувімаў, а нам пасылае час ад часу такіх, як Альяш!.. Грэх яму не пакланіцца!.. Тым больш, мы з ім некалі лес пад Студзянкай пілавалі!..

Другі сусед, малы Рыгарулька, перад маім бацькам разважаў крыху інакш:

— Ты, Нічыпар, смяешся з мяне, што еду ў Грыбоўшчыну?.. Святы ён ці не — хто яго ведае. Калі і на самай справе — недзе там бог е?.. Вунь, яўрэі ў Гарадку, не тое, што мы, неадукаваныя, — яны ўсе школы паканчалі, а ў бога вераць!.. Кажуць, нехта вычытаў у Бібліі, што перад канцом свету з'явіцца на зямлю прарок Ілья. Еслі і праўду людзі гавораць, дык, можа, Альяш — той самы прарок і е?.. Што, ён просты мужык?.. Так і святы Восіп быў звычайным столярам!.. А калі ўсё ашуканства — толькі і страты той, што праедуся да Грыбоўшчыны, плаціць за гэта нікому не трэба!.. Яшчэ выявіцца потым, што Альяш усё ж такі ад неба, і мне будзе лепш, як табе, што не ездзіў!..

І ўсе яны не ўмелі супраціўіцца той сіле, якая цягнула іх да сухога, барадатага дзядзькі з Грыбоўшчыны.

Так ці інакш, у Грыбоўшчыну ехалі многія, з вялікіх вёсак і малых, а ўсіх іх у былой Заходняй Беларусі налічвалася амаль дваццаць тысяч, і лёгка сабе ўявіць той кірмаш, калі прыехала толькі па дзве падводы з вёскі.

З'язджалася фурманак столькі, што ў грыбоўшчынскіх калодзежах неставала і вады. Пусцелі яны нават у суседніх Плянтах, Востраве, Нетупе, Гуранах, і паіць коней вадзілі за некалькі кіламетраў— у Шындзялку і Студзянскія сажалкі. Сялянскія вазы разлякоўваліся непраходным абозам вакол «святога» ўзгорка. І кожная такая падвода што-небудзь прывозіла.

Калі цяпер успомніш, як яны везлі, везлі і везлі падарункі, міжволі прыходзіць думка — дык вось адкуль бывалі некалі багатыя манастыры і саборы.

### 2.

Праваслаўнае духавенства дагэтуль хоць і не магло не бачыць, якую Клімовіч мае папулярнасць у цёмнай масе, глядзела на «святога прарока» скрозь пальцы. Калі ж Альяш пабудаваў сапраўдную царкву, духавенства стала перад складанай дылемай: што ж цяпер рабіць?

«Сектант і раскольнік? Так. А храм яго куды дзенеш?»

Глядзелі на самазванца адзін год, глядзелі другі, покуль усім стала ўжо ясна — далей так заставацца не можа. Каб не трапіць у дурні, не адбіць ад сябе веруючых, каб налажыць лапу на Альяшова багацце, духавенства, нарэшце, мусіла здацца.

Настаў дзень, і ў глухую вёсачку на шыкоўных лімузінах з Гродна прыкаціў архірэй — айцец Антоні — з вялікай світай. Прыбылі яны свянціць цэркаўку і прыручаць «прарока» Ілью.

Да айца Антонія з'явілася дэлегацыя мужыкоў.

У свежых ад дзёгцю ботах, у раз на год адзяваных касцюмах, паголеныя і малажавыя дзядзькі няўклюдна ўзялі дастойнага госця пад рукі і павялі яго на славуты ўзгорак, дзе з напружанай цікавасцю чакаў яго людскі мурашнік — сто тысяч сялян на чале з Альяшом.



Царква ў Грыбоўшчыне. На пярэднім плане—Тэкля, палюбоўніца «святога Альяша», і яго пляменнік.

Неўзабаве пачалася цырымонія асвянчэння. Амаль дзесяткі два бацюшак у раззалочаных рызах на чале з архірэем як належыць зрабілі таінства. Яны адспявалі, адмаліліся і абкурылі ладанам з кадзіл сцены новабудоўлі і далі ёй названне — царква святога Ільі.

Прысваенне царкве менавіта гэтага імені і ўся цырымонія яшчэ больш здабыло арэолу «прароку».

Айцец Антоні затрымаўся ў Грыбоўшчыне даўжэй.

Архірэй загадаў зараз жа зрабіць скарбонкі на грошы і расставіць іх пад святыя іконы ды каля ямаў, адкуль пілігрымы набіралі ў хустачкі святы пясок. Побач з царквой епіскап выбраў месца для філіяла Гродзенскага манастыра.

Узяўшы ў Альяша абяцанне, што ён не будзе дакранацца да прыхадскіх грошай, адправіць ад сябе Тэклю, якая з-за яго кінула мужа, айцец Антоні пастрыг Альяша ў манахі. Службу ў царкве архрэй даручыў весці бацюшку з вострава. Альяшу яшчэ прыставіў у памочнікі ігумена Серафіма, якога прадбачліва прыхапіў з Гродна.

Зрабіўшы ў Грыбоўшчыне гэткую пертурбацыю, архірэй са світай ад'ехаў.

Самае парадаксальнае, што ў гэтым спектаклі, які паставіў не то авантурыст, не то фанатык ды ўцягнуў у гульню мільёны цёмных і абяздоленых людзей, часам нават не дурныя людзі бачылі нешта такое, з-за чаго сімпатызавалі грыбоўшчынцу, і сэрцы іхнія пачыналі біцца часцей.

Тлумачыцца гэта проста.

Большасць бацюшак паходзіла з багацеяў. Свяшчэннікі справу мелі з кніжачкамі ды з паперкамі, а гэта на сяле высока не цанілася. Летам жа, калі мужыкі з жанкамі і дзецьмі надрываліся ў полі ад цямна да цямна, на іхніх вачах белыя матушкі з гладкімі папоўнамі вылежваліся сабе ў цянёчку. Дзеці свяшчэннікаў вучыліся ў гімназіях — разам з дзецьмі багацеяў.

Папы і ксяндзы хадзілі перад урадам на задніх лапках, падтрымлівалі наваленыя на мужыка падаткі. З паліцыяй, якая абдзірала селяніна штрафамі, бацюшкі былі ў самых сяброўскіх адносінах. Папы садзейнічалі акаталічванню і апалячванню беларусаў.

І вось Альяш падставіў гэтым папам ножку, ды яшчэ якую!

### 3.

Альяш не проста ўзбунтаваўся. Ён падняў супраць папоў цэлую вайну, нарабіў сярод іх панікі, выставіў іх у дурнях і насмяяўся. З Беластока прыязджаў мірыць іх сам ваявода Генрык Асташэўскі, але Клімовіч нават не стаў з ім гаварыць.

У Грыбоўшчыне сталіся вось якія выпадкі...

Айцец Серафім і манахі, якіх архірэй даслаў потым у Грыбоўшчыну, пасяліліся на вёсцы і пачалі быццам бы Альяшу дапамагаць. У вясковай глушы служкі божыя хутка запілі ды заблудавалі, але не ўлічылі, што ў маленькай вёсачцы кожны іх крок відаць, што такія паводзіны пярэчаць «вучэнню» Альяша. Гэтым часам абавязак перад кансісторыяй манахі выконвалі акуратна: усе падарункі, якія народ валок «прароку», яны старанна апрыходвалі ды адпраўлялі ў Гродна. І атрымалася — Альяш ды яго прыліпалы цяпер не мелі нават грошай на соль і газу.

Прарок спахапіўся, што яго абдурваюць.

Выйшла аднойчы цётка Чарвінская з хаты па ваду і каля Клімовічава дома ўбачыла маляўнічую карцінку. У манашскім клабуку на галаве, у доўгім падрасніку сам гаспадар у гародчыку касіў канюшыну для буланчыка. Яго Тэкля, абхапіўшы штыкеціны новага плота, залівалася горкімі слязьмі.

Усе жанчыны з Грыбоўшчыны бралі да сэрца перажыванні гэтай незвычайнай пары, не абыякавай да яе была і цётка Чарвінская.

Жанчына падышла бліжэй і паслухала.

— Алья-ашку мой, лю-убы, галу-бок мой ненагляадны, сірацінка мая мі-ілая, дзіцятка маё ро-однае!.. — жаласліва, не тоячыся перад суседкай, выводзіла

Працяг на 15-й стар.

З пошты ЛіМа

# ЗНАХОДЗІЦЬ ТОЙ, ХТО ШУКАЕ

Летась у нумарах нашай газеты ад 16, 23 і 30 кастрычніка і ў нумары ад 25 снежня былі надрукаваны артыкулы кандыдата філалагічных навук, пісьменніка Адама Мальдзіса «Сляды продкаў» і «Трэба шукаць». Аўтар расказаў аб пошуках беларускай культурнай спадчыны мінулых стагоддзяў, выказаў шчырае хваляванне за лёс многіх здабыткаў нашай культуры, заклапочанасць станам збіральніцтва і краязнаўства ў нашых музеях і бібліятэках. На гэтыя выступленні прыходзяць усё новыя і новыя водгукі. Сёння мы змяшчаем частку іх.

## УНІКАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

У ЦІКАВЫХ артыкулах Адама Мальдзіса «Сляды продкаў» і «Трэба шукаць», змешчаных не так даўно ў газеце «Літаратура і мастацтва», вялася гаворка і аб прыватных бібліятэках на тэрыторыі Беларусі. У тым ліку — аб бібліятэцы барысаўскага прадпрымальніка І. Х. Калдзеева. Аўтар выказаў думку: бібліятэку трэба шукаць, яна дзесьці павінна быць. Мне ўдалося сабраць некаторыя звесткі пра бібліятэку І. Х. Калдзеева.

Іван Хрысанфавіч Калдзееў пасяліўся ў Нова-Барысаве ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Цікавячыся гістарычным мінулым краю, ён асаблівую ўвагу надаваў падзеям Айчыннай вайны 1812 года, у прыватнасці — падзеям на Бярэзіне. Паступова кола яго пошукаў расшырылася, ён пачаў вывучаць усё пра рускую кампанію Напалеона, а затым і пра ваенныя падзеі ў Расіі і Францыі ў 1805—1815 гады. Маючы дастатковыя сродкі, Калдзееў паставіў перад сабою задачу сабраць як пабольш матэрыялаў аб вайне 1812 года, аб барацьбе рускага народа супраць напалеонаўскіх войск. Дакладна падлічыць усе матэрыялы, якія мела калекцыя, немагчыма. Тысячы кніг і газет, карт і ваенных планаў, часопісаў, малюнкаў, брашур, рукапісаў — усё гэта ўваходзіла ў збор беларускага калекцыянера. Адных толькі кніг, па падліках 1905 года, было каля пятнаццаці тысяч. Увесь кніжны фонд дзяліўся на раздзелы: рускі, французскі, польскі, англійскі. У апошнім раздзеле былі кнігі, што выдаваліся на іспанскай, італьянскай, шведскай і іншых мовах.

Асобную частку калекцыі складалі газеты і часопісы. Тут Калдзеева цікавілі не толькі выданні 1812 года, але і пазнейшыя, у якіх расказвалася аб падзеях Айчыннай вайны. Былі поўныя камплекты часопісаў «Русский архив», «Древняя и новая Россия», «Русская старина», «Русский исторический вестник». Сярод найбольш цікавых хацелася б адзначыць нумары газеты, якая выдавалася ў Мінску ў час французскай акупацыі. Газета выходзіла два разы ў тыдзень на двух-шасці старонках.

Асобым гонарам уладальніка калекцыі былі ваенныя карты, якія звычайна рэдка цікавяць збіральнікаў. Найбольш каштоўнай з іх была асабістая карта Напалеона, намаляваная ад рукі шляхам трохразовага павелічэння звычайнай рускай карты. На ёй усе назвы гарадоў і вёсак былі перакладзены на французскую мову. Гэтай картай Напалеон карыстаўся на працягу ўсёй рускай кампаніі.

Шмат матэрыялаў для сваёй калекцыі Калдзееў набываў за мяжой. Для гэтага ён часта наведваў Парыж, Вену, Берлін, Лондан.

Звесткі аб Калдзееве будуць няпоўнымі, калі не расказаць пра яго ініцыятыву, накіраваную на ўвекавечанне памяці герояў Айчыннай вайны. У 1908-10 гадах на месцы пераправы французскіх войск праз Бярэзіну працавала землечарпалка Калдзеева. Для гэтага вялікай і вельмі складанай сістэмай гацяў Бярэзіна была адведзена ад свайго левага берагу. Толькі затым пачаліся раскопкі і пошукі.

У 1910 годзе па абодва берагі Бярэзіны, дзе адбывалася пераправа французаў, Калдзееў паставіў два аднолькавыя помнікі. Яны былі ўзведзены па праекце карнета 1-й асобай артылерыйскай брыгады Н. В. Зарэчнага і ўяўлялі сабою трохметровыя гранёныя калоны. На адваротных баках абеліскаў былі прымацаваны дзве мемарыяльныя дошкі з надпісам па-руску і французску: «Тут перапраўляўся цераз Бярэзіну імператар Напалеон са сваёй арміяй 14, 15 і 16 кастрычніка 1812 года».

А. ПАДЛІПСКІ.

## ЗНІКАЕ БЯССЛЕДНА

У многіх старых гарадах рэспублікі і цяпер яшчэ шмат дамоў, аздобленых разьбою — сапраўдных твораў народнага мастацтва. Які ж іх лёс?

У Магілёве рэканструіруецца і капітальна перабудоўваецца стары цэнтр. Зносіцца шмат старых драўляных дамоў. Аднойчы я падышоў да супрацоўніка абласнога краязнаўчага музея, спытаў — ці робіцца што для захавання ўзораў драўлянай разьбы па дрэве, ці застаюцца пасля зносаў фотаздымкі, малюнкі дамоў? Адказ быў такі: «Мы папярэджваем будаўнікоў, каб нам паведамлялі аб зносе. Але яны гэтага не робяць».

Такім чынам, знос дамоў не спыняецца, нішто ад будынкаў не застаецца. Навуковыя ж супрацоўнікі музея спакойна глядзяць, як гіне багацце — старыя драўляныя дамы, аздобленыя высокамастацкай разьбой. Шкада будзе, калі яны знікнуць бясследна. А зараз яшчэ можна было б пазапасіць матэрыялаў для будучага музея народнага быту ці музея беларускай архітэктуры.

М. НОЖНІКАЎ.

## НЯСВІЖУ ПАТРЭБНЫ МУЗЕЙ

ПАКУЛЬ што гэты горад не наведваюць шматлікія турысты, хоць той, хто бывае, з задавальненнем знаёміцца са славутымі мясцінамі.

Гадзіннік гісторыі адлічвае Нясвіжу пяты дзесатак восьмага стагоддзя. Былі за гэты час перыяды славы і гады ліхалецця, гады бурных падзей і зацішша. Ёсць тут адзнакі небывалага багацця і сляды непраўгоднай беднасці. Сведкамі тых далёкіх падзей засталіся гістарычныя помнікі.

У цэнтры горада стаіць касцёл. Я бываў пад яго дахам, і мне заўсёды хацелася схіліць галаву перад цудоўнаю работаю архітэктара Яна-Марыі Барнардоні. Аднойчы апынуўся і ў касцёльным падзямеллі — усыпальніцы Радзівілаў. Але адтуль хацелася хутчэй зноў выбрацца наверх, замерці перад цудоўнымі фрэскамі, перад карцінай Юзэфа Хескага «Тайная вячэра», перад партрэтам з надпісам на польскай мове «Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля) 1862—1902 гг».

Сыракомля... Не, гэта не святы, гэта проста чалавек — польскі паэт, аўтар вядомай песні «Когда я на почте служил ямщиком», народжанай не ў шырокіх стэпах, а ў цесных вуліцах старога Нясвіжа.

Дзейнасць Уладзіслава Сыракомлі цесна звязана з гісторыяй горада. У 1833 годзе Уладзіслаў пачаў вучыцца ў Нясвіжскай дамініканскай школе. Праз тры гады ён пераехаў у такую ж Навагрудскую школу. Аднак лёс зноў вярнуў яго ў Нясвіж. Восенню 1840 года Сыракомля паступае на службу да Радзівілаў. Тут ён знаёміцца з легендамі Нясвіжскага замка, гісторыяй горада. Тут ён пачынае пісаць першыя вершы на польскай мове. Калі ў 1844 годзе выехаў з Нясвіжа ў Залучча, то напісаў там шэсць санетаў, прысвечаных гораду. Найбольш вядомы верш «Ілюмінацыя», напісаны ў 1856 годзе на тэму нясвіжскага тагачаснага жыцця — у ім апавядаецца аб жудаснай бесчалавечнасці Радзівілаў і іх паслугачоў. Верш быў забаронены цэнзурай як антыфеадальны.

Як відаць, не здарма вісіць у Нясвіжскім касцёле памятная дошка Сыракомлю. Але гэтай дошкі мала. Варта падумаць аб тым, каб яшчэ лепш увекавечыць памяць польскага паэта.

А які выдатны помнік культуры народа — Нясвіжскі замак! Ён уражвае велічнасцю, хоць вельмі і не вызначаецца архітэктурнай разнастайнасцю.

Працаваў калісь у замку тэатр, створаны Уршуляй Радзівіл. У 1563 г. з дапамогай паплечніка Сымона Буднага Мацея Кавячынскага выдадзены ў Нясвіжы песеннік — адзін з ранніх нотадрукаў на Беларусі. У Нясвіжы жыў філосаф Саламон Майлюк, які быў знаёмы з Гётэ і Кантам, выдаў у Берліне каля дваццаці твораў па філасофіі і матэматыцы.

Нясвіжскі замак — гэта яшчэ і цудоўная бібліятэка, створаная ў XVII стагоддзі. Праз сто гадоў у ёй налічвалася ўжо каля 20 тысяч тамоў на ўсіх еўрапейскіх мовах.

Багатая Нясвіжчына таксама рэвалюцыйнымі падзеямі, шмат цікавага адбывалася тут і пасля рэвалюцыі. Гэта адлюстравана ў многіх школьных краязнаўчых музеях, на іх матэрыялах вучні пішуць гісторыю родных мясцін. Аднак школьныя музеі працуюць яшчэ без усякай сістэмы, можна сказаць, стыхійна. А справа пайшла б зусім інакш, каб у Нясвіжы быў свой раённы музей.

Аб стварэнні такога музея ўжо шмат пісалі на старонках газет, пачынаючы ад раённай і канчаючы рэспубліканскімі, у часопісе «Знания — сила». Аб гэтым жа вёў гаворку Адам Мальдзіс у артыкуле «Сляды продкаў». Вельмі слушная думка выказвалася А. Мальдзісам і аб стварэнні ў памяшканні былой друкарні Сымона Буднага музея кнігі.

Сёння ў Нясвіжскіх кнігарнях няма ні паштовак, ні кніг, якія расказвалі б пра багатую гісторыю Нясвіжчыны, пра фарны касцёл і замак, пра выдавецкую дзейнасць Сымона Буднага, Мацея Кавячынскага, Лаўрэнція Крышкоўскага, пра дзейнасць гадзіннікавых спраў майстра і механіка Еўна Якабсона, які ў 60-х гадах XVIII стагоддзя стварыў першую вылічальную машыну — яна і цяпер захоўваецца ў нашай краіне.

У апошнія гады ў Нясвіжы шмат будуецца. Неўзабаве будзе здадзены ў эксплуатацыю рэстаран і гасцініца. Старое памяшканне рэстарана мяркуецца аддаць пад сталоўку, а там, дзе зараз сталоўка, думаюць размясціць склад. Але... гэты будынак таксама ж пад аховай дзяржавы! Гэта той самы «Дом на рынку», пра які напісана ва ўсіх кнігах па беларускай архітэктуры. Ці не сюды просіцца музей?

Або возьмем «сцяну» — старажытныя гандлёвыя рады — вакол былой ратушы, зараз Дом піянераў. Нядаўна яе рэканструявалі, адкрылі магазін культтавараў і «Кніжны свет». Аднак, каб хоць частачку памяшкання адвялі пад музей, то не трэба было б сёння гаварыць пра гэту праблему.

Думаючы аб усім гэтым, міжволі прыгадваеш радкі Уладзіслава Сыракомлі з яго «Вандровак па маіх былых ваколіцах»: «А выбіраючы вобласць надзвычай маленькую для падарожжа, мы хочам даць адчуць, што кожны куток краю, нават калі на першы погляд ён не прадстаўляе нічога надзвычайнага, можа быць прадметам даследавання; а такое вывучэнне можа стаць карысным для нас, бо мы сваю зямлю настолькі кепска ведаем...»

А. БУТЭВІЧ,
студэнт Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

## АРТЫКУЛ АБМЯРКОЎВАЕЦЦА Ў СЛУЦКУ

**Артыкул А. Мальдзіса «Сляды продкаў» абмеркаваны ў аддзеле прапаганды і агітацыі Слуцкага РК КПБ. На абмеркаванні прысутнічалі работнікі аддзела культуры гарвыканкома, краязнаўчага музея і гарадской бібліятэкі. Заўвагі ў адрас музея і бібліятэкі аб недастатковай збіральніцкай і навукова-даследчай рабоце па вывучэнні гісторыі Случчыны, выяўленні і набыцці экспанатаў дарэвалюцыйнага мінулага прызнаны правільнымі.**

**Слуцкі краязнаўчы музей працуе з 1963 года. Раней ён размяшчаўся ў адным пакоі, сёння займае сем залаў. Да юбілею нашай рэспублікі і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна праведзена вялікая навукова-даследчая і збіральніцкая работа па гісторыі Случчыны і савецкага часу.**

**Сёлета намечана перабудаваць і па-мастацку аформіць экспазіцыі чатырох залаў музея — перыяд гісторыі Случчыны ад старажытных часоў да чэрвеня 1941 года. Будуць папаўняцца фонды музея.**

**Калектыў музея прымае ўжо меры па выяўленні і набыцці слуцкіх паясоў, шкляных вырабаў з Урэцкай гуты, слуцкіх друкаваных выданняў XVII стагоддзя, кніг з асабістай бібліятэкі Бергеля. Наладжваюцца сувязі з музеямі і архівамі краіны, Кракаўскім музеем. Намечана правесці экспедыцыі па Случчыне па зборы матэрыялаў гісторыі і культуры раёна.**

**Разам з тым хочацца адзначыць, што паляпшэнню работы музея і іншых культасветустаноў раёна садзейнічалі б не толькі крытычныя заўвагі, але і практычная дапамога з боку навуковых работнікаў, якія займаюцца і даследаваннем дакументаў і іншых крыніц звестак па гісторыі краю.**

В. ГУРБО,
загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Слуцкага райкома КП Беларусі.

## ВАРТА ЗАХАЦЕЦЬ...

*ДОБРА, што хоць з некаторым спазненнем (шмат ужо страчана, разбурана, закінута) газета ставіць пытанне аб збіранні матэрыялаў мінулага, якія дапамагаюць нам разумець сучаснае, служаць выхаванню моладзі.*

*Няма патрэбы гаварыць, якое значэнне для роднай літаратуры, гісторыі і культуры народа мае творчасць Ф. Багушэвіча. Ці ж не шчасце для беларусаў, што засталася хата, дзе жыў у апошнія гады Францішак Казіміравіч, дзе ён працаваў. Аднак мала мы дбаем аб яго светлай памяці. Трэба ў бліжэйшы ж час прывесці хату ў добры выгляд.*

*Прачытаўшы артыкулы А. Мальдзіса ў «Літаратуры і мастацтве», мне захацелася сказаць вось пра што. У свой час я заняўся зборам літаратуры для арганізацыі школьнага літаратурнага музея. У мае рукі трапілі кнігі, аб якіх раней толькі чуў. Больш ста сарака гадоў хаваў народ кнігу А. Міцкевіча «Конрад Валенрод» пецярбургскага выдання 1828 года, і вось цяпер яна аказалася ў мяне. У Ашмянскім раёне амаль шэсцьдзесят гадоў хадзіла па хатах купалаўская «Жалейка» першага выдання (Пецярбург, 1908 г.). Цяпер яна таксама ў мяне. Адшукаў кнігі «Гапон» Вінцука Марцінкевіча (Пецярбург, 1907 г.), «Маладая Беларусь» (Пецярбург 1912 г.). Ёсць і беларуская кніга без пачатку і канца, дзе вершы Купалы, Старога Уласа, Лявона Лобіка, Алеся Гаруна, Якуба Коласа, надрукаваныя лацінiцай. Гэтыя знаходкі, безумоўна, не роўныя слуцкаму поясу ці крыжу Ефрасінні Полацкай. Аднак яны даюць падставу сцвярджаць: хто шукае, той знойдзе.*

І. ГОВАР,
настаўнік.
г. Ашмяны.

Яніс РЫЦАС

## ГАТОВЫ

Палаткі прыступкамі лезуць па схілу
пад самае неба.
Палаткі прыбіты да скал,
а шчыліны замазаны ўпартасцю.
Сонца гарпун уваткнула ў палаткі,
а гарызонт перакручаны,
як пояс жандара.

Прыходзяць дні і знікаюць,—
а скалы такія ж, як былі.
Калі-нікалі праплыве карабель,
воблака
цені шматок адкіне,
маленькі шматок, як ваконца,
прыадчыненае ў тую эпоху, калі яшчэ былі
дрэвы.

Усё — як было.
І каменне, і сэрцы.

Каменны ложак, на якім мы спім,
каменны хлеб, аб які точым зубы,
каменныя рукі, што падпіраюць сківіцу ночы.
Вятрам не пад сілу — каменне і сэрца.
Усё — як было.
Вецер згортвае малінавы сцяг нізкага сонца,
а ноздры марскія сапуць нам у твар.
О, што б ні прыйшло, таварыш,
мы будзем гатовы. Клункі ўжо за плячыма.
А нашы сэрцы — у клунках нашых.
Моўчкі даем клятву Дэмакратыі.
І так жа моўчкі круцім гузік на пінжаку сябра
нашага,
не таму, што няма чаго нам сказаць,
а таму, што вельмі яго любім.
(І так заўсёды:
калі любіш — цяжка гаварыць.)
Круцім галінкай дзікай алівы ў руках сваіх
і пішам на зямлі імя,
заўсёды адно і тое ж:
імя Свабоды,—
мы гатовы.

## АЛЕКСІС

Алексіс быў спакойны,
як той, хто выканаў свой абавязак.
Калі ён клаўся спаць, то засынаў адразу ж,
як той, хто выканаў свой абавязак.
Дзве грубых зямлістых ступні
вытыркаліся вонкі з-пад коўдры,
і тады платаны упэўненасці
прарасталі ўночы,
калі ж мы вымаўлялі імя тваё, Алексіс,
нібы казалі: «Заўтра будзе сонечны дзень».

Якім спакойным ты быў, Алексіс, —
глыбокай ноччу цябе разбудзілі, таварыш,
ты нават не паспеў звязаць клунак свой,
не паспеў зашнураваць чаравікі свае. Мы сачылі,
як пераступаў ты парог палаткі,
як шнуркі твае развязаныя валачыліся па зямлі.
Мы баяліся,
каб ты не спатыкнуўся, таварыш. Ты зразумеў
і ўсміхнуўся. І мы ўсміхнуліся.

Ды не, мы дарэмна баяліся,
ты ніколі не спатыкаўся ў сваім жыцці
і пераступіў цераз парог,
трымаючы сэрца сваё на далоні,
як вялізны ключ, якім адчыняюць сонца.

На драўляным ложку тваім засталіся
кавалак чэрствага хлеба і грабянец твой.
І тыя развязаныя шнуркі,


Мал. В. ТАРАСАВА.

што абвіліся вакол думак нашых,
як смутак, які засцілае душу нашу. Мы не
палохаемся.
Цябе судзіў ваенны трыбунал,
і адтуль на смерць павялі цябе, таварыш,
і адтуль вяртаешся ты ва ўсе сэрцы,
у вочы, у дрэвы, таварыш.
Вось чаму ты не толькі сумны,
але і радасны,
і ўпэўнены.
Зорка гасне і загараецца ў вачах тваіх,
гэта чырвоная зорка, якая ніколі нас не пакіне.

Вазьмі з сабой пару нашых апошніх цыгар,
няма ў нас нічога,—толькі сэрцы нашы, таварыш.
Вазьмі ў нас пару цыгар,
адну для сябе, другую для Харона,
прыкурыце ад адной запалкі перад вялікай
сцяной,
вядзіце размову, як два сапраўдныя мужчыны,
пра ўчарашнія ўрачыстыя шэсці,
пра заўтрашнія ўрачыстыя шэсці,
пра задачы камуністаў,
пра сусветную свабоду.
Гутарыце спакойна,
ты і Харон,
як два бывалыя ссыльныя,
пакуль курыце свае цыгары,
пакуль не прагрыміць першы залп,
абрываючы вашу бяседу
і сэрцы вашы.

Ты знаеш, таварыш,
што сэрца тваё будзе біцца ў нашых грудзях,
мы справу тваю давядзем да канца,
вось чаму ты такі ўпэўнены,
такі спакойны
і радасны.
І нам таксама радасна, таварыш. Мы не плачам.
Не, дружа. Плачам. Не ўтойваем.
Таму што мы камуністы і любім цябе.
Не будзе цябе ў барацьбе побач з намі,
таварыш,
і колькі б нас ні было, будзе нам неставаць
цябе,
неставаць вачэй тваіх,
яны былі, як блакітныя вокны, адчыненыя
ў глыбіні калідора,
неставаць будзе ўсмешкі тваёй,
яна была, як сцяг на балконе беднага квартала,
неставаць будзе рук тваіх, моцных і ласкавых,
яны маглі быць спрытнымі і маўклівымі,
быццам расклейвалі ўночы лістоўкі Рэвалюцыі.

Мы сумуем, таварыш, не ўтойваем,
і партыя сумуе — яна строгая сёння, маўклівая,
і суровая партыя сёння, яна не заплача, таварыш,
таму што кладзе твой чысцейшы партыйны білет
у архіў герояў Народнай Барацьбы.
Сёння ты стаў яшчэ лепшым таварышам,
таварыш,
Сёння мы сталі яшчэ лепшымі таварышамі,
таварыш.
Бывай, дружа. Спі спакойна,
так, у сваіх чаравіках—са шнуркамі развязанымі,
спакойна, як той, хто выканаў свой абавязак.

Спі спакойна — не бойся, таварыш,
і мы выканаем свой абавязак.

## ЗНАЁМСТВА

Каменнае сонца вандравала па небе,
спапяляючы вецер і калючкі пустэчы,
а вечарам яно стала на палоску мора,
нібыта жоўтая лямпа ў вялізным лесе ўспамінаў.

Нам неставала часу мілавацца гэтым, — але
іншы раз
мы кідалі позіркі—і на коўдрах нашых
разам з плямамі, зямлёю і костачкамі ад маслін
заставаліся кволыя лісцікі вербаў, колкія іголкі
соснаў.

Для нас яны таксама мелі сэнс — хоць гэта
і малаважныя рэчы,
цень ад двухзубых вілаў на паркане змроку,
тупат каня апоўначы,
якісьці колер, паміраючы ў вадзе,
ён пакідае за сабой маўчанне яшчэ больш
самотнае,
лістота месяца, раскіданая паміж чаратамі
і дзікімі качкамі.

Нам часу нестае, — няма яго, —
калі дзверы для нас — падобныя рукам
распятым,
а вуліца—нібыта чалавек, які толькі й гаворыць:
«Не ведаю».
Але мы знаем, што на скрыжаванні горычы
ёсць горад, у якім мноства агнёў,
там людзі ветліва вітаюцца паклонам.
Мы пазнаем гэтых людзей па руках,
па тым, як рэжуць яны хлеб,
па ценю іхняму, што падае на стол цішыні,
мы пазнаем іх і ў той час, калі ўсе гукі
дрэмлюць у вачах,
і толькі зорка бласлаўляе іхнюю коўдру.
Мы пазнаем іх па маршчынах барацьбы паміж
брывамі,
а больш за ўсё — па вечарах, калі над імі неба
робіцца шырэйшым,—
мы пазнаем гэтых людзей па канспіратыўным
жэсце,
калі яны кідаюць сваё сэрца, як нелегальную
лістоўку,
пад замкнёныя вароты свету.

Пераклад з новагрэчаскай
Алены КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ.

# ВЕРШАЛІНСКІ РАЙ

(Працяг. Пачатак на 12-й і 13-й стар.)

маладзіца. — Чаму, скажы, чаму нельга мне нават уха-аджваць за табой, нельга сці-ра-ці тваю кашу-улечку, наварыць табе е-есці?!.

— Адстань, не скуголь, як сука,—цыкнуў на яе Альяш.

Тэкля румзаць не перастала.

— І чаму ты паддаешся іхняй ула-а-дзе?!. Айцу Сера-фі-му так мо-ожна з Зоськай спатыка-аца, а мне з табой чаму забарон вы-ыйша!.. Зоська нават каталічка, якая яму пара, а мы з табой і ве-еры адной!..

— Што табе за дзела да іх?!. — зноў кінуў Альяш, толькі касой махаў ужо не так роўна.

Тэкля ўсё адным тонам, з завываннем, нібы па нябожчыку, цягнула сваё:

— А каб таго архірэя паралюш разбіў, як ён на цябе чорную адзежыну напя-аліў, як ён цябе на смех людзям вы-ыставіў, бы таму Самсону ручанькі і но-оранькі твае пазавя-зваў!.. Абдуры-ылі нас, буржуі, абдуры-ылі, кудры твае залаценькія пастры-ыглі, крыльцы майму саколіку яснаму падсе-еклі!..

Як і належыць сапраўднаму мужчыне, Альяш не вытрываў.

Не то Тэклі, не то Чарвінскай, не то самому сабе, ён сказаў:

— Што-о?!. Апранулі мяне ў гэтыя лахманы і думаюць — купілі ўжо?!. Яшчэ і камандаваць будуць?!. З кім размаўляць, з кім мне жыць загадаюць?!. Я ўжо нішто-о?!. У сваёй царкве не маю права зайсці за прастол нават?.. Серафім будзе мяне павучаць, як з народам гавары-ыць?!. А хто ён такі, адкуль узяўся?!. Дзё ён тады быў, калі ўсё гэта я сваімі мазалямі, гарбом сваім, жыламі выпінаўся?! У Гродне чай піў з коржыкамі?!. Пачакайце, паны-шкурадзёры, устрою ж я вам фокус!.. Мяне яшчэ Іаан Кранштацкі вучыў, як гэта зрабіць!..

Чарвінская выразна чула, як Альяш мацюкнуўся. Ён шпурнуў касу на канюшыну і порстка пабег з гародчыка.

Неўзабаве Альяш прымчаў пад царкву і паслаў дзяцей па манахаў.

Калі Серафім з брацціямі з'явіўся, калі збеглася палова вёскі, дзядзька Клімовіч сарваў з сябе падраснік, патаптаў яго. Потым схапіў кій, пачаў лупцаваць ім манахаў:

— Вон, каб вашай нагі больш тут не было!.. Вон з Грыбоўшчыны, не паганьце святога месца!.. Вы са сваімі архірэямі прадалі веру і мяне падбіваеце ўжо на гэта?!. А дулю бачылі?!. Вон, гіцлі, адгэтуль!

К вечару назбягалася з навакольных вёсак шмат багамолаў, і Альяш аб'явіў ім усім, што адкрывае сваю веру — «ільінцаў». Паводле новага вучэння, для ўразумення чалавечай душы з богам, з Ісусам Хрыстом, з мацерай боскай папы і манахі зусім лішнія. Быццам бы мужыкі і самі могуць даць сабе рады ў храме боскім...

На гэтым знакамітым сходзе Альяшовых прыхільнікаў выпаўз аднекуль і ўзяў слова «міністр прапаганды» новага «прарока» Аляксандр Данілюк з Каменкі:

— Правільна айцец Ільля, наш прарок, гаворыць! Як дом стары патрабуе абновы, так і вера наша за дзве тысячы лет надта састарылася, ужо ледзь не рассыпаецца і патрабуе направы. Ісцінна вам кажу. І гасподзь бог саслаў нам праз айца Іаана Кранштацкага прарока Ільлю з вёскі Грыбоўшчына, каб святую веру, якой пакланяліся нашыя дзяды і прадзеды, аднавіць, гнілое выкінуці, а ўстанавіць новае!..

— Першыя свяшчэннікі,—цвярдзіў ён далей,—не верылі ў прышэсце Хрыста і былі пакараны яшчэ раней... Другія свяшчэннікі з архірэем Антоніем на чале не верылі ў святасць айца Ільі, і гасподзь іх таксама сурова карае — аднімае паслушэнства ў паствы. Наш айцец, усемагутны Ільля, цяпер прызывае трэціх свяшчэннікаў — яны, ісцінна вам гавару, будуць усе людзьмі з простага народа, як і сам наш прарок!..

— Правільна, нам больш ніхто не патрэбен! — закрычалі з натоўпу.

— Слава яму!

— Свят, свят!.. Здзейснілася!.. Дзякуй табе, прасвятая багародзіца!..

4.

Альяш ужо шмат гадоў узварушваў цёмныя масы і прыцягваў да сябе іхнюю ўвагу. Прыгнечаныя і поўныя забабонаў, людзі па-свойму прагнулі справядлівасці. Толькі не да таго іх скіроўваў «прарок».

Свет перажыў ужо Кастрычніцкую рэвалюцыю. Савецкія людзі прыступілі да разгорнутага будаўніцтва сацыялізма, каб забяспечыць будучыню чалавецтва, і героямі сабе абралі — лётчыка Валерыя Чкалава, шахцёра Аляксея Стаханава, бураковода Марыю Дземчанка...

Толькі на Прынёманшчыне маёй жыццё людзей было запаволена, а талент і энергія людзей трацілася ліха ведае на што.

Тым часам санацыйная ўлада і не думала запаўняць вакуум у душах сялян Заходняй Беларусі, спыняць пажар «новага вучэння». Неўзабаве ўрад пачаў Альяша нават падтрымліваць. Урад Пілсудскага прыняў пастанову, і яе надрукавала ваяводская «Газэта беластоцка»:

«За будаўніцтва святыні і выдатныя заслугі перад Рэчпаспалітай узнагародзіць пана Эльяша Клімовіча з вёскі Грыбоўшчына Сакольскага павета ордэнам Адраджэння Польшчы».

Альяшу па пошце прыбыла ордэнская кніжка і запрашэнне — выкупіць ордэн, які яму належыць, у Беластоцкім магазіне рэгаліяў і ўзнагарод.

Працяг у наступным нумары.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**



Бацькі і дзеці.



— Юзік, дарагі, што-небудзь пра каханне...



— Адно і можаце — павучаць!

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.




—ЗНАЧЫЦЬ, афармляешся? Такім пытаннем сустрэў мяне знаёмы таксіст Хведар Сарока. Падаўшы мне валасатую лапу, працягваў:

— І да мяне ў экіпаж? Міласці просім. Толькі май на ўвазе, што наша прафесія — самая шыкоўная. Правы, канечне, маеш?

— Першы клас. У арміі атрымаў.

— Няблага. А горад ведаеш? Ці пятае праз дваццатае?

Я кіўнуў галавой — горада я не ведаў.

— Тады слухай маю рацпрапанову. Катаю цябе ўсю змену, горад намалюю ад галоўнай плошчы да апошняга завулка. Заадно — падвучышся і яшчэ сяму-таму. Сядай!

«Волга» з шашачкамі сарвалася з месца і вылецела за вароты аўтабазы. Гонка і мякка ведучы машыну па вуліцы, Хведар час ад часу пазіраў на мяне і ўсміхаўся.

— У нашай справе, брат, асноўнае— не спаць у шапку. Не праспіш — будзе план і да плана.

— Што — да плана?— не зразумеў я.

— Хутка ўбачыш...

Мы спыніліся на стаянцы, і адразу ж да машыны падбегла маладая парачка:

— На вуліцу Змітрака Бядулі. І, калі ласка, хутчэй.

— Не магу, — спакойна адказаў Хведар і выцягнуў з-пад сядзення скамечаную газету. — Чакаю кліента.

Бездапаможна азірнуўшыся на пустую пляцоўку стаянкі, хлопец прапанаваў:

— Плачу за хуткасць, па дамоўленасці.

Хведар нехаця схаваў газету, буркнуў:

— Ну, калі вам так прыспічыла...

Заехалі хутка. Хлопец зірнуў на лічыльнік, дзе выразна цямнелі лічбы 0 руб. 46 кап., і спытаў:

— Колькі?

— Два рэ.

— Што ж, дамова — не грошы, — сказаў хлопец і падаў Хведару два рублі. — Да пабачэння!

— Наша вам, — узняў фуражку Хведар і павярнуўся да мяне. — Вось і план, і да плана. Вечарам зойдзем у рэстаранчык, культурна пасядзім.

— А не брыдка? —спытаў я. — Чаявыя...

— Я на чай не бяру!— зарагатаў Хведар. — Я— на піва. — Раптам ён пасур'ёзнеў, заківаў галавой: — Разумею, разумею! Малады, прыстойны, сумленны... Сам такі быў... Ды вось абцёрся. І ты абатрэшся. «Все пройдет, как сон, как утренний туман» — заспяваў ён.— Зразумей: я не прашу. Самі даюць. А навошта ж крыўдзіць людзей?

— Самі? Вы ж вымагалі!

— Перабіраеш, брат! Але скажу: з кліентам заўсёды трэба патаргавацца. Калі яму вельмі трэба некуды, за рублём ён не пастаіць. У такіх выпадках важна памаўчаць. Кліент сам прапануе. Заўтра сам паспрабуеш — убачыш...

— Лішняй ні капейкі не вазьму!

— Падумаеш, цаца! Нідзе не дзенешся, возьмеш. Захочаш на кішэнныя расходы...

На зваротным шляху мы падабралі нейкую жанчыну з вялізным чамаданам і малюсенькай сумачкай. Хведар нават не ўключаў лічыльнік. Каля вакзала ён абыякава сунуў грошы ў кішэню і зноў узяўся за рычаг хуткасцей:

— Заедзем тут у адно месца...

— Не паеду!..

Я выскачыў з машыны і, не разбіраючы дарогі, пашыбаваў да аўтобуса. А Хведар ззаду крычаў:

— Ды зразумей жа ты! Нельга крыўдзіць кліентаў!..

Л. КАЛЬБЕРГ

## ПРЫКЛАДНЫ МУЖ

Ахайна апрануты малады чалавек зайшоў аднойчы ў бюро дырэктара Петарайта.

— Маё прозвішча — Шварцанштайн. Клаус Шварцанштайн. Сюзана, пэўна, гаварыла вам пра мяне. Мы сябруем з ёй паўгода, і я прыйшоў сёння прасіць рукі вашай дачкі. Спадзяюся, што вы не адмовіце. Мы кахаем адзін аднаго і разумеем з паўслова. Мне здаецца нават, што мы маглі б быць нечым накшталт ідэальнай шлюбнай пары.

Пан Петарайт усміхнуўся.

— Так, Сузі расказвала мне пра вас. І, як мне здаецца, вы сапраўды падыходзіце маёй дачцы.

— Дык, значыць, вы гатовы даць сваю бацькоўскую згоду?

Пан Петарайт зноў усміхнуўся:

— Не так скора, малады чалавек. Спачатку я хацеў бы задаць вам некалькі пытанняў.

— Калі ласка. Я з задавальненнем адкажу на іх, калі змагу.

— Каб не крывіць душой, скажыце мне, ці зможаце вы пракарміць сям'ю?

— Я — кіраўнік вялікай фірмы і зарабляю прыблізна 2.500—3.000 марак у месяц.

— Гэта больш, чым я, — міжволі ўголас прамовіў пан Петарайт. — Ну, добра. А ці ёсць у вас якія-небудзь клопаты?

— Клопаты? — малады чалавек здзіўлена паглядзеў на будучага цесця. — У мяне іх няма.

— Вы не курыце?

— Не.

— І не п'еце?

— Хіба чарку. Ды і то ў крайнім выпадку.

— Ну, тады вы, пэўна, цікавіцеся азартнымі гульнямі? Скажам, картамі, рулеткай? А мо ставіце на конных скачках?

— І гэтым я не цікаўлюся, пан Петарайт.

— Дык вы, значыць, свайго роду прыкладны муж. Гм... Шкада, малады чалавек, але я вымушаны вам адмовіць. Вы не той, які патрэбен маёй Сюзане.

Малады чалавек у здзіўленні ўскінуў бровы:

— Але чаму? Я не разумею...

— Зараз зразумееце... Бачыце, я не магу ўзяць вас у сваю сям'ю. Бо тады мая жонка будзе ўвесь час ставіць вас мне ў прыклад, а гэта, шаноўны, мяне зусім не радуе...

Пераклаў з нямецкай А. БУБЕН.

Павел САКОВІЧ

## БАЙКІ Ў ПРОЗЕ

### СЫН — НЕ ЛЕЎ

У час спрэчкі з жонкай дрэсіроўшчык з горыччу прамовіў:

— Я сам, можна сказаць, без анічыёй дапамогі, выгадаваў ажно трох ільвоў, а ты...

— А я выгадавала нашага сына і не ўпэўнена, ці змог бы зрабіць гэта ты!

### БЛЫШЫНЫЯ ХІТРЫКІ

Блысе даручылі стварыць танцавальны ансамбль. Тая, не доўга думаючы, запрасіла ўсяго аднаго артыста — саракаsuccessful.

Кажуць, блыху прэміявалі. За эканомію сродкаў.

### ПРЭТЭНЗІЯ

— Зусім затузалі! — скардзілася марыянетка. — Не даюць самастойна і кроку зрабіць!

### ПРАФІЛАКТЫКА

Рубанак кожны дзень здымаў з дошкі стружку.

— Дзеля прафілактыкі, — казаў ён.

А дошка худнела, худнела, аж пакуль не засталася ад яе... жменя стружак.

## МІМАХОДЗЬ

Н. КОЗЕЛ

Ён меў звычку казаць толькі «гоп». Скакалі за яго іншыя.

□

Свіснуў бы і рак, каб яго не зварылі.

□

Хлуса папрасілі схлусіць што-небудзь. Той адказаў:

— Часу няма. Рэчка гарыць, трэба бегчы.

□

— Трэба схадзіць да суседа, — гаварыў муж жонцы.—Даведацца, што ў нас дома робіцца.

□

Пачыналі плесці плётку, а звілі цэлыя лейцы.

□

Іншаму госцю, каб дагадзіць, і селядца мёдам мажуць.

□

Ён умеў пераканаць іншых, што каменне плавала, а пер'е танула.

В. БАРОДЗІЧ

Іншым часам і лёгкую музыку слухаць цяжка.

□

Грамаадводы ставілі для адводу вачэй.

□

Яго раённы аўтарытэт адышоў у вобласць... падання.

## З ПАДСЛУХАНАГА

*На сцэне самадзейны канферансье надта ўжо высмейваў у куплетах цешчу.*

*— Лёгка яму гэта рабіць, — уздыхнуў адзін глядач.*

*— Чаму? — спытаў сусед.*

*— Ды ён жа яшчэ не жанаты.*

□

*У парфюмерным магазіне.*

*— У вас ёсць што-небудзь для сівых валасоў?*

*— Канечне! Глыбокая павага.*

□

*Сустрэліся два рыбакі.*

*— Ну, як?*

*— Ды так, ледзьве шчупака не злавіў. Сарваўся, падла. А ў цябе?*

*— Таксама сарваўся. Праўда, крыху большы, чым твой.*

□

*— Розныя дзеці бываюць...*

*— Яно праўда. Адны бацьку дапамагаюць, іншыя ж на печ падсадзяць... шылам.*

Запісаў Р. БОХАН.

Эдуард СКОБЕЛЕЎ

## ФРАЗЫ

Стары паэт — гэта немагчыма, як старая раніца.

□

Ёсць дзве стадыі мудрасці. На першай шукаюць сэнсу жыцця, на другой — апраўдання гэтаму сэнсу.

□

Хто не мае рацыі цалкам, заўсёды бароніцца тым, што мае рацыю ў прыватнасці.

□

За недахопы свету больш за ўсё дастаецца роднаму дому.

□

Усе роўныя ў сваёй няроўнасці.

□

Мудрэц сваім вучням: «Калі вас не навучыла жыццё, я вам не патрэбен. Я тым больш вам не патрэбен, калі вас навучыла жыццё».

□

Вам цяжка ад таго, што вам лёгка. Але ці лёгка нам ад таго, што нам цяжка?

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856

АТ 07539

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.